УДК 821.161.3
ББК 84 (4Беи)
Б17

**Бацкель, А. І.**

**Б17** Маёнтак Рыбы / Аляксандар І. Бацкель. – Мінск: Ковчег, 2014. – 176 с.

**ISBN**

Вітражная кніга пра жыцьцё на сялібе, падалей ад цывілізацыі, наўмысная ізаляцыя дзеля творчасьці, чыстага подыху, яскравага бачаньня. Кніга пра містыку, вусьціш, фобіі, доўгавалосых дзяўчын, пра цела і пра жыцьцё вакол адной асобы.

УДК 821.161.3
ББК 84 (4Беи)

**ISBN**

## зьмест

## дуб

выхад з майго дому акурат глядзіць на стары дуб, які рос тут да майго дзеда і, напэўна, да дзеда майго дзеда... дуб вельмі вялікі, камель абхапіць здолеюць тры, а то і чатыры чалавекі. раней пад гэтым дрэвам вельмі любілі адпачываць падчас абедзеннай сьпёкі ўсе мае продкі, але цяпер пад ім пуста, мяне нейкім дзіўным чынам ня цягне бавіць час пад кронаю. я шмат пра гэта разважаў і прыйшоў да высновы, што, можа быць, мне трэба, каб у доме зьявіліся жанчына і дзеці, і тады я па-іншаму пачну глядзець на гэтае дрэва, якое, па сутнасьці, ёсьць сымбалем усяго майго роду.

раней я ня вельмі любіў сюды (то-бок на месца майго цяперашняга сталага існаваньня) прыяжджаць (гэта калі былі жывыя бабуля й дзед), усё імкнуўся ў вялікія гарады, але лёс вызначыў так, што вось мне трыццаць тры, і я тут адзін, і мне гэта падабаецца.

я не магу назваць сваю адзіноту самотаю, бо занадта часта прыяжджаюць сябры, але я магу назваць сваю адзіноту спакоем, цішынёю і доўгачаканым замыканьнем дзеля таго, каб, адасобіўшыся, скінуць увесь непатрэбны тэмп гарадзкога жыцьця і пачаць займацца сузіраньнем, мысьленьнем, паглыбленьнем.

вось так я прыйшоў да таго, што пачаў пісаць і зарабляць грошы праз натуральны продаж усяго, што можа даць зямля.

хм, дык вось, я стаю перад дрэвам – дакладней сяджу на ганку, на каленах ноўтбук, пішу пра дуб

і ўзгадваю, што, калі я быў малым падшыванцам, дзед павесіў на дубе арэлі, якія я здолеў паламаць за тыдзень, здаецца. а потым я шмат разоў намагаўся збудаваць на дубе які больш-менш трывалы шалаш, але з гэтага нічога не атрымалася, і дзед толькі сьмяяўся кожным разам, калі я цягнуў наверх фанэру, ступаючы па рыпучай драўлянай лесьвіцы, трымаючы ў роце цьвікі, а ў кішэні – малаток.

пасьля на дубе зьявіўся гамак, гэта я яго падлеткам павесіў, каб ляжаць і глядзець на лістоту і кавалачкі неба, марыць.

а потым я забыўся на дуб. і вось толькі цяпер ён выклікае ўва мне сьветлыя ўспаміны, дзіўна, сёньня даволі волка, пахмурна, але ўспаміны – наадварот – цёплыя, як малако зь мёдам.

## сумленнасьць

на днях прыяжджаў стары сябра, увечары, як звычайна, сядзелі каля вогнішча, пілі, гутарылі.

я не магу сказаць, што жыву далёка ад суседзяў, – акурат на той самай прыемнай адлегласьці, каб іх ня чуць і ня бачыць. але пра іх мне ёсьць шмат чаго распавесьці.

дык вось, суседзяў ня чую, ня бачу, але іхныя куры і нават некалькі індыкоў часам завітваюць у мой гарод, таму я сачу, каб не падкопвалі й не траплялі да мяне.

сядзім мы зь сябрам, п’ем, галоўнае – няма чаго есьці, і тут як наўмысна – у гародзе калупаюцца дзьве маладыя курачкі. сябра, доўга не разважаючы, кінуў у гарод першую рэч, якая трапілася пад руку, – бляшанае вядро!

такім чынам: на полымя паставілі рондаль з вадою, абварылі птушачак, зьнялі пер’е і ўжо пасьля патрашэньня – пасмажылі.

пер’е спалілі, вантробы таксама, як і галовы. сябра раніцаю зьехаў, а пасьля абеду да мяне суседка заходзіла, пыталася, ці ня бачыў я яе дзьвюх малых кур, дурніц, якія амаль штодзень зьбягаюць. я адказаў, што ня бачыў, а сам на ганку праз яе плячо вызіраў, ці нічога не пакінулі мы каля вогнішча.

вось яно, пытаньне сумленнасьці.

але, зь іншага боку, я нават і не пасьпеў бы ў той момант спыніць сябра ад забойства, увогуле не сачыў за ягонымі рухамі.

## гарод

у гэтым годзе вырасла неверагодных памераў кукуруза, пачаткі даўжынёй 30–40 сантымэтраў, і гэта пры тым, што яна яшчэ ня ўся сасьпела. і што адметна, уся буйная кукуруза прывезеная была мною зь Вільні! а вось беларускі сорт яшчэ толькі пачаў завязвацца ў пачаткі.

***

упершыню ў мяне пачаў расьці вінаград, набыў два кусты, яшчэ ў мінулым годзе, і ў гэтым сабраў пяць гронак, ды якіх – салодкія як віно! ёсьць ідэя размножыць гэты сорт і гандляваць ім. будзе першы беларускі вінаград, які смачнейшы за замежны «кішміш».

***

заўважыў, што таматы чэры, якія растуць у мяне на адкрытай прасторы, цалкам здаровыя і не хварэюць толькі з таго боку, дзе я пасадзіў марыхуану. раней я чытаў, што памідоркі вельмі добра сябе пачуваюць у атачэньні канапляных расьлін, пах каторых адганяе хваробу і інсэктаў. раю, але адначасова і не раю.

## сабака

у мяне ёсьць сваякі па бацькоўскай лініі. яны, як і мае тата й маці, жывуць недзе між Нясьвіжам і Слуцкам (але гэта ўсё ня мае адносінаў да таго, пра што я хачу гутарыць). дык вось, сваякі гэтыя жывуць неахайна, вечна ў іх усё бруднае вакол, за што ні возьмуцца – усё ламаецца. кожны год купляюць новую машыну, бо старая дзіўным чынам на вачах развальваецца, згнівае і невядома якім праклёнам памірае. дамы яны мянялі ўжо тройчы, але кожным разам дом, які яны засяляюць сабою, пачынае руйнавацца: сьцены абрастаюць цьвільлю, батарэі перастаюць грэць, печ ідзе расколінамі, газа зьнікае.

сваякі валодаюць вялікім кавалкам калгаснай зямлі, якая, якім бы чынам ні апрацоўвалася, у любым выпадку выглядае горш, ніж суседнія землі і нават уласна калгасныя.

ёсьць у іх вялізарны хлеў, які дастаўся ім у спадчыну ад далёкіх дзядоў. хлеў суседнічае зь яшчэ такімі ж хлявамі іншых жыхароў гарадзкога пасёлку, але іхны хлеў – самы недагледжаны, і, калі ідзеш паўз гэты будынак, цяжка ня ўлезьці ў сьвіное лайно, якое цячэ тут ракою і ўваходзіць невялікім рукавом у сьмярдзючую азярынку акурат за усімі хлявамі.

самі тыя сваякі раён хлявоў называюць Прагаю – бо будыніны старыя і стаяць амаль адзін на адным. сваё месца жыхарства завуць асабняком, а г. п. – Лёнданам! як ні круці, гумар у іх ёсьць.

вось кароткі накід пра сям’ю маіх далёкіх сваякоў, якія мяне, мякка кажучы, зьдзіўляюць ня ладам жыцьця, але стаўленьнем да жывёл, і, асабліва, да сабак!

любы сабака, які зьяўляецца ў іхнай сям’і, а гэта здараецца вельмі часта, адразу ж трапляе на доўгі ланцуг пад хату, альбо пад гараж, альбо пад хлеў, і сабаку шанцуе, калі ён трапляе на ланцуг пад хату, бо адтуль яму часам кідаюць якую абглыданую сьвіную костку.

самы жах – трапіць пад хлеў, дзе ланцуг не дае волі нават сесьці на сухой і чыстай зямлі, і сабака рэшту свайго кароткага жыцьця сядзіць па пуза ў лайне, якое сьцякае зь-пад хлева, сядзіць гэты сабака, скуголіць, гаўкае, брэша, вые, трасецца ад волкасьці, вароціць носам і вачыма ад гною, але як яго прывязалі, так на яго і забыліся, той нібыта мусіць абараняць уваход у хлеў, каб ніхто ня скраў сьвіней!

сабака павольна губляе спачатку бляск поўсьці, потым бляск у вачах, потым губляе вагу, потым жаданьне жыць, а потым яго ўжо і няма на гэтым сьвеце.

калі сабака трапляе на ланцуг пад хату, яго часам кормяць старою косткаю альбо цьвілым хлебам, а дзеці нават гладзяць па галаве. такі сабака ў гэтай сям’і можа пражыць год, бо ўзімку ў любым выпадку без абагрэву й жытла замерзьне.

сабака, які трапляе на ланцуг пад гараж, – бедны сабака, бо яго ня толькі ня кормяць, але й не пакідаюць у спакоі, бо галава сям’і, так бы мовіць «муж», кожны дзень, калі вяртаецца з працы, п’яны,

вядома, абавязкова пінае дварнягу нагою пад бок, яго сябры, якія заходзяць да «мужа» ў госьці ў гараж, каб выпіць і «адрамантаваць» чарговую машыну, б’юць сабаку, хто рукой, хто нагой, бо сабака ім замінае! сабака скуголіць, гаўкае, вые, хоча есьці, хоча ласкі, нават ад такіх спаршывелых істотаў, як яны. ад зьбіцьця сабака кульгае, рэбры яго ламаюцца, ён хутка памірае.

ня ведаю, колькіх сабак гэтыя людзі забілі й закатавалі, апошні раз чуў ад маці, што яны прыдбалі дзесьці аўчарку, якая пражыла ў іх роўна тры месяцы і трапіла пад колы машыны, калі тая заяжджала ў гараж. здаецца мне, аўчарка ведала, што робіць.

## сьненьне

дзіўнае было сьненьне: быццам я гляджуся ў трыльяж, і зь левага люстэрка на мяне бокам, адным вокам, глядзіць я, але нейкі вельмі малы, гадоў сямнаццаць, я з доўгімі валасамі, з гладкім тварам, і сьмяюся так варожа, у цэнтры люстэрка – я, які я цяперашні, а ў правым люстэрку я не падобны сам да сябе, але ўсё роўна – я, толькі нейкі сумны, і апрануты дзіўна, і няма ў мяне рук. і ва ўсіх трох люстэрках ззаду нейкія цені, варушэньні, і мне здаецца, што гэта бацькі прыйшлі, я радуюся, але – нічога не магу разглядзець як мае быць, бо ўсе тры адлюстраваньні замінаюць, яны варушацца, сьмяюцца, штосьці крычаць.

прачнуўся праз тое, што ў сьне пачаў крычаць, потым выявіў ацёклымі абедзьве рукі, уключыў сьвятло і дакладна вырашыў выкінуць стары трыльяж, ён мяне ад маленства палохае, асабліва ўначы.

і яшчэ заўважыў, што ўпершыню пасьля таго, як месяц таму ад мяне зьехала дзяўчына, я паклаўся спаць, выключыўшы сьвятло цалкам (то-бок нават таршэр выключыў). але маё сьвятло заўсёды адганяла ўсё жудаснае і кепскае, вярну яго зваротна.

## сонца

мяне заўсёды прываблiваюць думкі пра нашую Плянэту, пра яе экзістэнцыяльнае існаваньне. часта я ад гэтых думак пераходжу да прыкрых высноваў, што людзі самі па сабе як від – паразыты, прычым страшэнныя, самыя гнюсныя паразыты, бо сьвядома разумеюць, што робяць, і ад гэтага становяцца яшчэ горш.

вось сусед паставіў у доме генэратар (эканоміць), які працуе на салярцы, і мала таго, што гэты агрэгат вельмі гучны, а па вечарох немагчыма сядзець на вуліцы, бо рэхам гук распаўсюджваецца яшчэ гучней і далей, дык колькі выхлапу! колькі пераапрацаванай салярки выкідваецца ў паветра! неверагодна!

добра, аўтамабілі на электрычнасьці прыдумалі яшчэ ў шасьцідзясятых, і да гэтага часу толькі адзінкі езьдзяць па сьвеце на такіх машынах, і большасьць гэтых адзінак – у Эўропе, а менавіта – у Нямеччыне. і гэта толькі па тым чыньніку, што нафтавыя манапалісты, ці як іх там – нафтавыя курдупелі, трымаюць пытаньне электрычнасьці, вадароду й бэнзыну ў сваіх руках, тым самым маючы права вырашаць пытаньне як усіх гэтых экалягічных дамоваў, так і агульнага пытаньня існаваньня Плянэты. і што, мы, 99 адсоткаў ад колькасьці насельніцтва зямлі, ня можам вырашыць праблему нафтаздабываньня сярод гэтых курдупеляў? ну ня змогуць нафтавыя бароны пабудаваць яшчэ адзін грэбаны хмарачос у

Дубаі, ну скончацца нарэшце ўсе гэтыя войны з боку Амэрыкі, якая нахабна гвалтуе адну за другой краіны Бліжняга Ўсходу! хіба гэта кепска?!

мы нарэшце дапаможам той жа Кеніі, дзе людзі паміраюць з голаду, а вакол гарадоў месьцяцца нафтаздабываючыя кампаніі і кампаніі па здабычы алмазаў. даўно ўжо гэтыя праблемныя дылемы грукаюцца не ў міністэрствы і дамы прэзыдэнтаў, а ў нашыя ўласныя ўваходныя дзьверы!

і я, такім чынам, пакрысе дайшоў да таго, што пачынаю распрацоўваць плян мантаваньня сонечных батарэй на свой дах. і, можа быць, у бліжэйшай будучыні, калі ў мяне зьявіцца шмат грошай, вазьму й набуду сабе hybrid electric vehicle і ўжо зраблю штосьці сапраўды вартае Чалавека.

## лета

лета заканчваецца, і сёньня мне ўспомніліся найбольш смачныя ўражаньні, цалкам зьвязаныя з капілярамі языка, крывяноснымі сасудамі нёба, з жаваньнем, паглынаньнем і страваваньнем:

***

упершыню паспрабаваў зрабіць соўс з маладой кукурузы: італійцы маюць рацыю – неверагодна!

***

мой сябра прыдумаў новы кактэйль: ром зь бярозавым сокам.

***

надоечы быў на дні нараджэньня адной блізкай сяброўкі. галоўнай стравою стала былі сушы, якія, між іншым, вельмі хутка закончыліся, бо кожны з гасьцей апынуўся адным бяздонным галодным страўнікам, і пасярод сьвяткаваньня высьветлілася, што на стале, акрамя каньяку, мандарынаў і марынаванага імбіра, – нічога. і вось цуд! марынаваны імбір разам з мандарынамі пад каньяк – смачна, вельмі!

***

і апошняе адкрыцьцё лета – цёмнае піва з зэфірам.

## коткі

адзін малады чалавек, канчатковы рамантык, па-свойму вар’ят, з клясычным псыхічным наборам сындромаў, зьвязаных з галавою і ўспрыманьнем сьвету, трапіўшы на пастаноўку адной ня надта трывіяльнай п’есы, незваротна й неўзаемна закахаўся ў маладую акторку – спадарыню Ф.

каханьне маладога чалавека вылілася ў неверагоднае жаданьне хадзіць на ўсе пастаноўкі з гэтай акторкай і, па магчымасьці, пакідаць ёй падарункам, альбо перад грымёрнай, альбо перад дзьвярыма кватэры, маленькае кацяня.

трэба сказаць, што спадарыня Ф. была з таго гатунку жанчын, якія здольныя плакаць, калі бачаць сацыяльную рэкляму пра кінутых дзяцей, альбо калі фільм заканчваецца на мінорнай ноце, ці калі бачаць пакалечанага сабачку. таму зразумела, што ўсе гэтыя кацяткі, якіх яе прыхільнік браў у пітомніку (прадстаўляючыся валанцёрам дабрачыннай арганізацыі дапамогі хатнім жывёлкам), акурат апыналіся ў кватэры акторкі Ф.

кожны новы тэатральны сэзон для спадарыні Ф. набліжаўся неспасьцігальнай, невыратавальнай, захопніцкай дзейнасьцю кашэчых. яна ня ведала, куды іх падзець, сваякі даўно адмовіліся, сябры разьбегліся, а котак у кватэры станавілася ўсё болей і болей. некалькі разоў аматара тэатру лавілі міліцыянэры, але доказаў не ставала, каб увогуле пазначыць ягоныя дзеяньні як перасьлед жанчыны.

час ішоў, котак у кватэры болела, тэатральная акторка пераехала ўва ўласны дамок пад Менскам, расьсяліла котак па пакоях, якія тыя вельмі хутка абадралі й памецілі. але што магло спыніць усе гэтыя шалёныя падарункі, калі прыхільнік спадарыні Ф. увасабляў сваё каханьне і бачаньне сваёй музы менавіта праз кашэчую ласку, праз мяккасьць кашэчых лапак, праз муркатаньне й казытаньне маленькіх вусікаў на цудоўнай пысцы.

акторка спраўна, як па гадзінах, раз на тыдзень альбо на два атрымлівала кацяня, нават нягледзячы, што ў тэатры ўжо не працуе, ўвесь свой час выдаткоўвае на кармленьне, догляд і прыбіраньне за коткамі, якіх стала настолькі шмат, што спадарыня Ф. вымушаная жыць, есьці і спаць на вэрандзе, сама не адпачнуўшая, нямытая, прапахлая коткамі.

і аднойчы котак на ганку перасталі пакідаць. і спадарыня Ф. зразумела, што больш у сьвеце яе ніхто ня любіць.

**выратаваньне**

блякада Ленінграда: у адной з кватэр спальнага раёну, дзе дамы месьцяцца адзін на адным, жывымі засталіся толькі бабуля й унучка, бабуля спаліла ўсю мэблю ў кватэры, яны разам зьелі ўсе кансэрвы, увесь хлеб, нават дагрызьлі каменную корачку, а бацькі так і не вярталіся.

каб неяк сагрэцца, бабуля апранула кажух паверх яшчэ аднаго кажуха, сама легла, абняла сабою шасьцігадовую ўнучку і так яны й паснулі, дыхаючы марознаю параю.

на раніцу ў жывых засталася толькі дзяўчынка, бабуля акалела і так засталася, зьдзервянелымі рукамі абдымаючы любімую крывіначку.

іх знайшлі толькі праз суткі, праз крыкі ўнучкі аб дапамозе. знайшоў сусед.

каб дастаць з абдымкаў нябожчыцы дзяўчо, давялося ламаць памерлай бабулі рукі.

сусед унучку забраў да сябе і разам са сваімі дачуркамі і старэйшым сынам здолеў нейкім магічным чынам адаслаць іх зь Леніграду да сваякоў у Магілёў.

сам сусед да дзяцей не вярнуўся, а дзяўчынка пасьля вайны адправілася вучыцца ў Менск на настаўніцу, там і знайшла сваё каханьне, нарадзіла дачку, а тая ў сваю чаргу нарадзіла ёй унучку.

гэтая ўнучка два тыдні таму яшчэ сядзела са мною ў двары, перад вогнішчам, мы елі смажаныя

курыныя крылцы, пілі піва й віно, гутарылі, яна распавядала мне пра сваю бабулю, цуд, выратаваньне, лёс, а на наступную раніцу зьехала зваротна ў Менск разам зь сяброўкаю й сябрамі.

ня ведаю, ці пабачымся мы зь ёю яшчэ раз.

## галяграма

адно з маіх улюбёных заняткаў, калі хочацца разьмяць мозг, – разгляданьне прац Босха. гэта адзіны мастак, карціны якога мяне натхняюць, кожны ягоны пэрсанаж – гэта свая асобная гісторыя, якая вельмі лёгка можа памнажацца на дзясяткі іншых гісторый. мая мара – напісаць на кожную істоту Босха асобную мініяцюру, стварыць свой уласны Сад Істотаў, пераасэнсаваць сутнасьць існаваньня кожнае зь іх, паглыбіцца ў нэтры пачатку сьвету. гэта як дайвінг уласнага падсьвядомага, глыбей, глыбей – ціск падвышаецца, вось і кіслароду не стае, але ўсё роўна паглыбляесься. гэта як калі пачынаеш разважаць пра сэнс свайго жыцьця, калі думкамі даходзіш да той самай мяжы, дзе ўяўленьне ўласнага цела ў прасторы, што завецца атмасфэра, падаецца цалкам вар'яцкім і ненатуральным, быццам бы ты ня ёсьць сапраўднай жывой істотай і ўвесь гэты жыцьцёвы побыт, ня мае нічога агульнага з запачаткаваным жыцьцём.

пару дзён таму я даведаўся, што ўсе нашыя электроны і пратоны даўно ня самыя дробныя часьціцы, зь якіх складаецца сьвет, што ёсьць элемэнты, якія ўзьнікаюць пасьля сутыкненьня пратонаў, гэтыя часьціцы як іскры – ляцяць у розныя бакія, і склад у іх іншы, і падабенства незвычайнае, і вось сьвет складзены ўжо інакш, чым я ўяўляў, і вось гэтыя часьціцы ўжо запісаныя ў адмысловую табліцу, якая мае агулам 9 элемэнтаў, якія атрымалася ўбачыць,

сутыкнуўшы трыльёны пратонаў у Вялікім адронным каляйдэры ў Швайцарыі, стварыўшы сіксьцільёны новых элемэнтаў.

а далей распачала сваё існаваньне новая тэорыя сьвету – тэорыя Галяграмы. увесь наш сьвет ёсьць аднамерным, але праз тое, якім чынам рухаюцца пратоны, мы яго бачым як трохмерны, і гэты сьвет рухаецца, але насамрэч мы ёсьць адбіткам рэальнага сьвету. эксперымэнт даказаў, што, калі пратон праходзіць празь любы танэль, любы прадмет, які мае скразную дзірку, – пратон на выхадзе дзеліцца, то-бок увесь наш сьвет мае яшчэ адзін падобны сьвет, у якім я таксама сяджу за кампутарам, але пішу крыху інакш, і, магчыма, у мяне іншы колер вачэй, а можа быць, у мяне пішацца ня гэты тэкст, але саната. такім чынам вынікае, што наша сутнасьць неверагодна далёкая ад нас й неспасьцігальная, як і спроба ўявіць самога сябе галяграмаю.

і вось што яшчэ дзіўна – калі чалавек назірае за пратонамі, яны паводзяць сябе інакш, ніж калі за імі назірае кампутар, сам чалавек са сваімі ўласнымі малекуламі ўносіць у працэс дасьледаваньня збой – гэта мне здаецца самым прыўкрасным: калі мы хочам дазнацца пра існасьць сьвету, сьвет хавае ад нас сваю існасьць.

што тычыцца Босха, сёньня я прачытаў апавяданьне Эла Сарантоніё «Сэкта насатых» і ўпэўніўся, што гэты амэрыканскі пісьменьнік дакладна скарыстаўся Босхам, вельмі дакладна.

## нагода

сёньняшняй ноччу так атрымалася, што я ўспомніў адну старую нагоду, каб выпіць. нагода ня самая вясёлая, але вельмі блізкая і незваротная. як цяпер памятаю свае дзевятнаццаць год і другі прыезд Ханны. зь ёй я пазнаёміўся ўзімку, выпадкова, у кавярні Лёндан, я тады вучыўся на першым курсе.

Ханна сама з Польшчы, прыехала ў Менск да кузыны. нашае знаёмства й далейшыя тры тыдні адносінаў я магу назваць першым буйным каханьнем, якое сталася для мяне каштоўным, калі мінула пяць год.

калі мы толькі пазнаёміліся і закахаліся, я жыў быццам бы ў сьне: усе пачуцьці й успаміны знаходзіліся пад мяккім летнім пледам, я інтуітыўна жыў, кахаўся, назіраў за Ханнаю. я не да канца ўсьведамляў, што са мною адбывалася, усё навокал падавалася такім лёгкім, натуральным і што жыцьцё ёсьць такім, якім ёсьць. мы хадзілі ў кнт. «Пабеда», былі аматарамі аўтарскага кіно, падалі ў гурбы, сьмяяліся, у нас зусім не было грошай, але мы елі крабавыя палачкі з маянэзам і нам хапала.

і вось Ханна зьехала і вярнулася толькі ў канцы жніўня, я акурат пасьпеў прыехаць у Менск і засяліцца ў інтэрнат. з вахцёрамі была дамова, з суседзямі па пакоі – таксама. у нас быў тыдзень на ўсё, што мы заплянавалі, але за гэты тыдзень мы толькі тройчы пакідалі пакой.

а потым Ханна ізноў зьехала, і я яе ня бачыў тры гады. яна пісала мне лісты, малявала сама паштоўкі –

кожны раз былі выявы рыбаў, пісала такія рэчы, што ў мяне да гэтага часу сьціскаецца сэрца: ты маё каханьне, мой пачатак і канец, мой сапраўдны першы мужчына, мой, мой, мой.

мне варта было ехаць да яе ў Польшчу, тым больш, яна зьбіралася адвучыцца ў Кракаве й пераехаць у Бэрлін, а мне было вусьцішна, і я ня ведаў, якім чынам пераехаць да яе. а потым, яшчэ праз два гады, яна зьехала ў Бэрлін і да гэтага часу там жыве – у яе муж немец, уладальнік невялікай кнайпы ў раёне Ной Кёльн, яе сыну Андрэасу, напэўна, ужо больш за чатыры гады.

апошні раз яна мне пісала ў Фэйсбуку месяц таму, паказвала фота яе з мужам, сына.

я, між іншым, абраў зусім іншы шлях, і ўжо другі год жыву на старой сялібе.

было далёка за дванаццаць, я сядзеў каля вогнішча, піў самагон, разважаў пра сваё жыцьцё і ўспамінаў Ханну, калі мяне да непрытомнасьці напалохаў сабака. проста для ўяўленьня: ноч, цёмная, зораў няшмат, цьмяна сьвеціць месяц, навокал нікога, і тут каля маёй левай нагі зьяўляецца чорная аўчарка, сядае і кладзе мне на калена галаву. я адразу падумаў: усё, мяне сёньня зьядуць, але ж не, сабака, паклаўшы галаву, глядзеў на мяне з-пад ілба, сумны такі. я даў яму смажанай на вагні рыбы, ён пад’еў, пасядзеў яшчэ са мною хвілінак дзесяць і зьнік у цемры так жа раптоўна, як і зьявіўся.

і я вось думаю, можа быць, мне гэты сабака сасьніўся, можа быць, маё падсьвядомае дало мне крыху ласкі праз тое, што я ізноў засумаваў па мінулым каханьні?

## трусочкі

год таму я наўмысна набыў дзесяць маленькіх трусочкаў, цудоўных пухнатых трусікаў, некалькі зь іх нечакана апынуліся з прыгожымі шэра-блакітнымі пералівамі.

плян быў такі: адгадаваць кожнага трусіка ў дзесяцікіляграмовых монстраў, каб потым зарабіць на іхным мясе й поўсьці.

сур'ёзна, каб жыць у сялібе, не дастаткова гародзікі вырошчваць, трэба даволі спрытна варушыцца, налівачку гатаваць, мяска прапаноўваць у продаж, сыры, масла.

я вырашыў, што мяса трусоў – дыетычнае, само па сабе экалягічнае, здаровае, ну і нарэшце – дарагое.

сёньня раніцай паклікаў таго мужыка, які самы дасьведчаны сярод навакольных жыхароў, маўляў, замова ёсьць, бяром аднаго трусочка, якога ўжо цяжка памяньшальна-ласкальна называць – амаль дзевяць кіляграмаў чысьцейшага мяса й ані граму тлушчу, – забіваем яго і прадаем.

мужык выконвае мокрую справу, я даю яму два літры адборнай моцнай малінавай наліўкі, якая настойваеццца ажно з мінулага году.

я, скажу шчыра, ня надта рэальна ўяўляў, як гэта адбываецца – забойства труса, але адначасова ўсьведамляў, што мы жывем не ў Эўропе і што ў нас жывёла забіваецца ня так гуманна.

мужык прыйшоў, дастаў майго трусочка, шэранькага, са скураным носікам, ёбнуў яго па галаве нейкім паленам, менавіта ёбнуў! я ажно на нагах ледзь утрымаўся ад такога. потым гэты скуралуп нажом прайшоўся па лапках і хвосьціку, падвесіў тушку дагары нагамі і амаль за хвіліну сьцягнуў зь яшчэ цёплага і, напэўна, жывога, скуру з поўсьцю, нават з галавы яе зьняў, пакінуўшы толькі павекі й скураны носік. такі трус нагадвае мокрую котку.

я быў напаўжывы ад такога бачаньня, перад вачыма да гэтага часу стаіць чырвоная заслона і чорны носік.

мужык сказаў, што гэтак рабілі заўсёды, гэта так трэба, каб поўсьць лёгка адышла, каб трусік цёплым быў, каб яна, поўсьць гэтая, цэлая была, без парэзаў ад нажа і іншага.

такім чынам я вырашыў, што зь мяне хопіць аднаго трусочка, дзякуй, астатніх павыпускаю, няхай сабе вольна жывуць.

## ікра

калі я вучыўся ў БДУ, першы год пражыў у інтэрнаце, але потым перабраўся ў здымную кватэру, якую зь пераменным посьпехам здаваў па пакоях іншым студэнтам, а ў лепшыя часы жыў адзін і з дзяўчынаю.

была ў мяне на другім курсе такая дзяўчына, сьмешная, вясёлая, бацькі яе былі заможныя, ня роўня маім, ды й брат у яе быў спартсмэн – весляваньне, месцы займаў у сусьветных спаборніцтвах. зразумела, што я ёй мог даць толькі самае шчырае каханьне і больш нічога, бо ўсё астатняе ў яе было, нават жыла яна ў цэнтры Менску, акурат па-над крамаю «Панарама», у доме, што каля Сьвіслачы.

і вось адной дажджыстай восеньскай раніцай сталася так, што яна прачнулася ў маёй кватэры цалкам прастуджаная, але я ўжо быў на лекцыі і пасьля вучобы мусіў ехаць на другую зьмену на працу, падпрацоўваў афіцыянтам-бармэнам не скажу дзе.

звоніць яна мне, хрыпіць у слухаўку, кажа, што дадому не паедзе, вельмі далёка, тэмпэратура ў яе, будзе ачуньваць у мяне, і першае, самае неабходнае, што я абавязаны набыць і ўвечары прывезьці, – бляшанка чырвонай ікры, чатыры пакеты Тэрафлю, асобна анальгін і што-небудзь зь мятна-мэнтолявых пігулак для горла.

ладна, я нічому не зьдзівіўся, нават бляшанка ікры неяк прайшла праз маё разуменьне. прывёз я ўсё гэта дадому, аддаў ёй, і, перш чым распакаваць усё, яна адразу адкрыла ікру й лыжкай пачала яе

есьці і распавядаць, што ў ейнай сям’і такая завядзёнка – калі хтосьці хварэе, абавязкова набываюць яму бляшаную кансэрву чырвонай ікры, такім чынам хвораму чалавеку нашмат лягчэй перанесьці хваробу.

я ёй не сказаў, што за сваё жыцьцё тройчы каштаваў гэты дэлікатэс, і гэтыя моманты адбываліся акурат на Новы год, калі назьбіраных грошай хапала, каб адну баначку ікры размазаць па нарэзаным багеце альбо вельмі тонка парэзаным батоне з маслам, і на кожнага хапала роўна па паўтара бутэрброда. і я ёй не сказаў, што пазычыў грошы ў свайго зьменшчыка, каб набыць ёй ікру. яна, як дзяўчына, у якой зь дзяцінства ёсьць усё, што трэба, ніякім чынам не ацэньвала мае паступкі, мае ўчынкі, для яе ўсё было натуральным, як мае быць.

празь некалькі тыдняў я атрымаў разьлік, пайшоў у краму, набыў кансэрву чырвонай ікры і, пакуль нікога не было дома, зьеў яе лыжкаю, запіваючы півам. было салёна, але неверагодна смачна.

прайшло ня так шмат часу пасьля тых першых уражаньняў вакол ікры, як я знайшоў рэцэпт, які ня толькі замяняе смак чырвонай ікры, але страва пасапраўднаму вельмі смачная і даволі эканомная. фаршмак: адзін слабасалёны селядзец, тры морквы, чатыры плаўленыя сыркі «Дружба», 250 г. сьметанковага масла – усё гэта перакручваецца ў старой, вельмі старой мясарубцы, перамешваецца і падаецца намазаным тонкім слоем на белым хлебе.

## час

у прасторы час мае сваю гнуткасьць і кожнай жывой істотай успрымаецца па-рознаму. як нам немагчыма ўявіць сабе, што звычайная пладовая мушка дразафіла жыве пяць дзён і за гэты час нават двойчы ліняе, а гэта значыцца – пераходзіць розныя стадыі сталеньня, так немагчыма ўявіць і галапагоскіх чарапах, якія жывуць настолькі доўга, што нават перасоўваюцца ў прасторы й часе такім жа чынам, павольна, бо іхны тэмп жыцьця, калі нам і падаецца, быццам яны нікуды не сьпяшаюцца, насамрэч – хуткі і гарманічна супадае з жыцьцёвым рытмам.

мне цяжка ўявіць жыцьцё птушкі калібры, але для яе я – галапагоская чарапаха, якая амаль не перасоўваецца ў прасторы за той час, што яна пасьпявае праляцець ад адной кветкі да другой.

людзі прыдумалі час, бо так зручней пасьпяшаць куды-небудзь, спазьняцца й дамаўляцца на сустрэчу, адмяраць дзень, месяц, год, але векавы дуб адмярае свой час праз нарост новага слою дрэва, праз новую галінку, праз колазварот сонца на небе, а дразафіла за дзень пражывае сваё дарослае жыцьцё, адкладае лічынкі нашчадкаў, і на наступны дзень яна ўжо старая і, павольна назіраючы за тым, як абрыкос ператвараецца ў гной, разважае пра сутнасьць усяго на зямлі, калі горы, падобныя да волатаў, за дзень мяняюць свой стан, так і жыцьцё, павольна, але няўхільна, падводзіць сваю мяжу.

я б хацеў дасканала прачуць жыцьцё дразафілы, і я б хацеў прачуць жыцьцё чарапахі, але толькі аднойчы, бо мой час, час чалавека, мне бліжэйшы, нягледзячы нават, што зь яго можа пасьмяяцца любое векавое дрэва і любая мудрая чарапаха скажа, што жыў я як пладовая мушка, толькі пасьпеў нарадзіцца, а ўжо й паміраць час прыйшоў, а я як быў летуценьнікам, так нічому й не навучыўся.

## скваппнасьць

жыла адна дзяўчына, якая была вельмі сквапная, такая сквапная, што нават чорную гарбату запарвала па тры разы ў адным кубку, такая сквапная, што нават старыя панчохі перакройвала і рабіла марлю альбо некалькі падсітачкаў, такая сквапная, што брала старыя чаравічкі, ламала іх і выразала сьпераду дзіркі, і яны ўжо пасавалі быць басаножкамі, калі яна дачытвала кнігу, то абавязкова адкладала яе на паперкі для прыбіральні, альбо каб выцерці шкло, альбо, напрыклад, каб распаліць вогнішча, бо дзяліцца кнігаю яна не магла, таму што самі кнігі брала ў сяброў і сяброўак, проста прасіла ў іх непатрэбныя.

выпаў мне лёс зь ёю спаткацца на адной агульнай тусоўцы. я, вядома, пра яе шмат ведаў і не аднойчы сутыкаўся, некалькі разоў мы нават цалаваліся, бо мне яна падабалася, прыгожая, курва.

такім чынам выпаў мне лёс зь ёю на хмяльную галаву дамовіца на сапраўднае спатканьне, рамантыка і за ёю, рамантыкай, усё астатняе.

дамовіліся сустрэцца праз два дні.

сяджу я каля ракі, прыхапіў з сабою два пледы, тры сьвечкі, тры бутэлькі віна, бо сам п'ю больш, ніж усе абвыклі лічыць нормаю, нават захапіў сыр і прыдбаў вінаград. сяджу, карацей, чакаю. яна нар-

мальна так спазьняецца, але што такое спазьненьне для сапраўднага мужчыны, які чакае сваё палымяне жаданьне (каханьне).

яна пазваніла. сказала, што ў нас нічога не атрымаецца, і нашае каханьне – лухта, і нам лепей ня бачыцца больш ніколі. я нават зьмерз ад такіх словаў, па ўсім целе скразьняк прайшоў.

і трэба ж было так скласьціся лёсу, што ў мяне ў сябрах зьявіўся выдатны чалавек, цудоўны доктар, дэрматоляг-вэнэроляг, зь якім я не адну пляшку выпіў. аднойчы даведаўся, што неяк да яго трапляла наша агульная знаёмая, зь вельмі складанай праблемаю: набыла яна за вельмі танна ў сяброўкі памаду, якая ў сваю чаргу была набытая ў крамеканфіскаце, што на Машэрава ў Менску, і дзяўчына тая, мая, можна так сказаць, былая, прыйшла да доктара з вуснамі, якія амаль ляжалі на ейным падбародзьдзі, сінія, вільготныя, тлустыя, апухлыя вусны, спрэс аточаныя й згвалтаваныя герпэсам невядома якой ступені й пароды. сябра-доктар казаў, што яна ледзь рот адкрывала, прамаўляла нешта кшталту «ня ведаю нават, што і казаць». лячылі яе ў бальніцы, туды яна трапіла на наступны дзень пасьля таго самага вечара, калі я яе чакаў са сьвечкамі й пледам.

цікава, і колькі яна зэканоміла, калі набыла ў сяброўкі за танна памаду з канфіскату?

## пах

ехаў ад сяброў на маршрутцы, насупраць сядзела дзяўчына, сымпатычная, мне такія падабаюцца, ехала яна апранутая цёпла, бо раніцай нашае верасьнёвае надвор’е пакідае жадаць лепшага. едзем, а ў мяне ўсю дарогу эрэкцыя, я хаваю яе, то бок эрэкцыю, скураным заплечнікам, але ўсё роўна няёмка, такое адчуваньне, быццам бы кожны ведае, што я еду як нейкі маньяк.

маршрутка ўсё едзе і едзе, яе на калдобінах трасе й падкідвае, а для мяне гэта ўсё роўна, што дадатковая стымуляцыя, і вось ну нікога ў салёне, акрамя гэтай дзяўчыны, каб мяне ўвогуле зацікавалі, і дзяўчына тая сама па сабе едзе ў навушніках і на дарогу глядзіць, і я разумею, што маё ўзбуджэньне проста зьвязанае з пахам, з тымі самымі фэрамонамі, якія зыходзяць ад жаночага цела, яе ўлоньня, якія наш нос ня чуе, але мозг добра ведае, чым пахне, а пахне – сэксам.

мы, людзі, самыя што ні ёсьць дзікія жывёлы, і мне гэта падабаецца.

ва ўнівэрсытэце, я кожны год на лекцыях па літаратуры сядзеў на адным і тым жа месцы, побач зь дзяўчынай, якую нават не прыкмячаў, акрамя трох зімовых тыдняў, калі амаль кожны дзень я сядзеў узбуджаны, і кожную хвіліну мне хацелася цалаваць аднагрупніцу, яна падавалася самым прывабным на зямлі анёлам. і што гэта было, калі ня пах, спэцыфічны, танюткі, крыху мускусны, але заўсёды вар’яцкі, юрлівы.

калі зазірнуць крыху глыбей, магчыма пабачыць маю родную школу, дзявятую клясу й дзяўчынку Леру, якая аднойчы на цэлых два тыдні ператварылася ў Вэнэру. кожны аднаклясьнік глядзеў на яе і бачыў толькі сэкс, яна, калі ішла ў школу, была аточаная хлопцамі, якія ўсе як адзін прыдуркавата лыбіліся, а пасьля школы Лера ішла з заплечнікам, напампаваным паштоўкамі з прызнаньнямі ў каханьні. усе навокал на працягу двух тыдняў кахалі й жадалі кахацца толькі зь ёй. і гэта таксама – пах, падлеткавы юр.

калі я выходзіў з маршруткі, у мяне было толькі адзінае жаданьне, толькі б дзяўчына ня ўбачыла. я, левай рукой трымаючы заплечнік перад сабою на ўзроўні паху, правай рукою адчыніўшы дзьверы, сышоў на прыпынак, і мяне нарэшце адпусьціла.

## алькаголь

у мяне ёсьць сябра, які раней піў са мною як фанатык, піў шмат, і нашмат болей за мяне, нават дзяўчына, зь якой ён пазнаёміўся і пражыў пяць год, зьявілася зь ім праз пітво, і яны разам у першы дзень знаёмства напіліся да такога стану, што палівалі адзін аднаго півам з бутэлек, ну амаль як гэта робяць гоншчыкі на п’едэсталах. потым на другі дзень яны раніцай прачнуліся ў цалкам залітым і сьмярдзючым пакоі і пайшлі па піва, у шапіку набылі чатырнаццаць літровых «Аліварыя Дзесяць». а потым мой сябра перастаў піць, рашуча паставіў кропку, і пачаў піць пігулкі для пячонкі і шмат паліць, зь дзяўчынай ён разышоўся, кнігі кінуў чытаць, больш ня слухае нашу любімую музыку, схуднеў і ператварыўся ў змрочны прывід, і ўсё па тым чыньніку, што ён ані грама, ані каліва сьпіртнога не ўжывае, і гэта ў яго даходзіць да вар’яцкай фобіі.

усё шкодна: шмат піць і ня піць увогуле, шкодна, калі градус алькаголю высокі, і шкодна, калі градус нізкі, але па аб’ёмах чалавек заліты па самае нёба.

сусед мой – чалавек адэкватны, калі цьвярозы, але цьвярозым ён бывае толькі раніцамі па сьвятах, калі трэба быць чыстым і прыгожым, да абеду, скажам так. увесь астатні час ён п’е, а жонка ягоная, жанчына ўва ўзросьце сарака з паловаю год, толькі

і робіць, што вые на яго і б’е рыдлёўкаю альбо, там, граблямі альбо яшчэ чым-небудзь, што трапляе пад руку.

я сам п’ю, часам злоўжываю. сам гатую сідр і некаторыя наліўкі, якія лепей за ўсё ў мяне атрымліваюцца. але гатую толькі слабыя напоі, бо моцнае заўсёды падводзіць да мяжы несьвядомага эгаізму, незразумелага вычварэньня, да гнюснага стану шалёнага парсюка.

раней як было: налівачкі, пітны мёд ужывалі, квас хмяльны пілі. пакуль Мендзялееў не зьявіўся. але ў дадзеным выпадку хімік не вінаваты, і не вінаваты нават праз тое, што ён рускі. так, кепска й прыкра, што ў нас зьявілася гарэлка, але яна б зьявілася ў любым выпадку ў працэсе эвалюцыі. гаворачы пра алькаголь, варта зьвярнуць увагу на тое, што больш шкоды прыносіць злоўжываньне, і, вядома, самае гнюсная на сьвеце рэч – пладова-ягаднае віно, пасьля якога на раніцу чалавека адольвае неверагодна пачварнае і жудаснае пахмельле, такое моцнае й балючае, што іншага жаданьня, як яшчэ раз выпіць, няма. чарніла робіць чалавека жывёлаю, тупою нязграбнаю жывёлаю, але, здаецца, гэта пасуе сучаснаму грамадзтву.

я таксама, гатуючы наліўкі і сідр, трымаю дома колькі фляшак гарэлкі і чарніла, бо трэба час ад часу камунікаваць з асяродзьдзем, хаця б і па спра-

вах, і мне зусім ня хочацца, каб маё пітво называлі «бабскім пойлам». падавай ім сапраўднага, моцнага, мужчынскага.

і хто гэта выдамаў, пра гарэлку для мужыкоў? некаторыя мае сябры вельмі хутка й лёгка адрубаліся ад якаснай наліўкі.

але я тут пра тое, што раней, да таго як зьявілася гарэлка, у нас, беларусаў, сьвяты праходзілі весела і яскрава, з танцамі й песьнямі, але цяпер сьвяты падобныя да змрочных вечароў, калі акуратна і чыста апранутыя госьці накідваюцца да адурэньня гнюсным пітвом, пасьля чаго становяцца як скот, быдла.

## парсючкі

калі аднойчы зайшла гутарка пра забойства жывёл, то яна ўжо ніколі ня скончыцца, бо дадзеная дылема ўласьціва цалкам усім і кожнаму.

людзі, натуральна, ня так часта кранаюцца пытаньняў этыкі забойства, і тут не істотна каго: жывёлы, рыбы, жабы, смаўжа. кожная жывая істота мае права памерці абсалютна натуральна, чыста й бясьпечна, нават зь лёгкім адценьнем гонару. гэта тычыцца кожнага, але часта этычныя межы далей за чалавечую істоту не пераходзяць, і калі юдэі й мусульмане маюць наўмысна дзеля забойства чалавека дасьведчанага, адукаванага й веруючага, так і ў нас, беларусаў, павінныя быць такія людзі. бо забойства жывёлы цалкам і наўпрост зьвязанае зь ягонай душою, з рэлігіяй, і абсалютна нармальна, калі ў Эўропе пастаўленыя на канвэерны паток каровы забіваюцца высокім разрадам току, каб яны не пасьпелі нават за сэкунду ўцяміць, што зь імі адбудзецца. прынамсі, калі разважаць у гэтым накірунку, вядома, зьявіцца й такая ідэя, і яна высьветліцца рэальнаю, што любая жывёла, нават калі яе хутка забіваеш электрычным токам, перадсьмяротны момант добра разумее, бо ёй дастаткова толькі ўдыхнуць паветра, насычанае электрычнасьцю і фэрамонам сьмерці.

апошні раз я ўдзельнічаў у працэсе забойства сьвіньні, упершыню, заўважце, ад самага пачатку.

і я дакладна вырашыў, што, калі б быў жывы Міхась Стральцоў, я б яго адшукаў і проста ў вочы выказаў яму наконт усіх ягоных рамантычных памкненьняў «Смаленьня вепрука».

сьвіньні, дзікі, вепрукі, усе яны даволі блізка стяць да чалавека па генатыпічным кодзе, па групах крыві. на маладых сьвінках ня проста правяраюць касмэтыку, але нават вучацца біць татуіроўкі.

і вось якая карціна мне адкрылася: вялікага парсючка на павадку прывязваюць да слупа, перад пярэднімі капытамі ставяць вялікі таз і адным махам па горле – бац! і далей парсюк стаіць, раве не сваім голасам, хрыпіць, кроў з шыі густым струменем спачатку цурбэніць па сьценках таза, потым пачынае пляскаць па паверхні набеглай крыві. на гэта глядзець немагчыма, парсючок памірае доўга, і яго нельга дабіваць, бо як мага болей крыві мусіць быць зьлітаю. на гэтым я спынюся.

зьлітую кроў адразу пускаюць на такую рэч, як крывянка, альбо крываная кіўбаса, якая гарачаю падаецца на накрыты ў двары стол.

як? скажыце мне, як магчыма есьці такую ганебную і забароненую любой рэлігіяй рэч, як смажаную кроў? для нас, як мы ўсе кажам, «праваслаўных», а на любой іншай мове праваслаўны перакладаецца як «артадаксальны», як гэта для нас стасуецца зь Бібліяй? Калі, паводле Пісаньня, душа жывога стварэньня – гэта яго кроў?

такога мне ніколі не зразумець, але я дапушчаю адну думку, якая ўскосна можа быць апраўданьнем: такім чынам на Беларусі вымушаныя былі выжываць у больш цяжкія часы, калі не хапала ежы. але мы жывем у іншыя часы...

## выхвальства

адзін мой далёкі сваяк, якога я з натугаю называю сваяком, месяц таму быў, як і я, на вясельлі. маладому чалавеку дваццаць адзін год, але позірк у яго – бы ў ваўка, бровы як у арла, зрок гостры, нібыта лязо, і халодны, як раніца ўзімку, шыя доўгая, як у грыфа, і такім жа чынам падагнутая, плечы – роўна пад лінейку, пінжак на ягоным целе вісіць, быццам на вешалцы, нагавіцы адпрасаваныя да гострых стрэлак, лякаваныя чаравікі.

раней хлопец быў сумленьным юнаком, ахвотна гутарыў са мною, пераходзячы на беларускую, цікавіўся машынамі й добра цяміў у мэханіцы. у васямнаццаць год ён пайшоў, мінуўшы войска й ваенныя зборы, з тэхнічна-мэханічнага каледжу проста ў акадэмію ДАІ, і я ня ведаю, што зь ім здарылася, можа быць, трохгадовае выкладаньне «ідэалёгіі белоруссіі», але ён кардынальна зьмяніўся. са мною нават не вітаецца, дзяўчына, зь якой ён быў, распавядала гісторыю пра тое, як іх пад Менскам спынілі даішнікі і «нават майго Андрэйку аштрафавалалі!» ейнае «нават» гучала з такім патасам, быццам бы ехалі яны ў карэце й нікога не чапалі, усе навокал кланяліся долу, а тут штраф.

малады чалавек зарана атрымаў уладу кіраваць, штрафаваць, вырашаць чыйсьці лёс. юнак, мінуўшы інтэлектуальны рост і разумовае сталеньне, адразу ў нашай краіне трапіў у кампанію апошніх

ваўкалакаў, якія з рамантычнага дзіцёнка ператварылі яго ў выхвальнага, грэблівага зносінамі, патаснага й ідэалягічна згвалтаванага чалавека, які цяпер працуе ў «органах». перамену ў маладым чалавеку на вясельлі заўважылі ўсе, акрамя ягоных бацькоў і роднай сястры (тая, дарэчы, перабралася ў Менск і працуе судовым надзіральнікам), яны ўвесь час толькі й распавядалі, ях іхны нашчадак выкараскаўся з лайна і цяпер жыве на ўскраіне «сярабранкі» і ўжо нават жыгуль прыдбаў і бабу завёў, і праз два гады яму абяцаюць старэйшага, і, напэўна, ён будзе рухацца вышэй, па лесьвіцы «органаў».

я чамусьці ўспомніў сэрыю з Саўс Парка, дзе людзі настолькі паглыбіліся ў свой патас і выхвальства, што пачалі размаўляць з заплюшчванымі вачыма, строіць грымасы і нават нюхаць пахі ад свайго пярдзяжа, бо гэта ж іхнае, самае каштоўнае й сапраўднае.

## наглядчык

працягваючы аповед пра далёкіх сваякоў, узгадаю маю сваячку, якая акурат зьяўляецца сястрою таго самага недарослага выхвальнага даішніка. сястра даішніка зь дзяцінства марыла ўладарыць, і, вядома, у нашай краіне ёй наканавана было трапіць вучыцца на пракурора. ад самага пачатку яна, як і ўсе дзеці, была гульліваю, вясёлаю і вельмі любіла ўсіх на сьвеце, асабліва маму й тату. у пятнаццаць яна пайшла ў юрыдычны каледж у Слуцку, і вось на дадзены момант ёй сямнаццаць, і ёй прапанавалі практыку ў сталіцы! практыка – судовы наглядчык. уяўляем цяпер: 17 год, падлетак, можа быць, яшчэ ані разу не кахаў, з больш-менш сьветлымі пачуцьцямі, але безнадзейнаю мараю аб пракуратуры, трапляе на працу, дзе будзе вымушаны хадзіць па кватэрах і караць злосных неплацельшчыкаў і аліментшчыкаў, сачыць за тым, якія каштоўныя рэчы канфіскоўваць, і станавіцца ўсё больш зачыненым у сабе, пакуль не надыдзе той момант, калі сэрца цалкам замуруецца ў сьвінцовай вежы непаразуменьня й нежаданьня ісьці людзям на дапамогу, і не істотна якім людзям: алькаголікам, няздольным плаціць за кватэру, шматдзетным мамам, якія засталіся без кармільца, людзям, якія нахапалі крэдытаў і ня могуць іх аплаціць, інвалідам. здаецца, пасада судовага наглядчыка – жудасная пасада, ад яе шмат хто адмаўляецца, і ідуць на такую працу толькі людзі са схільнасьцямі кантралёраў, паліцаяў і заўзятых бээрсээмшчыкаў.

## рот

жывуць у горадзе дзьве дзяўчыны, даўнія сяброўкі, аматаркі піва й дыскатэк. жывуць яны разам вельмі ладна, ніколі ня сварацца, у здымнай двухпакаёўцы завялі котку, прыдбалі вялікі тэлевізар, па вечарох хлопцаў дадому водзяць, па чарзе ванны пакой займаюць, у моманты жарсьцяў музыку гучней уключаюць, потым усе разам глядзяць фільм, п’юць піва, гутараць, сьмяюцца, жартуюць. абедзьве дзяўчыны вельмі мілыя, адна, праўда, крыху прыгажэйшая, затое другая разумнейшая. яны ўвасабляюць сабою маладое пакаленьне беларусаў, якія ня маюць недасяжных мараў, плянаў і яшчэ чагосьці такога, на што трэба будзе выдаткаваць звыш дадзеных сіл. галоўнае, каб быў стабільны заробак, каб хлопец быў нармальны, бо апошні хлопец тую, што прыгажэйшая, пабіў і паставіў на цэлы месяц пад вокам сіняк, ёй было вельмі крыўдна праз гэта, але яна ўсё роўна не магла хлопца кінуць, пакуль той сам ня зьнік.

дзяўчаты доўга рыхтаваліся да гэтага вясёлага дня – дня нараджэньня, які яны адзначаць у адзін дзень, бо розьніца між іхнымі нараджэньнямі – тры дні.

зьнялі невялікі катэдж, запрасілі роўна дванаццаць гасьцей, з каторых ведалі толькі чатырох, бо астатнія восем – гэта сябры гасьцей. такім чынам атрымліваліся чатыры дзяўчыны, запрошаныя разам са сваімі хлопцамі, у дадатак два вольныя

хлопцы і плюс яшчэ два, на ўсялякі выпадак, бо сяброўкі ж надта вясёлыя, і ім хацелася б сапраўднага сьвята.

ну вось, госьці сабраліся, перазнаёміліся, вядучы, ён жа й дыджэй, разварушыў і напаіў, прыгажосьць сьвеціць у вокны, прыгажосьць сьвеціць праз вокны, прыгажосьць паўсюль.

першаю вырашыла праявіць ініцыятыву сяброўка разумнейшая, яна адразу адзначыла для сябе трох хлопцаў і вырашыла прамацаць глебу, хто зь іх ёй цікавейшы і каму яна больш даспадобы.

дзяўчына прыгажэйшая засталася з адным хлопцам, які падаваўся ёй незразумелым і ня надта прывабным, але пасьля выпітага і ён падыдзе. прыйшла дзяўчына, села побач з незразумелым барадатым хлопцам, і ня ведае, як бы так адкрыць рот, каб адразу пагутарыць нармальна.

і тут трэба заўважыць, што дзяўчаты, а на тое яны й сяброўкі, былі падобныя адна да адной праз тое, што калі хваляваліся альбо ня ведалі, як сябе паводзіць, замест дзявочага какецтва ці цнатлівай чырвані на шчочках, пачыналі мацюкацца праз кожнае слова, чуць такое было нясьцерпным, асабліва для маладога чалавека.

і вось, сьвята, вечар, усе выпілі й пачуваюцца як мае быць, сяброўкі з хлопцамі разьбегліся па цёмных куточках і пакойчыках на другім паверсе, вось свабодныя хлопцы, усе яны жадаюць камунікаваць

ня проста так, і нават гутарку на дадзены момант успрымаюць як штосьці ўводнае, як прадмову да кнігі.

дзяўчына, што прыгажэйшая, паварочваецца да хлопца тварам, усьміхаецца, пацягваецца і кажа: «ну, блядзь, я сёньня заябалася гэтае паці хуярыць!»

дзяўчына, што разумнейшая, седзячы, аточаная трыма хлопцамі, нічога больш разумнага не знайшла, як прамовіць: «ну што, пацаны, ахуенны вечар? вадзяра нармальна заходзіць?»

хлопец адразу крыху працьверазеў і прамовіў прыгажэйшай: «а ты ведаеш, што ў цябе вельмі брудны рот? бруднейшы за любую сьметніцу!» і застаўся сядзець, пакурваючы цыгарылку.

тры хлопцы ня мелі эстэтычных густаў, і проста ўтрох засьмяяліся, зарагаталі і пачалі шчупаць разумнейшую.

прыгажэйшая адразу пакрыўдзілася, і нават, упершыню ў жыцьці па-сапраўднаму засмуцілася, але ненадоўга, бо пераключылася на кампанію, якая рагатала.

на наступны дзень разумнейшая сяброўка, стоячы пад душам разам з прыгажэйшаю, казала: «а я табе што гаварыла, стромны ён, барадаты нейкі і з гальштукам, выдае на нейкага інтэлігента, нахуй такія патрэбны, вунь з нармальнымі хлопцамі пазнаёміліся, а той увесь вечар так і прасядзеў з сухастоем, напэўна! ха-ха-ха!»

барадаты хлопец зь дзяцінства выхоўваўся бабуляю, якая казала: «унучак, хто б што табе ні казаў, але калі ад дзяўчыны чуеш мацюкі, ведай, што рот у яе брудны, у такі рот ані ежы не пакладзеш, ані пацалалуеш у вусны».

і сапраўды, думаў хлопец, можна шмат разоў сказаць дзяўчынцы, што яны мацюкаецца і гэта кепска, але крыўдуюць усе толькі на «брудны рот», бо вельмі яскрава яго ўяўляюць, свой рот, які яны так даглядаюць, чысьцяць у ім зубы, наносяць на вусны памаду, усьміхаюцца ім, а ён аднойчы аказваецца брудным.

## вушы

мае вушы нічым асобным не вылучаюцца ад шараговых вушэй людзей, яны маюць падобныя завіхрэньні, такія ж самыя храшчы, і нават мочкі анічым не адрозьніваюцца ад іншых мочак, але адно маё вуха зайздросьціць вуху Ван Гога, а другое вуха марыла б быць вухам Бэтховэна. кожную раніцу я прачынаюся і разумею, што я не мастак, і кожную другую раніцу я прачынаюся і разумею, што я не кампазытар і нават не музыка, але кожную трэцюю раніцу я прачынаюся ўзрадаваны, бо маю шанец – яшчэ адзін дзень на тое, каб працягнуць пісаць і графаманіць, і гэтаму радуюцца абодва вуха, бо ў гэты дзень ад самай раніцы пачынае гучаць цудоўная музыка, перад вачыма зьяўляецца процьма выяваў, карцін і відзяжоў, якія настройваюць на свой асабісты, рамантычна-грэблівы лад да рэчаіснасьці, і анічога не чуваць, акрамя пустэчы звонку і шматгалосься знутры, і анічога не чуваць, акрамя пульсацыі вэн, акрамя трымценьня пад скураю, калі падсьвядомасьць перакручвае ў галаве процьму думак, і ўжо сасьпетая гісторыя, сасьпеты працяг раману, сасьпетае словазлучэньне, якое няўпэўненым парасткам прабівалася скрозь процьму думак і, нарэшце, дасягнула аднолькавага росту з астатнімі парасткамі, і праз вушы пачынаюць прабівацца ліяны пачутых знутры галавы словаў, якія кладуцца акурат на што заўгодна: паперу, Майкрасофт Ворд альбо адчыненае вакно жж. гэты момант настаў, і ён нікуды не

падзенецца, пакуль не паставіць апошнюю кропку. і тут пальцы, якія ўвесь час сьпяшаліся як мага хутчэй і дакладней перакласьці тое, што дыктуюць вушы вуснам, возьмуць адпачынак і выправяцца за гарбатным брэндзі, і настане вечар, і прыйдзе ноч, і хутка будзе новы дзень, і па падліках ён мусіць быць першым, а гэта азначае, што адно з вушэй пачне енчыць і прасіцца ў мастацкую акадэмію, але я ведаю, як яго суцешыць, ведаю, бо дастаткова толькі паказаць ёй кроў, як яно страціць прытомнасьць і зноў цэлы дзень будзе моўчкі назіраць і прыслухоўвацца да асяродзьдзя, чакаючы таго самага моманту, калі настане магчымасьць яскрава праявіць свае здольнасьці, але ўжо ня ў пары са мною.

## лічбы

сёньня такі настрой, настрой такі, хочацца гаварыць пра прыўкраснае, тым болей што ўчора была пятніца 13-га, і гэта, паводле ўсходніх традыцыяў, вельмі шчасьлівы й спрыяльны да ўсяго сьветлага час. і вось што я скажу, я люблю пятніцу 13-га, я яе люблю так жа цёпла, як і любую іншую пятніцу, нават люблю такую пятніцу, на якую выпадае дзень нараджэньня гітлера, сталіна альбо мікі маўса, для мяне куды больш вартыя іншыя лічбы, напрыклад 15, 7, 9. я даўно прыкмячаю, што зь імі я зьвязаны вельмі шчыльна і нават магу адзначыць некаторыя стасункі зь імі ж, напрыклад мая 15 – гэта мая каханка, бо столькі разоў я трапляў на лічбу 15 і на каханьне, што даўно абвык у такія пятнаццатыя дні спатыкаць штосьці рамантычнае, а часам нават з колерам жарсьці й пахам сэксу. мая 7 – гэта мая вучоба, бо вышэй за 7 мала што адбывалася, але й ніжэй я не атрымліваў. 9 – гэта мой закон і правапарадак, я 9 разоў па 9 з 9 выпадкаў трапляў на 9-ы дзень у малпоўню, бо толькі праз 9 бутэлек піва магчыма трапіць на 9 сутак, альбо пасьля намётаў на плошчы – таксама атрымалася 9-ка, таму я стараюся ня надта часта мець зносіны з лічбаю 9. але з усіх лічбаў і выпадкаў я буду памятаць лічбы 27 і 29, бо 27 – гэта дзень нараджэньня маёй мамы, а 29 – лічба-ўвасабленьне майго першага зьліцьця з жанчынаю. і на апошняе я ўсё-ткі назаву яшчэ лічбу 3, пра якую ніколі нікому нічога не распавяду.

## пахі

Гаспар К. вельмі баяўся, што канцэнтравана пахне потам, баяўся так моцна, што нават валасы на грудзях галіў, а са сьпіны выдаляў іх пінцэтам, бо яму падавалася, што сам пот хаваецца пад валасамі, падпахі ён ня толькі галіў раз на тры дні, але выдаляў дэпілятарам, каб з каранямі, потым мазаў цела талькам, так бы мовіць абястлушчваў, потым тонкай плёнкаў пакрываў грудзі, падапах й жывот дэадарантам Олд Спайз, які пад новым стыкерам быў новага зьместу і настолькі плотна пакрываў цела, што ніводная пора скуры не прасочвала вільгаць. але Гаспару К. гэтага было мала, яму падавалася, што ўсе тыя солі й мачавіна, якія праступаюць праз залозы, канцэнтруюцца цяпер на твары, і спадар К. пачаў мазаць спэцыяльным талькам твар, пагаліў галаву, пагаліў бровы, выдаліў усё валосьсе нават на руках і нагах, ззаду таксама ладна папрацаваў, і потавыя залозы спынілі сваю працу, арганізм пачаў выводзіць вадкасьць толькі праз ныркі й мачавы пухір. і калі пан К. хадзіў у прыбіральню, ён роўна трыццаць пяць разоў страсаў апошнія кроплі мачы і выдаткоўваў дзесяць квадратаў туалетнай паперы, чатырохслаёвай, абціраючы галоўку ад вільгаці, потым пырскаў асьвяжальнікам у паветра, не істотна пасьля якой справы ў прыбіральні, роўна восем разоў і выходзіў вонкі, мыў рукі тры разы мылам, два разы гарачаю вадою і адзін раз халоднаю, мазаў рукі пахучым крэмам, пырскаў на твар адэкалёнам, паголе-

ную галаву праціраў хусткаю й наносіў тальк колеру скуры. яму заўсёды падавалася, што яго мача пахне ня толькі потам, але й тым, што ён зьеў альбо выпіў, і ён больш не ўжываў каву, ня еў часнык, пасьля рыбы яму здавалася, што ўсё цела, а ня толькі мача, пачынаюць пахнуць рыбаю. з вадкасьці засталіся толькі вада, а зь ежы кабачкі, прыгатаваныя ў хуткаварцы. і аднойчы Гаспар К. на ноч нанёс столькі тальку й дэадаранту, бо назаўтра рыхтаваўся на спатканьне, што наўпрост задыхнуўся.

## гамлет

вось і закончылася мая эпапея з трусочкамі, кожны зь іх нарэшце знайшоў сабе новы дом і, ува што я ахвотна й аптымістычна веру, – ня страўнік, але кватэру, дах над галавою.

адзін белы з чорнай плямкаю дастаўся майму сябру, цяпер трус жыве ў трохпакаёўцы разам з гаспадаром, трыма дзецьмі, жонкаю і сабакам Чакам.

адзін белы з трыма чорнымі плямкамі на сьпіне выправіўся ў падарожжа ў сталіцу і будзе замест шчанюка хлопцу Антону.

адзін шэры, амаль блакітна-шэры, па памерах самы вялікі, быў набыты незнаёмцам на кірмашы ў суботу, дзе я наўмысна гандляваў раніцаю, даехаўшы ажно да Нясьвіжа. незнаёмец сказаў, што трус будзе галоўным асемяняльнікам у ягонай гаспадарцы.

два попельнага колеру трусочкі дасталіся дзяўчынца Віцы, якая ўсчыніла цэлую гістэрыку мамцы. спадзяюся, трусочкі будуць жыць у якім доме ў горадзе і іх будуць любіць.

трох трусоў набыў дзіўны мужчына, які вельмі доўга іх мацаў, напэўна, гэтым не пашчасьціла, пойдуць яны на стол камусьці ў добрай рэстарацыі.

і апошні трус, чорны, тоўсты й адвечна нейкі задуменна-млявы, застаўся ў мяне, жыве ў маёнтку з тыдзень, абвык, ведае, дзе яго талерка зь ежаю, пакуль што неахайна ходзіць па-вялікаму, ягоныя шарыкі паўсюль, але я не пакідаю сілаў і надзеі

зрабіць яго культурным трусам. завуць яго Гамлет, і ён сапраўдны бастард, зь першага дня палюбіў спаць у маім ложку, падраў прасьціну, нассаў на плед, зьеў тры кнігі, некалькі правадоў, але ён страшэнна мілы, асабліва калі яму чухаеш пуза, ён пачынае дрыгаць нагою, сабака гэты. думаю, хутка ён абвыкне зусім, і я яго пачну выводзіць на вуліцу, дзе яму адкрыецца новы сьвет.

## патрык

у мяне ёсьць барада, сьветлая, месцамі белая, месцамі залатая, месцамі іржавая. барада – мой блізкі сябра, які зьявіўся ў мяне, худога і нязграбнага, у дзясятай клясе. са зьяўленьнем гэтага сябра ў мяне пачалі вадзіцца піва й цыгарэты, бо сябра вельмі лёгка іх мне набываў. бараду завуць Патрыкам і мы зь ім неразлучныя. Патрык – аддданы сябра, найбліжэйшы мой дарадца ў пытаньнях філязофіі й каханьня. я зь ім сварыўся тройчы і добра памятаю тыя дні, нават тыдні, калі мой твар, паголены, чырвоны ад раздражняльнага ляза брытвы, павольна, але няўхільна зарастаў шчаціньнем. мы з Патрыкам звычайна мірымся, і першы крок раблю я, бо сам усчыняю сварку – мне часам здаецца, што мне лепей бязь сябра: і маладзейшым выглядаю, і сьвяжэйшым, але ж нельга так са старымі сябрамі, якія ў тваім жыцьці зьдзейсьнілі магічны пераход ад юнацтва да сталасьці, і я заўсёды выбачаюся, і мы мірымся, выпіваючы піва, я дзялюся зь ім чыпсамі, ён іх вельмі любіць, і потым крошкі ад ежы гадзінамі сыплюцца зь ягоных нэтраў. Патрык любіць курыць і вельмі любіць цалавацца зь дзяўчатамі, час ад часу я яго балую прыгожымі й доўгімі засмоктамі, але паліць кінуў, толькі хіба што траву, ад якой Патрык кашляе. сёньня раніцаю, як звычайна, мы прачнуліся амаль у адзін час, Патрык быў увесь ускудлачаны, зь левага боку ў яго нават быў зьбіты каўтун, але мы зь ім разам пасьміхаліся,

бо ноч была цудоўная, неспакойная й цёплая, нягледзячы на дождж. першым зь Юляю, якая таксама расплюшчыла вочы, павітаўся спачатку ён, а я толькі ўсьміхнуўся.

## вера

Вера Паўлаўна пачала працаваць у школе адразу пасьля заканчэньня пэдагагічнага ўнівэрсытэту. дзяўчына яна была бойкая, цяжкасьці ўспрымала як шараговыя выпрабаваньні, якія толькі ўзмацняюць дух, душу й цела. таму й ня грэбавала ані цяжкімі вучнямі, ані дадатковымі ўрокамі. з часам Вера Паўлаўна стала больш чэрствай, магла ня толькі бацькоў выклікаць, але й за вушы пацягаць і прыкрыкнуць як мае быць, і нават было некалькі выпадкаў, калі яна, заўважыўшы вучня каля школы з цыгарэтаю, давала яму па галаве, чым было на той момант у руках: журналам класнага кіраўніка, стосам сшыткаў, кнігаю. Вера Паўлаўна была тым самым чалавекам, пра якога казалі – «на сваім месцы». і хутка яна ўжо з класнага кіраўніка й настаўніка-выхаваўцеля ператварылася ў галоўнага завуча, жанчыну, якой падпарадкоўваўся нават дырэктар, бо ўсё, што яна казала і прапаноўвала, адразу зьдзяйсьнялася: загады йшлі ад дырэктара, а часам нават і ад гарвыканкама. у завуча зьявілася мянушка – Сабака Паўлава. Вера Паўлаўна пашырэла ў сцёгнах, яе хвост на галаве зацягнуўся шчыльней, зморшчынак дадалося ў кутках вачэй яшчэ болей. яна ператварылася ў сапраўдную жанчыну-вамп у росквіце бальзакаўскіх гадоў.

а потым сталася так, што акрамя працы ў яе больш нічога не засталося, і вельмі хутка надышлі

нэрвовыя зрызвы, няўдзячныя падлеткі, зьдзекі, адзінота, пэнсія, вар’яцтва.

апошнія разы яе бачылі раскудлачанай, сівой, у старым гарнітуры… яна стаяла каля дарогі й крычала на машыны, якія праяжджалі паўзь яе: «а ну ня бегаць па калідоры, ціха, я сказала!»

## ровар

мая прабабуля, колькі яе памятаю, любіла жартаваць: «войска польска на ровэрах». я не разумеў яе тады, не разумею і цяпер. яна такім чынам сьцябала палякаў ці іх слова «ровэр»? хаця сама была на палову полькаю, у яе ненаўмысна гэта атрымлівалася – кпіць. але зь дзяцінства яна мне прывіла грэблівае стаўленьне да назвы «ровэр». у самаго мяне тры ровары, будзем называць іх лісапедамі, бо ўсе тут навокал называюць іх лісапедамі. да таго часу, як трапіць сюды, я зваў свае двухколавыя рамы байкамі й горнікамі.

я паважаю ровары і вельмі добра стаўлюся да людзей, асабліва бізнэсоўцаў, мэнэджараў і іншых працаўнікоў офісаў, якія карыстаюцца стрыт-байкамі замест машыны, асабліва ў горадзе. мая бабуля спакайнютка садзілася і ганяла на лісапедзе па грыбы ажно ў суседнія паветы, кіравалася наўмысна па закінутых сьцяжынках і старалася ехаць не праз палі, каб ніхто не заўважыў, што яна выправілася ў свае знакамітыя грыбныя мясьціны, зь якіх выпадала часам прывозіць грыбоў на два гады закатак. яна заўсёды казала, што ровара ёй мала, што ў яе суседкі скутар ёсьць і ёй такі патрэбны!

прабабуля мая, наадварот, казала, што ровар ёй непатрэбны, яна на драбіне даедзе куды трэба, але ж так яна казала і ў тыя часы, калі ад каня засталіся толькі цьмяныя ўспаміны. ня ведаю, чаму яна так кепска ставілася да ровараў, можа быць, праз тое,

што не любіла палякаў, а можа быць, праз тое, што, як яна казала, усю маладосьць з Барысам пражыла, разам на адным ровары на працу езьдзілі – ён круціць пэдалі, яна – на раме ў сукенцы з васількамі. а потым Барыс нечакана памёр маладым, пакінуў ёй сына й стары ровар, ад якога засталася толькі ржавая рама, якую я пару дзён таму закапаў на двары, дзе жывуць куры, няхай яна нарэшце згніе, і зьнікне памяць і кпіны, і застанецца толькі тлустая, узбагачаная ржавым мэталам і курыным памётам зямля, на якой пачне расьці й высьпяваць штосьці чыстае й сьветлае, калі мяне ўжо таксама ня будзе.

і нешта мне падказвае, што калі яны разам ехалі, то мой прадзед любіў жартаваць, што едуць яны, баявыя, як «войска польска»…

## вязаньне

у чорным-чорным горадзе, у самым чорным раёне, у самым чорным доме, у самай чорнай кватэры жыве чорны чалавек. чорны чалавек кожны дзень выходзіць на чорную вуліцу, калі чорная ноч ахінае сваімі чорнымі крыламі і без таго чорныя дамы. і шукае чорны чалавек ахвяру. і знаходзіць чорны чалавек ахвяру. і робіць сваю чорную справу, і забівае ахвяру, і прыносіць дадому і кладзе ў чорную ванну. і расчляняе чалавек ахвяру. і выцягвае зь мерцьвяка ўсе вэны й артэрыі. выцягвае ён кожную вэну па чарзе, пачынаючы ад самых буйных і тоўстых і скончаючы самымі танюткімі. і зьбірае чорны чалавек зь цела ахвяры ўсе артэрыі і вэны і вяжа... вяжа сабе доўгі чырвоны-чырвоны шалік. і вяжа чорны чалавек мяккі вільготны чырвоны шалік.

## карнэль

у мяне зьявіўся сабака – самы сапраўдны супэрсабака, сабака-супэргерой. ён зьявіўся зусім нядаўна, некалькі разоў палохаў мяне, калі я сядзеў вечарам на вуліцы, аднойчы наважыўся падысьці вельмі блізка да майго вогнішча. сабака вялікі, напалохаць здольны, нават калі будзе ў намордніку й на ланцугу. я, вядома, ня проста напружваўся, калі ён зьяўляўся, я апантана шукаў магчымасьці зьбегчы. але вось ён ужо трэці дзень як прыйшоў і жыве, ласкавы, цёплы, пухнаты. якая парода – я ня ведаю дакладна, здаецца, ён аўчар, але колер у яго месцамі ідзе плямамі. можа быць, яго бацькі былі аўчар і пітбуль, ня ведаю, ён мне любым падабаецца, бо раней тут жыла Жучка, сапраўдная клясычная скандальная дварняга, пакуль яе машына ня зьбіла. пасьля Жучкі не было ахвоты заводзіць сабаку, але сабака сам прыйшоў да мяне. я даў яму імя Карнэль, вочы ў яго вельмі разумныя і лёс дзіўны, няхай будзе, як і паэта-драматург, апошнія гады жыць адасоблена, але ня так бедна.

і тут пытаньне: чаму Карнэль – супэрсабака? таму што ён учора пазнаёміўся з Гамлетам і адразу выратаваў яго ад пагібелі, бо часам каля маёнтка зьяўляецца дзікая котка, я яе падкормліваю, бо мне выгодна, калі зьяўляецца гэтая жывёлка, адразу кагосьці з грызуноў насьцігае сьмерць. гэтым разам котка вырашыла паганяць Гамлета, але нічога не атрымалася, бо Карнэль толькі аднойчы раскрыў

сваю пашчу, як пачалася сапраўдная бойка. параненыя ўсе, але больш за ўсіх дасталася котцы: тая, зьбягаўшы, валачыла заднюю нагу.

што тут скажаш, Карнэль, вядома, герой, але пасьля такога я яго таксама баюся, бо на свае вочы бачыў, што калі б пашча клацнула бліжэй да цела коткі, дык напалам і разьдзялілася б.

Карнэль – мой пёс, і, спадзяюся, будзе цяпер заўсёды побач.

## сідр

калі я быў малы, мой бацька зь дзедам напіўся самагонкі, закусваючы адным яблыкам, памятаю, бацька ня здольны быў падняцца, ляжаў пад плотам, ванітаваў сабе на плячо. дзед трымаўся лепей, на карачках, матляў галавою і мычаў, што самагон зварыўся выдатны.

мяне ўразіла тое, зь якой злосьцю маці праклінала адзін яблык, і пазьней шакавала, што, адышоўшы ад пахмельля, бацька таксама скардзіўся на яблык. я на той час ненавідзеў яблыкі, празь якія мой бацька выглядаў як апошні парсюк, а маці плакала.

што ён, гэты яблык, ня мог дапамагчы майму бацьку?

яблык – першародны грэх, і гэта відавочна. усё астатняе ня мае ніякага значэньня.

я таксама грэшны, бо ўжо які год гатую сідр. выціскаю сок зь яблыкаў, чакаю браджэньня соку разам з канцэнтраванаю салодкаю вадою, спыняю браджэньне, дадаю крыху гарэлкі.

я не наблізіўся да бацькі, ня стаў спакушацца на яблык пад самагон, я не валяюся амаль бяз сэрцабіцьця пад платамі, я не ванітую на сваё цела, але часам бывае, гляджу ў будучыню, а потым зваротна паварочваю галаву, пераглядаючы некаторыя свае дні і дзеяньні, і прывід, цень майго бацькі, стаіць недзе побач. я вельмі баюся стаць такім, як ён, – бездапаможным у сваіх прыхільнасьцях, чалавекам бяз прынцыпаў, чалавекам без уласьцівасьцяў.

**нос**

я – карлік-нос, я бадзяга, поўная віна, я сурвэтка, вільготная сурвэтка, пасьля таго як нос зрабіў сваю справу, але я хачу быць носам, але я не хачу адчуваць пахі, я хачу быць носам француза, я хачу быць носам армяніна й грузына, я хачу быць прыкметным, я хачу быць гонарам, я хачу быць носам зь вялікай літары Н, мне ня хочацца быць звычайным, ня хочацца быць як усе насы ў сьвеце, і я не хачу быць наперадзе, толькі наперадзе, я хачу быць носам, які ня чуе пахаў прыбіральні й згарэлай ежы, я хачу быць носам нэйтральным, знаходзіцца дзесьці на мяжы між сьветам вачэй, між тым сьветам, які бачыць левае вока, паводле традыцыі, і між правым вокам, якое падпарадкоўваецца сваёй усходняй завядзёнцы, і я не хачу быць карлікам-носам, але я майстра гатаваць, бо пахі робяць ежу па часе прыгатаванаю, я проста хачу кіравацца пахам, але ня пахам парфумы, ня пахам часу й ня пахам з-пад пахі, ня пахам спарахнелага часу цяпер і зараз, я хачу заставацца носам сьвежага паветра й сьвежай раніцы, дыхаць толькі вытворчасьцю дрэваў, дыхаць ня дымам цыгарэт і смугою ранішніх маршрутак і дызэльных аўтобусаў, але дымам ад вогнішча, полымем дзікага пачатку, усяго таго пачатку, дзе губляюцца паняцьці мэнэджмэнта, рэкламы, маркетынга, усяго, што ніколі ў жыцьці ня зможа прынесьці сапраўднай карысьці й шчасьця.

## паламаны

ня так далёка ад мяне, як хацелася б, жывуць два чалавекі, звычайныя мужчына і жанчына, яны шараговыя абывацалі, але, як і кожны шараговы абывацаль, яны адметныя сваімі ўнутранымі перажываньнямі, сваркамі, каханьнямі, якія робяць іх жыцьцё цалкам непаўторным. яны сярэдняга ўзросту, яго гады імкнуцца да пяцідзесяці, яна распачала сярэдзінку саракагодзьдзя. ён – той самы мой сусед, які п’е як артыст. ён паламаны, як сам і кажа, і выглядае на ўсе шэсьцьдзясят, яна таксама да такіх лічбаў падобная. гаспадарка ня робіць іх моцнымі й мужнымі, пітво ня робіць іх бадзёрымі, але ў іх, я магу дакладна сказаць, – жыве каханьне, самае сапраўднае.

дзесяць год таму ён нажлукціўся да амаль сьмяротнага стану, яна крычала на яго, але, зразумела, ён не рэагаваў, потым яна ўзяла рыдлёўку й так ляснула яго па сьпіне, што зламала ня толькі рыдлёўку, але й сьпіну. цяпер ён паламаны, нават інваліднасьць мае.

але ён як глядзеў на яе вачыма сабакі, так і да гэтага часу глядзіць, а яна кожны вечар б’е яго, цяпер ня так моцна, але ж. і крычыць, і б’е, а ён п’е і п’е, і нічога не мяняецца, толькі каханьне застаецца, бо кожную раніцу ён яе кліча «каровушкаю». стане на ганку, скасабочаны, запаліць і крычыць: «жонушка-каровушка! ходзь сюды...»

такое каханьне.

## гарбуз

з гарбузом у мяне зьвязана шмат асацыяцый. і беларуска-ўкраінская традыцыя, і сьвята ўсіх сьвятых, і папялушка ў карэце. але да пэўнага часу для мяне гарбуз быў цалкам звычайным плодам, якія я не ўспрымаў у якасьці ежы, акрамя як марынаваным з пацісонамі. і ўсё зьмянілася, акурат калі я прачнуўся чароўнаю зімоваю раніцаю, год таму, а на кухні стаяў пах. незвычайны для мяне пах прыгатаванай ежы.

гэта Люба, дзяўчына, зь якою я быў знаёмы ня так даўно, але ўжо быў у шчыльных стасунках і даскачала дасьледаваў яе сэксуальнасьць.

ці трэба казаць, што калі каханкі толькі пачынаюць адзін аднаго дасьледаваць, яны на гэтым этапе пэрманэнтна галодныя. я прачнуўся з адчуваньнем такой неверагоднай пустэчы ў страўніку, што празь некалькі сэкунд быў ужо на нагах і на кухні.

Люба стаяла ў маёй завялікай для яе саколцы, грудзі павольна калыхаліся з кожным рухам, раскудлачаныя кудзеркі былі неахайна сабраныя на макаўцы. яна ўсьміхалася мне. я ізноў адчуў жаданьне.

сэкс на стале на кухні, сэкс на кухні на падлозе, сэкс на стуле на кухні.

пах прыгатаванай ежы ізноў прымусіў мяне зацікавіцца тым, што стаіць на пліце.

Люба знайшла гарбуз і прыгатавала суп-пюрэ, якога я ніколі на ўласныя вочы ня бачыў. суп быў густым, зь мяккімі кавалачкамі, ня цалкам пюрэ, бо адкуль у мяне блэндэр?

са зьяўленьнем Любы я палюбіў гарбузовы суп, набыў блэндэр і нават прыдумаў два ўласных рэцэпты (складнікі такія: гарбуз, бульба, салодкі перац, кабачок, пацісон, морква, курыны бульлён, тамат).

са зьяўленьнем Любы суп-пюрэ ператварыўся для мяне ў сэксуальную гульню, і нават калі мы зь ёй доўга ня бачымся, бо жыве яна ў Менску, і адносіны ў нас вольныя, я заўсёды гатую суп з гарбуза (не істотна якога: сьвежага, замарожанага), калі пачынаю сумаваць па ёй.

сёньня раніцай пабачыў смс, яна едзе да мяне.

яна заўсёды так робіць, піша смс, папярэдне як прыехаць, калі ўжо кіруе машынаю ў бок маіх мясьцінаў, за гэты час я магу пасьпець прыбрацца альбо справадзіць дадому якую іншую дзяўчыну. Люба – разумная жанчына, яна ўсё разумее.

да панядзелка ў мяне ізноў усё ў жыцьці будзе перамяшаным: пачуцьці, гастранамічныя густы, захапленьні, мары, сьненьні.

так хочацца яе, неверагодную, пакінуць назаўсёды тут, але я ведаю, што гэта немагчыма прарабіць з жанчынаю, якая кар’еру ставіць на першае месца, на другое – часам мяне, бо лічыць, што ў мяне

ёсьць «талент», а потым ужо кулінарыю. такім Любам заўсёды патрэбны мужчына на адлегласьці, да якога яны самі будуць прыяжджаць, кахацца, кахаць і гатаваць, а мужчыны будуць чакаць іх, успамінаць, марыць і пісаць, загадкава пісаць штосьці, што яны потым будуць чытаць і вар’яцець.

## люба

Люба тут, і Люба любіць кіраваць. Люба любіць кпіць і жартаваць з таго, як я праводжу дзень і як я апранаюся. Люба робіць мне заўвагі, што мая барада Патрык колецца. Люба дзівіцца майму сабаку, бо Карнэль кожную хвіліну ўзбуджаецца на яе, цяпер ён ня проста ў двары, але й на ланцугу, бо ня трэба заглядацца на маю жанчыну. Люба спужалася майго Гамлета, калі той чорнаю плямаю выскачыў на кухню з-пад шафы. Люба крытыкую тое, як я ем і што п’ю, бо бачыць, колькі пустых бутэлек піва пасялілася на кухні і ў пакоі. Люба складае расклад гатаваньня да панядзелка. Люба зьбіраецца ў краму. Люба чуць ня хоча аб тым, што я прашу яе набыць піва. Люба любіць мяне, а я люблю Любу. Люба будзе тут чатыры дні.

## няёмкасьць

у мяне ёсьць тры ровары, для маіх мясьцін – гэта раскоша.

адзін ровар «раскладушка» Аіст. я на ім толькі куды ноччу магу выехаць, у лес, там, на возера, бо сорамна.

ёсьць у мяне «даросьлік», які не раскладны і стары як сьвет, даросьлік, які я любіў браць, калі дазвалялася, зусім малым, падлазіў пад верхнюю раму й круціў пэдалі, ехаць на ім было ўтрая хутчэй і падаць утрая бальней.

трэці мой ровар – сапраўдны махровы горнік, які я прыдбаў яшчэ пяць год таму ў Менску. на горніку я звычайна ежджу ў горад альбо так, па справах.

Люба як палюбіла маю раскладушку, бо ня трэба нагу перакідваць празь верх, так і ганяе на ёй, спачатку мне было сорамна, бо дзяўчына прыгожая, а ёй стукне ў галаву: «паехалі ў краму!» так мы і едзем – шляхта на горніку й яго жанчына на рыпучым Аісьце, якому, напэўна, столькі ж год, колькі і ёй. едзем, я стараюся разважаць пра прыўкраснае, але гук каляровых плястыкавых шарыкаў на сьпіцах пярэдняга кола раскладушкі не дае мне ніякага супакою.

дзіўна, учора ўвечары ганялі на возера, а я, толькі калі вярнуліся дамоў, прыгадаў, што яна ізноў брала той самы ненавісны ровар.

усё, гамон, кропка, я больш гэтага не заўважаю, напэўна, некаторыя фобіі й асабліва няёмкасьці самі па сабе прыціраюцца, і ня трэба іх баяцца, і ня трэба іх пазбаўляцца, і ня трэба іх хаваць, усё само па сабе зьнікне.

## стыхія

страта часу, найвялікшая страта часу – гэта жанчына. ты можаш быць кім заўгодна, рабіць што заўгодна, імкнуцца да любых вяршыняў, але заўсёды знойдзецца жанчына, дзеля якой захочацца грэбаваць любымі правіламі і асабліва сваімі асабістымі плянамі й імкненьнямі. я разумею прынцыповых халасьцякоў, бо ў такіх мужчын, як бы іх астатнія ні шкадавалі і як бы сьмешна яны ні выглядалі, ёсьць свой плян жыцьця і дзеяньня, і яны заўсёды ў роспачы й вусьціўшы, калі зьяўляецца жанчына і руйнуе ўсю прастору навокал і нават прымушае мяняць расклад і мэню. але камусьці гэта падабаецца: зьмяніць мяса на рыбу, піва на мінэралку, а цыгарэты на электроншчыну. гэта доўжыцца роўна цягам першых дзён, бо далей настаюць цяжкія часы: альбо часы ператварэньня, альбо супраціўленьня.

учора, як бы файна ні было, усё-ткі да самага-самага не дайшло. Люба любіць кіраваць і любіць мяняць прастору й асяродзьдзе. я ўчора быў лялькаю й сэрвантам адначасова. калі, здавалася, і пашкадаваць і паняньчыць трэба, і нават ласку даць, але ж, доўбня, прымай памыты посуд, прымай...

жанчына – гэта забойства, але, зь іншага боку, без жанчыны і не заб’есься нават. вось самотным ты сядзіш і дбаеш пра свой час, выдаткоўваеш яго на свае пляны, будуеш сістэму й расклад жыцьця,

але ты сумуеш, бо ніхто ніколі ня зьверне на цябе ўвагу, ніхто ніколі не ацэніць тваю найбуйнейшую ў жыцьці працу, акрамя той самай каханай мэгэры, якая прыйдзе й высмакча твае думкі, жыцьцё, грошы... але як усё-ткі гэта прыўкрасна! бо гэтая стыхія – самая каштоўная рэч.

## каханьне

я ніколі не адказваю на пытаньне «ты мяне кахаеш?»

гэта як быццам ня проста сумняюцца ў тваіх пачуцьцях, але й жабруюць, як старыя жалейшчыкі, патрабуюць прызнаньня, каханьня, упэўненасьці.

а што гэта – кахаць – як не адчуваць увесь сьвет прыўкрасным унутры, якім немагчыма да канца падзяліцца нават з аб’ектам каханьня, бо той аб’ект, як неапрацаванае «Палена» Шванкмаера, толькі паглынае і патрабуе, бо ёсьць вусьціш не наесьціся.

каханьне мусіць быць вольным і бясплатным і нікому нічога не абяцаць і не тлумачыць, як паводле Карынфянаў у Новым Запавеце.

хопіць патрабаваць, хопіць паглынаць тое, што цалкам вольна магчыма адчуць разам, бо дастаткова толькі суцішыць свой крок, подых, сэрцабіцьцё, на сэкунду, падысьці, легчы на свайго каханага альбо абняць каханую, мяккім дотыкам крануцца яго (яе), ахінуць сваёй цеплынёю... і вось ён (яна) ужо адгукнуўся на рухі й крананьні, і тое, як яны адгукаюцца, – трымценьне, жаданьне каханьня... і гэта адказ на ўсе іншыя пытаньні.

вось цяпер я сяджу тут, пішу, знаходжу вольны час між вар’яцтвам Любы і між сваім вар’яцтвам,

часам жыцьця, творчасьці і каханьня, але дакладна разумею, што прыйдзе заўтра, і ніхто ўжо ня будзе ляжаць на маім ложку, распранутым і белым у цемры, як сьмятана, жаданым і невымоўна недасяжным, бо настане панядзелак, і кропка ўваб’ецца вельмі шчыльна ў брукаванку нашых адносінаў.

## скруха

як па традыцыі, клясычна атрымалася. калі Люба раніцай зьехала, я, як апошні эгаіст, пачаў шкадаваць сябе і ўвесь мужчынскі род, шкадаваць сваю сутнасьць, сваю няшчасную пэрсону, якую ніхто ня любіць і якая нікому не патрэбная (на доўгі тэрмін)... бо атрымліваецца так, што Люба прыехала, «памятросіла і бросіла», а далей што? чорная пустэча, плынь сьвядомасьці і праклёны дням, якія былі сумесна пражытыя? нават Патрык, узмакрэлы й раскудлачаны, проста зьнік з далягляду, напэўна таксама, сабака, кінуў мяне!

таму я выпіў. спачатку выпіў у абед, каля крамы, зь сябрамі, зь якімі толькі пазнаёміўся, потым пасьля доўгіх дыскусій было вырашана (зь сябрамі), што бабы дуры і чмо, а я нераскрытая цукерка! таму мы з гэтае нагоды набылі яшчэ алькаголю, але я далей працягваў ужо ў хаце самотным, бо неяк так атрымалася, што іскра розуму закранула мяне на сэкунду, каб адмовіцца ісьці да Валькі, мясцовай самагоншчыцы, за дагонам і танцамі.

я – дома. ізноў скрушна, шкадаваньне ліецца праз край, бо маёй раненай рамантычнай душы Люба вельмі патрэбная, але цьвярозаму асэнсаваньню Люба патрэбная толькі часова. і так атрымліваецца, што я і ён – гэта Янус, які праклінае мяне празь неверагодны алькагольны заплыў, які скончыўся сёньня ўвечары праз галаўны боль і нарэзку, мазаічныя

ўспаміны часоў і дзён, якія прайшлі як адзін калейдаскоп: Люба – каханьне – сэкс – гатаваньне – сваркі – перашкоды – замірэньні – сьвечкі – фільмы пад пледам – пацалункі – крананьні – асэнсаваньні – ад’езд – алькаголь – прыняцьце свайго лёсу.

чакаць яе, як па завядзёнцы, трэба будзе на працягу 5–6 тыдняў, за гэты час Гамлет на яе забудзецца цалкам, можа нават стане старым і памрэ – такі лёс трусочкаў, якія ўжо пражылі свае лепшыя гады.

## красворд

як яно, пасьля таго як пашкадаваў сябе, залізаў усе раны і паранены, але задаволены і нават у гармоніі з сабою, ты ізноў чакаеш цудаў, і асабліва яе? адзінае, што замінае, гэта надзьмутая галава, якая, у прынцыпе, сёньня можа проста застацца дзесьці адпачываць.

у чым сэнс усёй гэтай гульні, калі словы перакрыжоўваюцца, літары сутыкаюцца й адна адну паядаюць у сваёй аднолькавасьці. скрыжаваньні прыводзяць да высновы, што ты ня тое каб ня здольны быў на банальнае судоку, ты нават не пацягнеш звычайны сканворд, ня кажучы ўжо пра дзіцячы красворд.

мяне заўсёды зьдзіўлялі тыя людзі, якія прыдумляюць красворды. аднойчы я ў перадачы «Поле чудзес», якую глядзеў праз тое, што цяпер магчыма назваць «пасыўны глядач», бачыў, як мужчына, які стварае красворды, прынёс у студыю чэрап, расьпісаны белымі й чорнымі квадрацікамі. я быў у шоку і ад чэрапа, і ад красворда, і ад сваіх дзіцячых захапленьняў.

я цалкам не разумею гэтыя банальныя і паўсюль аднолькавыя пытаньні: «другі цар пасьля гэптагэмнана», «краіна, якая лічыцца самай маленькай», «конь, які з "бахрамою"». і мае самыя любімыя пытаньні: «апошняя ўсходняя дзяржава», «пачуцьцё, блізкае да (на выбар): ванітаў, сьмерці,

каханьня», і такім чынам ты можаш што заўгодна сабе ўяўляць, але красворд патрабуе, каб ты думаў і бачыў толькі тое, што трэба, і тое, каб супадала па колькасьці літар.

вось і я, з галавою, як красворд, вымушаны бачыць і адчуваць толькі тое пачуцьцё, якое цалкам супадае зь неабходнымі літарамі, бачыць той сьвет, якім ён ёсьць па дыяганалі і каб на чатыры літары, але я чамусьці супраць, і адначасова мой супраціў нічога не каштуе, бо раніцай абавязкова знойдзецца хтосьці, каго я пабачу ў той жа зашмальцаванай, як мае шкарпэткі, краме, дзе будзе прадавачка альбо знаёмы мінак, якія пачнуць патрабаваць ад мяне патрэбных словаў, каб тыя пасавалі белым клетачкам, якія скрыжоўваюцца зь іншымі словамі, ствараючы чорна-белы Юнівэрсум абсурднага жыцьця.

але пра што я тут, ноч на дварэ, заўтра ўжо будзе серада, але я да гэтага часу не магу прыйсьці ў свой належны стан, паклічу Карнэля. калі прыйдзе, то мы зь ім разам і паглядзім на зоркі, з вакна, вядома, бо ізноў надвор’е падказвае пэўныя паводзіны.

## посуд

яна заўсёды кажа, што мая чарга мыць брудны посуд, але атрымліваецца так, што я заўсёды мыю посуд, брудны ён ці чысты, самотным дома сяджу ці ў мяне кампанія, мыць посуд – мой занятак, мая асноўная справа, якая мусіць мне падабацца, гэта з той жа опэры, калі на цябе крыўдуюць, бо табе нясмачна есьці, але ж я, такая карункавая, гатавала.

як? як магчыма крыўдаваць і паводзіць сябе аднолькава ў такіх розных абставінах, у такіх розных акалічнасьцях?

я ненавіджу мыць посуд, гэтая нянавісьць перадалася мне з генамі майго бацькі, які таксама ненавідзеў мыць посуд, бо гэта заўсёды нудна, агідна й выклікае залішнюю патлівасьць, і ўзнагародаю бывае толькі пачуцьцё задавальненьня ад таго, што штосьці прыбраў, уладкаваў, памыў, зрабіў.

я гатовы есьці рукамі, як у некаторых народаў, плоў зь вялікага рондаля, я гатовы аблізваць талерку як чукча й казаць, што яна чыстая, мне так нашмат лягчэй. але ж, калі бачыш яе позірк, пільны позірк, ты ўжо здагадваесься, трэба ісьці мыць посуд, інакш вечар прапаў, зьнік недзе між міскаю для салаты й талеркаю супу, і табе ня будзе ні сьвечак, ні каханьня, ні любімага кіно.

у мяне зьявілася цудоўная ідэя навучыць Карнэля мыць посуд.

вадкасьць для мыцьця, пена, цёплая вада.

але што рабіць да таго часу, пакуль Карнэль, разьбіўшы не адну талерку й кубак, навучыцца мыць посуд?

чакаць, мой сябра, чакаць… кажа мне мая сумленнасьць.

## сьмех

адна дзяўчына, якая жыла ў вялікім горадзе, вельмі гучна сьмяялася, па-заліхвацку так, часам пераходзячы праз усе межы й рагочучы ажно пакуль не чырванела, а суседзі самі пачыналі ўсьміхацца. такі сьмех заўсёды кранае і бярэ ў палон, але хлопцу дзяўчыны кожным разам станавілася няёмка, бо калі каханая пачынала гучна сьмяяцца, па ўсім ягоным целе пачыналі бегаць мурашы, некаторыя нават кусалі, і холад жудасны працінаў, і глядзець на яе яму было моташна. як магчыма так рагатаць, так бессаромна парушаць прастору такімі гукамі?! раздражняць слыхавыя каналы й вушныя перапонкі?! хлопец пачынаў панікаваць, і адзіным выйсьцем знаходзіў псаваць дзяўчыне настрой, бо тады яна дакладна ня будзе сьмяяцца.

так яны пражылі некалькі год, і кожным новым днём дзяўчына станавілася ўсё болей сумнай і няшчаснай, і яна думала, што гэта праз тое, што яна становіцца ўсё болей дарослай, а дарослыя людзі радуюцца нашмат меней, і ўвогуле, звычайны побыт з хлопцам зрабіў яе шэрай.

аднойчы дзяўчына сядзела ў парку, і, калі па сьцежцы прабег пэкінэс, яна ўсьміхнулася і пабачыла, што ёй у адказ усьміхнуўся ня толькі пэкінэс, але і яго гаспадар.

## сволачы

ніхто мяне ня любіць, усе сволачы й байструкі, я, такая кветачка, даводжу ўсім гуманізм і сельскі цуд, а мяне хаюць і крытыкуюць, і спрабуюць пе-ратварыць у мэгэру, але ж я, зязюлька дзённага сьвету, толькі дабра ўсім жадаю, а мяне пад крыж здраднікам, жыцьцягубцам пасылаюць, я ж сьвяты й сьвятая ў адным збанку, як дзень і ноч, як сьвет і цемра, а мяне чамусьці на гільятыну, на агульны прысуд...

я – нікому нічога нават ня зычыў, акрамя цу-кру, ані каліва плаціны ці, там, золата, ня кажучы пра срэбра... атрымліваецца інакш, бо я – пагроза для жыцьця, таму што дзе ні зьяўлюся, спойваю мужы-коў, дзе ні прысяду – гвалтую жанчын, але ж было б каго гвалціць.

я – рэінкарнацыя галодных часоў вайны й са-вецкіх часоў у дадатак. карацей, мяне сапраўды ніхто ня любіць, і я ж нікога не люблю, але спрабую жыць, як тая бож’я кароўка на лузе... ляці, ляці, паскуда, але ж калі вернесься да сваіх байструкоў, на месцы будзем усе мы, мясцовыя, хто цябе ня любіць.

## гей

у нашых мясьцінах жыве дзядзька Рыгор, усе кажуць, што ён гей. гэта звычайна як бывае, кажаш каму-небудзь, трэба б трактар замовіць, перакапаць свае соткі, дык у дзядзькі Рыгора, акурат новы трактар: не, хуй вам, які дзядзька Рыгор, ён жа підар!

гэта цалкам нармальна для мясцовых – не карыстацца альбо не зьвяртацца па дапамогу да чалавека, бо ён «піліцца ў жопу». мясцовыя спакойна знойдуць сабе напаўжывога каня, якога заманаюць да белай пены, але па трактар ня пойдуць.

дзядзька Рыгор, нармальны, як сусьветны абсалют, мужык, заможны, бо шмат працуе, свой дэсэртны вінаград і яблыкі возіць на нейкі завод, прадае, дом у яго дагледжаны, нават газон падстрыгае. як пан, карацей. але вось у чым цымус – ён за сваё жыцьцё не пасьпеў жаніцца і тры гады ў яго жыў мужчына, дзядзька ўсім казаў, што гэта стрыечны брат, і першы час яму давалі веры, але аднойчы на нейкай п’янцы камбайнёраў дзядзька Рыгор нажлукціўся і неяк для сьмеху пацалаваў у вусатыя вусны дзядзьку Барыса. адгроб пізьдзюлей і быў выгнаны з усіх мужчынскіх сымпозіюмаў і «вазьліяньняў».

мне асабіста дзядзька Рыгор даспадобы, ён мне шмат у чым дапамагае, то наліўкі прыгатаваць, а калі й трактар пазычыць. і вось акурат сёньня, калі я ішоў праз наш галоўны «магазін», на лаўцы сядзелі мужыкі і гучна так спрачаліся, казалі: «я ў гэтага жа-

пасуя нічога браць ня буду, няма чаго рабіць!» а калі мяне пабачылі, прыціхлі і пачалі глядзець у розныя бакі і курыць сваё лайно бяз фільтру, трымаючы яго ў жоўтых і брудных кіпцюрох.

ну што ж, гэта нават цудоўна, мая пэрсона тут набывае абароты, я і дзяўчат спакушаю, бо па вечарох абавязкова да мяне хтосьці завітвае выпіць, пасядзець каля вогнішча, палапаць майго Гамлета альбо пагуляцца з Карнэлем (як гучыць, а? эротыка, адным словам), а тут яшчэ й зь мясцовымі меншасьцямі якшаюся.

## мянушка

у кожнай жанчыны ёсьць улюбёныя мянушкі, якія яны даюць сваім каханым. У кожнага мужчыны таксама ёсьць мянушкі, якія яны даюць сваім каханкам, і звычайна гэта ўсё гучыць як адзін вялікі жбан мёду й сочыва. заўсёды чуецца: малышка, дзетка, сонца, кацёнак, радзей чуецца нават «ангел мой», ад якога магчыма й у вока атрымаць. ад дзяўчат часта: зайчык і проста любімы.

за жыцьцё я чуў розныя «мянушкі для каханкаў», нават такія, якія не агучваюць сярод людзей: пісюночак, пісечка, сісечка, попка. але мае неверагодныя суседзі, тыя, у якіх усё складана: яна яго б’е, а ён п’е, паламаны…

дык вось, я некалькі разоў чуў, як ён у добрым настроі кліча яе марковачкаю і кароўкаю. так і кліча, напрыклад: кароўка мая, выбачай мяне, сёньня п’ю… а яна ў адказ: стары пень і бораў аблезлы. і калі яна яго так называе, то нават у рукі нічога не бярэ, каб перасмыкнуць, з эмоцыямі цёплымі кажа, па-свойму пяшчотна.

цікава, чаму людзей цягне называць свой аб’ект каханьня ня толькі дэфармуючы імя на памяншальна-ласкальнае, але й дадаючы мянушкі: хамячок ты мой, коцік. гэта ж калі ўявіць, што вось сядзіць мужчына, поўны, лысаваты, п’е ўвечары піва, глядзіць футбол, а да яго жонка падыходзіць і так: «хамячок мой, ты будзеш дапіваць? я хачу працерці стол». сьмешна і адначасова цудоўна, бо нават калі праходзіць час

і каханка праз побыт ператвараецца ў адну вялізную швэйную машынку, а яе муж працягвае называць коцікам, гэта пра штосьці кажа, але, на маю думку, няхай бы ён зваў яе як заўгодна, бо калі ягоная жонка ператварылася ў камод ці прасавальную дошку, ніякія ласкальныя словы тут ужо не дапамогуць, раней трэба было думаць і старацца да такога не дажыцца.

## нобэль

паўсюль шмат гутарак пра рэанімацыю паэзіі, адраджэньне прозы, разьвіцьцё беларускай літаратуры, і вось хацелася б таксама паразважаць і параіцца. увогуле здаецца, што зашмат гутарак і чутак вакол прэмій і вакол вартасьці таго ці іншага.

заўсёды будуць абмяркоўваць і зьвяртаць увагу на самых яскравых, на галоўных дзеячаў літаратурнай арэны, але заўсёды існуе адсотак творцаў, на якіх ня проста забываюцца, якіх нават не адкрывае для сябе тая ці іншая культура, час, пакаленьне, і ад чаго гэта залежыць, невядома. лёс складваецца такім чынам, што адметным і прывабным апынаецца, напрыклад, адзін пісьменьнік, калі насамрэч той пісьменьнік рабіў свае нясьмелыя літарныя крокі на паперы адначасова з тузінам такіх жа, як і ён, творцаў, якія былі ня горш і ня лепей, і нават у некаторых спрэчных момантах маглі б даць яму фору. без сумневаў, выпадак з Гёльдэрлінгам, паэтам, якога для чалавецтва адкрылі толькі праз дзьвесьце пяцьдзясят год пасьля яго сьмерці, выпадак рэдкі, адзіны на стагодзьдзі. а колькі сапраўды было байранаў у часы Байрана? колькі бродзкіх пісала ўсё жыцьцё ў стол, а можа, нават і не пісала, а толькі сачыняла ў галаве, а можа нават і ў сьне. я б назваў гэта фэномэнам лёсу ў творчасьці, бо кожнаму наканавана прайсьці свой шлях, але гэты шлях, у дзевяці выпадках зь дзесяці, няўдзячны, вядзе да свайго ўласнага прасьвятленьня, і гэтым адначасова ён каштоўны.

мне вусьцішна падумаць, што калісьці, калі я вучыўся ў школе, у мяне быў аднаклясьнік, які ў восьмай клясе выканаў хатняе заданьне, напісаў верш, дакладней вэрлібр, які потым цэлы год вісеў у нас на дошцы як узор! у той час аднаклясьнік пачаў чытаць кнігі, пісаць апавяданьні, аднойчы я яго сустрэў пасьля таго, як ня бачыў амаль восем год: ён даўно кінуў літаратурную справу, сказаў, што гэта было дзяцінствам і што яго сябры разумелі. мне падалося, што ён шкадуе. я яму сказаў, што ў нас такі ўзрост, калі большасьць толькі пачынае сьвядома пісаць!

існуюць міжнародныя і раённыя конкурсы, якія знаходзяць дыямантаў, але нашым конкурсам я не даю веры, бо дастаткова толькі паглядзець колькасьць беларусаў, якія ўдзельнічаюць ва ўкраінскіх шоў талентаў, і пачытаць, як цяжка было беларускім творцам прабіцца ў Беларусі, як аднаго сьпевака не пусьцілі на адборачны этап, другога танцора проста не ўзялі, бо не спадабаўся.

паўсюль існуе чалавечы фактар, паўсюль пануе чалавечая суб’ектыўнасьць, і я даўно ўжо зьмірыўся з тым, што маіх нобэлеўскіх прэтэндэнтаў ніколі не абіраюць і маіх любімых пісьменьнікаў ніколі не дадрукоўваць, нават беларускіх.

## гарбата

майму маёнтку не хапае коткі, але я не люблю котак, я ўвогуле стаўлюся да іх насьцярожана, бо для мяне котка – гэта эгаістычная здрадніца, якая будзе муркатаць толькі дзеля карысьці. адначасова, назіраючы за сваім Карнэлем, я бачу, што ён спакойна можа пайсьці й даць сябе гладзіць каму заўгодна і радуецца маім сябрам, хвастом ганяе паветра. але я ведаю падсьвядома (і давяраю гэтым ведам), што калі будзе кепска мне, будзе кепска і майму сабаку, але ніколі – котцы.

з аднаго боку, котка – гэта мяккасьць, гэта гнуткасьць, пухнатасьць, цеплыня і пяшчота, і менавіта яе параўноўваюць з жанчынаю.

з другога боку, сабака – вясёлы, гульлівы й адданы сябра. і калі ўжо параўноваць, то месцы мужчынаў сярод сабак.

такім чынам атрымліваецца, што любая разумная жанчына вельмі лёгка можа весьці за нос любога мужчыну, бо таму толькі й трэба, каб зьявілася побач жанчына, пажадана вельмі прыгожая, і тады: бяры ад мяне ўсё, што хочаш.

сёньня быў у краме разам зь сяброўкаю, якая ўжо дзесяць год як жыве са сваім каханым, які, як сапраўдны сабака, толькі ў вочы ёй і глядзіць. ходзім па краме, яна кажа, трэба паглядзець якой гарбаты (я дома п’ю каву, а яны зьбіраюцца жыць у мяне каля тыдня). заходзім у аддзел з гарбатаю, яна бярэ

пакунак самай, ну самай таннай атрутнай гарбаты, якая паводле зьмесьціва ня ўтрымлівае гарбаты, і пакунак самай-самай дарагой, і я пытаюся, навошта так?

яна адказвае:

– Вася ўсё роўна ня цяміць у смаку гарбаты, а п’е яе літрамі, таму я для яго таннай дрэні якой набуду, а сама магу цэлы месяц нармальную гарбату піць.

Вася ў яе – шалудзівы пёс, а яна – грацыёзная котка, якая дбае толькі пра свае густы.

## валасы

у яе былі вельмі доўгія валасы, вельмі-вельмі доўгія, яны дасягалі таліі ззаду і хвалямі спускаліся да грудзей сьпераду, валасы займалі большую частку яе зьнешняга выгляду, яна была як Вэнэра, якая выходзіць з пены марской. грацыя і валасы, і нічога лішняга, бо іншыя рэчы – толькі дробязь, пыл, туга па страчаным.

яна натхняла, яна адначасова была музаю й сьмерцю, недасяжнаю асалодаю, канчатковым наталеньнем смагі, да якога ніяк не дакрануцца, колькі ні намагайся. яе валасы забіралі мары й маладосьць мужчын і жанчын, яе валасы спляталіся ў вузлы й руйнавалі сем'і, прымушалі пакланяцца й прыносіць ахвяры. яна сама цьмяна разумела магічную якасьць сваіх валасоў, ёй заўсёды падавалася, што яна проста прыгожая і па-жаноцку прывабная, і яна ня ведала, што кожнай ноччу, калі яна клалася спаць з мужчынам, валасы ахіналі яе каханага шчыльней любых абдымкаў, прасьцін і коўдраў, шчыльней за самыя палымяныя пацалункі. валасы ўсмоктвалі ў сябе цяпло целаў, наталяліся вільготнымі позіркамі мужчын на вуліцах, хвалямі падымаліся – панадлівыя ветру – і намагаліся ляцець вышэй, вышэй і яшчэ вышэй.

аднойчы, калі я стаяў на гаўбцы й курыў пасьляабедзенную люльку, яна праляцела недалёка ад мяне, яна была шчасьлівая, сьмяялася, адарыла маю постаць яскравым позіркам, а валасы яе так

і гуляліся на хвалях ветру, луналі. і яна падымалася вышэй, ажно пакуль аблокі не схавалі яе кропку-постаць. а праз год у нас з жонкаю зьявілася дачурка, залатая дзетка, гульлівая, сьмяшлівая, золатавалосая, як і яе чароўная маці, бо так у жыцьці заўсёды бывае, колькі б ні імкнулася яна за сваімі валасамі, заўсёды настане час спусьціцца зь неба на гаўбец і сустрэць вуснамі вусны, дзеля якіх захочацца пастрыгчыся.

## парасон

трэці дзень зь сябрамі, назіраць за імі мне жудасна, і немагчыма нават уявіць, што калісьці мы з Васем былі панкамі, ганялі дзяцей на раёне, кепска вучыліся й марылі пра тое, як парвём цэлую аўдыторыю нашым блэк-мэтал гуртом. вынікам сталіся адрозныя шляхі, якія мы абралі адразу пасьля школы: я пайшоў на гістарычны факультэт, Вася ўдарыўся ў філялёгію. далей усё было лягічна, мы радзей бачыліся, я зарабляў сабе нэрвовыя цікі, вар'яцеў ад сапраўднай гісторыі і разумеў, што пасьля ўсяго таго, пра што даведаўся, мне больш няма шляху звортна, я больш не змагу верыць ня тое што палітыкам, я ня здолею паверыць нават у кнігі па гісторыі, ня дам веры аніводнаму інфармацыйнаму парталу, бо ўсё занадта суб'ектыўна і знайсьці ісьціну, якой яна ёсьць перашапачаткова, немагчыма, як немагчыма ўвайсьці ў адну раку двойчы. я ўсё больш замыкаўся ў сваім сьвеце, зьмяніў тры працы: банк, рэстарацыя, школа, знайшоў усё невыносным і зьехаў ад людзей падалей, каб пачынаць слухаць прыроду і свае думкі. сябра спачатку доўга трымаўся за рэдактарскую справу, зарабляў грошы, потым, пасьля таго, як у яго зьмянілася зь дзясятак адносінаў, ён ашалеў, закахаўся як падлетак і слухаць нікога не хацеў, што ня трэба сьпяшацца, варта запаволіць хуткі бег адносінаў, і празь месяц яны падалі дакуманты, а праз два – ажаніліся. вясельле было клясычным, нягледзячы на былыя панкаўскія часы. мяне

цягнула ванітаваць. і на дадзены момант мы маем Васю ў сухім астатку: палыселага мужчыну з пузікам, крыху за трыццаць, які ня тое каб ня цяміў у густах з гарбатаю, ён усе асноўныя жыцьцёвыя рашэньні пакінуў на жонку, а тая зь вялікай радасьцю прыняла іх. сёньня, напрыклад, мы на абед гатавалі шашлыкі, вядома, яна іх паварочвала, дзьмула на іх і палівала мінэралкаю, я ўвогуле ня ўмешваўся ў справу, а Вася толькі двойчы стаяў каля яе з адчыненым парасонам, бо двойчы нібыта марасіла. абедалі. яна не дазволіла яму піць піва на абед, паклала тры кавалачкі шашлычку, бо ў яго й так жывот, а пасьля, калі сама пад’ела, прымусіла яго даядаць яе бульбу й салату, якую ня здолела зьесьці, сказала: каб не выкідаць. Вася ўсё ўспрымае моўчкі, я ўсё больш разумею, што сапраўды даўно іх ня бачыў.

## саколка

адзін мужчына, які жыў як і ўсе, заўсёды насіў адразу дзьве саколкі… але яму падавалася, што саколак недастаткова, і ён пачаў насіць тры саколкі пад швэдарам, а потым чатыры, а потым пяць, і на пяці ён спыніўся. бо заўважыў, што носіць толькі адны нагавіцы, калі варта было б апранаць іх таксама пяць... а потым мужчына пачаў насіць яшчэ й пяць швэдраў і пяць шалікаў, бо надышла зіма...

а пасьля зімы мужчына раствярыўся ў адзежы, бо гэта была яго самая вялікая мара. мара модніка.

## стабільна

усё, канец, сябры мае зьехалі, пакінулі мне процьму інфармацыі, што дзе ў каго адбылося з нашых агульных знаёмых. я зразумеў, што людзей пасьля трыццаці пачынаюць цікавіць зусім іншыя рэчы і каштоўнасьці зьяўляюцца іншага характару. такім чынам, мне, як вялікаму наіўнаму рамантыку, стала сумна і самотна, я ня ведаю, як так адбылося, але я да гэтага часу знаходжуся ў стадыі пошукаў і роздумаў, калі ўсе мае сябры даўно вырашылі, чаго яны жадаюць альбо чакаюць ад жыцьця, і, жывучы са сваімі жанчынамі, падтрымліваюць адзін аднаго.

мне ўсе навокал падаюцца больш упэўненымі ў заўтрашнім дні, ніж я, які нават ня ведае дакладна, што будзе на сьняданак, і вырашае гэта часта не на карысьць здароўю: кава, цыгарэта, бутэрброд з шынкаю.

з аднаго боку, мне прыемна назіраць за сваімі сябрамі, за іх сем'ямі, зь іншага боку – я пражыў з адной дзяўчынай шэсьць год і, калі гостра паўстала пытаньне ажаніцца, спасаваў і сказаў, што не гатовы, яна сышла, прычым вельмі хутка, і ў яе ўжо ёсьць дачка, муж, праца. стабільна...

паўсюль існуе выбар і жыцьцё дае процьму варыянтаў на тое, як правесьці дзень альбо год свайго існаваньня. мне здаецца, што маё сапраўднае месца – тут, але мне хочацца, каб гэтае месца не абмяжоўвалася сабакам і трусом, я хачу, каб Люба,

калі яна наступным разам прыедзе, засталася назаўсёды, і я баюся, што яна больш ніколі не прыедзе.

даказалі, што ў мужчын існуе стандартны набор фобій, і іх сорак, мне здаецца, у мяне адна вялікая фобія – нявызначанасьць. я баюся, што няўпэўнена жыву, але нават калі я ўсё кіну тут, паеду ў горад, знайду працу – я звар’яцею ад таго, што сапраўды зажыву, як пусты жбан, які не напаўняецца знутры і толькі па вечарох гудзіць пустэчаю, бо б’ецца аб сьцяну побыту.

## сон

Гэня вельмі любіў спаць, і спаў нават тады, калі, здавалася, спаць немагчыма. ён спаў пасярод лекцый, і, трэба адзначыць, вельмі добра спаў, так спаў, што швы заплечніка адбіваліся на ягоных шчоках і ілбе, часам выдаваў сябе праз пасопваньне. спачатку лектары вельмі злаваліся на яго, але калі заўважылі, як выдатна ён заканчвае сэмэстры, дазволілі яму спаць, і ў аднэй лектарнай залі, дзе па раскладзе чытаецца адразу два розныя прадметы запар, яму паставілі ложак.

Гэня скончыў унівэрсытэт, праспаўшы ўсе пяць год, скончыў з чырвоным дыплёмам і ўладкаваўся ў офіс, дзе трэба было пісаць рэклямныя тэксты. спачатку Гэня пісаў іх, напалову расплюшчыўшы вока, потым ён прызвычаіўся такім чынам, што, падаткнуўшы галаву лінаркаю, здалёк удаючы на працаўніка, які пра штосьці думае, ён спаў, пахропваў і пускаў сьліну на белыя паперы A4.

начальства не разумела яго: вось прыйшоў малады спэцыяліст і амаль адразу пачаў забіваць на працу. але Гэня ўклаўся ў тэрміны і закрыў плян за месяц на тыдзень раней.

па выніку года Гэня апынуўся лепшым рэклямшчыкам, і яго перавялі ў асобны кабінэт, дзе ў яго замест працоўнага стала быў ложак.

сьпіць Гэня, прымае кліентаў і начальства па справах. усе да яго прыходзяць, сядаюць на ўскрайку

ложка, хто паправіць яму коўдру, хто праверыць працу батарэі. распавядаюць яму, па якіх пытаньнях і замовах прыйшлі.

каханка ў Гэні зьявілася. на працы, па вечарох, яна яго будзіць сэксам, раніцамі – каваю, Гэня прачынаецца, рухаецца ў такт альбо п’е каву, а надалей зачыняецца ў сваіх сьненьнях.

так Гэня спаў, ішоў час, ён стаў дырэктарам рэклямнай кампаніі, атрымаў Бронзавага ільва на Канах за лепшую сацыяльную рэкляму і паехаў у адпачынак на Мальдзівы. прыехаў і раптам больш не здолеў спаць, адбіла ахвоту, апантана Гэня паглядзеў навокал і сказаў сам сабе: блін, мне сорак год, а што я ўсё як у тумане жыву, кінуць бы ўсю гэтую дрэнь і застацца б жыць тут.

## забарона

калі я ўзяў яе за руку, яна сказала, што на такія дзеяньні існуе табу. гэта яе прыватнае табу, як у Палінэзіі. я сказаў, што паважаю ўсе прыдуманыя ёю законы. але табу на рукі выглядае як забарона на дэсэрт: навошта мне яе вусны, калі яны цалкам даступныя, і мне непатрэбны яе грудзі, бо, да таго як іх крануцца, мне неабходны яе рукі. яна сказала, што гэта прынцыпова, бо абяцалася сваёй маці, што калі ўжо возьме кагосьці за руку, то гэта будуць толькі яе муж і яе дзеці.

і мы вырашылі ажаніцца, бо рукі яе былі маленечкія, малочнага колеру, з кашэчымі кіпцюрыкамі, і да ўсяго пахлі цытрынамі.

## успрыманьне

я разумею, што разумею, як кожную хвіліну я разумею, што асэнсоўваю сябе як стварэньне, якое жыве і асэнсоўвае, але адначасова, калі пачынаць глыбей пра гэта разважаць, я разумею, што, акрамя асэнсаваньня, я больш нічога ня маю і не разумею, я ня бачу сябе як адзінку, занятую нейкая справай, якая б давала мне адказ сутнасьці майго існаваньня, а так пакуль што я знаходжуся на адным узроўні з астатнімі жывёламі, бо па-сутнасьці імкнуся жыць і радавацца жыцьцю, прыдумляючы сабе ўласныя пляны й справы на будучыню, каб працавала кампэнсацыя, якая б часова магла запоўніць тую неверагодную пустэчу, якая знаходзіцца ў маёй душы.

## падбародзьдзе

кожны раз, калі яму трэба было зазіраць у вочы іншым, ён даходзіў толькі да падбародзьдзя. нельга сказаць, што ён ня быў здольным трываць позірк, альбо ня быў здольным на шчырасьць. і хаваць яму не было чаго ад людзей і ад сьвету. ён кожным разам паўтараў сабе, што вочы – люстэрка душы, і душу яму зусім нікому ня хочацца паказваць, асабліва прадавачкам у крамах і міліцыі. навошта, скажыце мне, чаму я павінны глядзець у вочы незнаёмцам? і да ўсяго яшчэ трэба ўсьміхацца. я інтравэрт, я агарафоб, я зарабляю грошы праграмаваньнем, бо так мне прасьцей і ня трэба ўваходзіць у камунікацыю!

і ён настолькі абвык не глядзець людзям у вочы, што наўпрост забыўся на іх прысутнасьць. і калі яму даводзілась з кімсьці гутарыць, ён, паглядаючы на падбародзьдзе й вусны, пачаў паводле іх адрозьніваць чалавечую міміку: калі апанэнт хлусіць альбо не, калі апанэнт вясёлы ці сумны. падбародзьдзе заўсёды знаходзіцца ў руху, і такім чынам мае ў сабе нашмат больш рысаў, як адлюстраваць той ці іншы настрой. і ён знайшоў, што падбародзьдзе – самая сэксуальная рэч у жанчын і самая цэльная рэч у мужчын.

са сваёй новай каханкай ён пачаў вывучаць глыбей усе тыя рысы й цяглiцы, скуру й пульхныя вусны, і не было гэтаму канца, бо пацалункі для яго ператварыліся ў доўгія дыялёгі з сэрцам і душою сваёй жанчыны, якая, да ўсяго, вельмі любіла цалавацца.

## мача

сёньня ў мяне вельмі шмат сяброў, панаехала процьма камунікацыі, ня ведаю, што рабіць. п'ем, гутарым, сьмяемся. я ім кажу, што мне трэба абавязкова кожны дзень пісаць тэкст, гэта такі асабісты экспэрымэнт, ці вытрымаю, ці адолею пісаць кожным разам пра штосьці новае і не паўтарацца, браць зь нічога словы, рэчы, сябе самога, назіраньні, думкі, і так цэлы год.

вядома, сябры пачалі кпіць. спачатку што я – гаўно, а не пісьменьнік, потым што гэта немагчыма, кожны дзень пісаць. але сышліся, што калі здольны, напішы й зараз, то-бок цяпер, пра адну рэч, вось такі, п'яны... я кажу, што проста так пра мачу пісаць ня буду, але пра мачу як сэнс існаваньня й камунікацыі – буду.

вось, напрыклад, ёсьць такія пароды сабак, якія пры сустрэчы з гаспадарамі ад шчасьця ня стрымліваюцца і ссуць. уяўляем такую рэч сярод людзей.

мужчыны сустрэліся па справе, абодва не абассаліся – перамовы будуць напружанымі...

прынамсі, узровень абассанасьці паказваюць ня толькі мокрыя нагавіцы, але й індыкатар з фарбаю, каб было лягчэй зразумець адзін аднаго.

сустрэліся старыя сябры, даўно не бачыліся. пассалі ў майткі – добра, шчырыя адносіны...

каханак сядзіць дома й чакае сваю паловачку, гатуе ежу, яна прыйшла – ён сухі. пытаньне адразу: ты што, мяне больш не кахаеш?!

гэта быў бы цудоўны індыкатар радасьці сярод людзей, бо ўсьмешку й шчырыя вочы вельмі лёгка схаваць, але грам дзьвесьце й болей мачы – не схаваеш.

## робат

я – робат, мае бацькі – робаты, мая бабуля – робат, мае сябры – робаты, мы ўсе аднолькава рухаемся ў звычайных накірунках, якія кожным разам паўтараюцца, як алгарытм, мы займаемся сэксам як робаты – мэханічна, мы больш не кахаемся, бо робатам гэта ня трэба, мы не эвалюцыянуем, бо робатам няма куды эвалюцыянавць, толькі апгрэйдзіць гаджэты... учора чытаў пра новых робатаў у Японіі, якія працуюць мэдсёстрамі, і пачаў зайздросьціць ім, бо калі ў робата ёсьць праца – ён на крок бліжэй да чалавека.

## інакш

а калі б сьлёзы былі салодкімі, плакалі б мы тады ня так горка, можа быць нават і чакалі б сьлёз, і паэты б сумавалі ўтрая менш, бо ім былі б непатрэбныя салодкія сьлёзы, яны б празь сьмех пісалі б аб сапраўдным няшчасьці, і калі б мы даведваліся аб чымсьці вельмі скрушным, то сваімі салодкімі сьлязьмі запівалі б гарбату бяз цукру.

нікому б больш не былі патрэбныя цукеркі, дастаткова было зрабіць балюча. у школах кепскія хлопцы ня так шалёна ганялі б батанаў, бо тыя толькі й чакалі б, каб за падбітае вока наплакаць салодкага на вечар.

## калготы

маё дзяцінства было ў калготах (бо ў школу трэба апранаць штосьці цёплае), мая маці носіць калготы, звычайна чорныя. я сам люблю, калі жанчыны носяць калготы, гэта вельмі ўпрыгожвае ногі. асабліва я люблю здымаць гэтыя калготы, а лепей ірваць іх у месцы похвы і займацца сэксам. але ёсьць адзін чалавек, які зусім інакш камунікуе з калготамі, дакладней – вядзе свой уласны дыялёг тканіны й скуры.

мая бабуля носіць калготы, якія на ёй выглядаюць дадатковаю скураю, якая паверх састарэлай легла другім слоем, абвіслым слоем. калготы звычайна ў яе адны і тыя ж, колеру скуры – бэжавашэрыя, і калі цёпла ўлетку, яна нацягвае калготы, і калі ўзімку хлодна, яна паверх калготаў апранае трэніровачныя нагавіцы. і мне здаецца, што калготы яе даўно ўжо не калготы, але тая самая сэтка з эластанам, якая, яшчэ калі ёй было сорак, была аднойчы надзетая і так і засталася, зраслася з нагамі й азадкам, і гэта самы доўгі дыялёг чалавечага цела са скураю.

## душа

дзяцінства Якава было такім: ён спачатку пастарэў, а потым пачаў маладзець.

адбылося гэта такім чынам: Якаў нарадзіўся й быў на мяжы жыцьця й сьмерці, тройчы трапляў на сьцежку, якая вядзе да сьвятла ў канцы тунэля, і, вядома, для чалавечага Я не існуе ўзростаў эвалюцыі, як не існуе межаў і забаронаў для розных узростаў.

Якаў стаяў і вагаўся, што рабіць, ісьці да сьвятла альбо развярнуцца й бегчы на крыкі незнаёмай жанчыны. Якаў вырашыў, што жанчыне трэба дапамагчы, бо, як ён інтуітыўна адчуваў, са сьвятлом у тунэлі ён яшчэ пасьпее сустрэцца.

і вось, Якаў на руках у доктара, той пляскае яго па попцы, Якаў удыхае паветра й пачынае дыхаць, жанчына суцешвае крык, Якаву ад гэтага становіцца вельмі лёгка.

другім разам Якаў стаяў у тунэлі праз месяц, але тое, як ціснулі на яго сардэчка, як ізноў крычала жанчына, цяпер ён усьведамляў – маці, ізноў вярнула яго зваротна.

трэцім разам Якаў затрымаўся ў тунэлі, праз два гады, ён адчуваў як апухае месца, дзе ўджаліла пчала, і ня быў здольным углытнуць паветра, і, ізноў крыкі маці прымусілі вярнуцца... і калі Якаў вярнуўся трэцім разам, ён пасьпеў дамовіцца са сьвятлом, што яму патрэбныя шэсьцьдзясят год на тое, каб пасьпець стаць маленькім і пасталець, і пражыць колькі часу, каля маці, і спазнаць каханьне, і радасьць

бацькоўства. і дамова была выканана. і калі Якаў ачуняў у рэанімацыі – ён ужо нічога ня памятаў, бо быў маленькім, і яму трэба было наноў навучыцца гутарыць, хадзіць, самастойна апранацца, вывучыць мову, вывучыць матэматыку й процьму іншага.

## пахмельле

самае цяжкае пахмельле для мяне – кніжнае пахмельле. гэта здараецца ня часта, але калі надыходзіць, то я пакутую некалькі тыдняў, і гэта рэдка чым магчыма зьняць. з маёй калекцыі назьбраецца хіба што тузін кніг, якія мяне даводзілі да ап’яненьня, я захлынаўся іх старонкамі і марыў, каб як мага даўжэй заставацца ў такім стане, але, як гэта часта бывае з выдатнымі кнігамі, яны прачытваюцца хутчэй за ўсе астатнія, і надыходзіць цяжкі стан вяртаньня ў рэальнасьць, расплюшчваньня вачэй ды пакутаў, што гэты сьвет зусім не пасуе табе й твайму стану пасьля.

я мару пра час, калі замест эвалюцыі 3D фільмаў пачне эвалюцыянаваць кніга такім чынам, што калі ты ад яе п’янееш, яе магчыма будзе ўводзіць у кроў, напрыклад праз укол, і эфэкт задавальненьня й жыцьця ў літаратурнай рэальнасьці будзе доўжыцца, ажно пакуль там не паселішся…

такім чынам мяне напойвалі Сэлін, Букоўскі, Хэмінгуэй, Бэнкс, Грас. яны былі маімі спадарожнікамі, самымі блізкімі сабутэльнікамі, шчырымі суразмоўцамі, якім я давяраў свае таямніцы, і яны адказвалі мне тым жа, распавядаючы пра самае вусьцішнае, неспасьцігальнае, невымоўнае, і так мы напіваліся да адурэньня.

## дылема

у жыцьці заўсёды ёсьць месца сэксуальнаму скрыўленьню, дастаткова толькі пагугліць: мастурбацыя з мухамі, мастурбацыя рыбамі, мастурбацыя кухоннымі прыладамі, бананамі й агуркамі, ссакі, кал, группавуха, buckkake...

на дадзены момант мяне вельмі цікавяць такія рэчы, і я вырашыў прайсьці праз гэта, заняцца сваёй асабістай псыхатэрапіяй, бо пісьмо мяне выратоўвала не аднойчы і, калі б я не пісаў, – хварэў бы не на адну загадкавую хрэнь у галаве.

я не хачу паказваць бруд дзеля шоку й бруду, мастацтва перапоўзненае лайном, і тым болей, што сродкамі кітча й шоку карыстаюцца толькі няўдалыя майстры. я ў сваю чаргу хачу дасьледаваць, спасьцігнуць і падаць чалавечае жаданьне смактаць абцас падчас зьбіцьця плёткаю як акт самарэалізацыі, пошуку свайго ўнутранага д’ябла, як рэч, якая павінна быць агучанаю, але не павінна выглядаць як табу, забарона. ёсьць час і сэнс вызваляцца і не ганарыцца сваімі скрыўленьнямі і не імкнуцца з гэтага зрабіць падзею, альбо «парад», альбо няголеным высоўвацца на Эўрабачаньне, але пачаць з гэтым жыць, нармальна, бяз жаху і без залішняга гонару.

пішу раман, назва яго «Ружова-пэрсікавае сочыва». раман – алюзія на так званыя сучасныя

выхаваўчыя раманы: «Бляшаны барабан», «Тоўсты сшытак», «Валадар мух»... ёсьць вялікае жаданьне прааналізаваць і паглыбіцца ў сэксуальны пачатак чалавека і ягоныя скрыўленьні... раман пачынаю паводле клясычных правілаў пабудовы, дзе павінны быць прапісаныя тры пакаленьні, так бы мовіць – дыялёг розных узростаў, іх сінтэз. апавяданьне вядзецца ад першай асобы, і чытач адразу трапляе ў хату, дзе бабуля варыць ружовае варэньне... паступова ўводжу ўнука – галоўнага пэрсанажа, які зь дзяцінства праз сваю зацікаўленасьць пачынае адкрываць сьвет эротыкі, сэксу, мастурбацыі.

## воцат

калі памыць галаву вадою з воцатам, не патрэбны будзе бальзам-кандыцыянэр. калі воцат дадаць у боршч, суп будзе нашмат смачнейшым. дадаць воцат у салату з капусты і яшчэ цукру – і капуста стане прыўкраснай.

воцатам мой бацька труціўся, бо хацеў скончыць сваё жыцьцё, калі маці ад яго сышла. пах стаяў гостры, канцэнтраваны. я яго знайшоў у пакоі. хуткая зрабіла тры прамываньні страўніка, пазначыла яго як небясьпечнага і даслала ліст аб спробе суіцыду на працу.

воцат дадаюць у марынад...

воцатам я ў дзяцінстве чысьціў гільзы, значакі й вайсковую каску – усе рэчы я шукаў па лясох і асабліва вывучаў праз ваенныя дзеньні месцы бітваў. мой дзядзька такім чынам адшукаў кулямёт «Максім», патрымаў яго ў канцэнтраваным воцаце і прадаў калекцыянэру за вялікія грошы.

мая вар’яцкая настаўніца па матэматыцы бутэлькамі піла яблычны воцат, бо марыла пахуднець – але толькі дурнела.

мне асабіста воцат падабаецца, калі яго выкарыстоўваюць, каб гасіць цеста.

## асобы

у маім целе знаходзіцца некалькі чалавек. і тут гутарка не ідзе пра д’яблаў альбо прывідаў, духаў і іншае. я сябе сапраўды лёгка падзяляю як мінімум на два. ёсьць «Я», які сам па сабе даволі ўпарты, настойлівы й штохвіліны спрабуе штосьці адшукаць, напісаць, вынайсьці ровар альбо ад пачатку прыдумаць сьвятло. і ёсьць «Я», які зусім ня хоча нікуды імкнуцца, які мае процьму комплексаў і фобій, баіцца, каб ацэньвалі яго творчасьць, не жадае мець зносінаў ні з кім, акрамя як жанчын. і я ўспрымаю іх паасобку, і яны маюць свае імёны, характары й жыцьці і зьяўляюцца ўва мне часам як па раскладзе альбо пад настрой, але бывае так, што я падыходжу да нейкіх пагранічных абставінаў і зьяўляецца той «Я», якога я не чакаў. і здараецца так, што я доўга жыву з кімсьці зь іх асобна, прызвычваюся да яго, і раптам прачынаюся іншым, і тут патрэбна колькі часу, каб абвыкнуць, прыйсьці ў належны стан. пакуль што я не магу сказаць, кім мне больш падабаецца быць, ведаю дакладна, што жанчынам падабаецца той «Я», які няўпэўнены, рамантычны, але ёсьць у мяне Люба, якая закаханая толькі ў мяне, які жорсткі, крытычны й заўсёды спрабуе штосьці прыдумаць, напісаць. мяне абодва цікавяць, але адначсова я разумею, што хутка паўстане выбар, а можа і не.

## зубы

мае зубы – плён жыцьця ў маладосьці!

мне вельмі часта сьняцца зубы, і на гэты конт хто што толькі ні кажа: сьмерць альбо жудасная хвароба тваіх родных ці сваякоў; грошы – будзе процьма грошай; сэкс – калі зубы белыя – будзе шчырае каханьне, калі не – хтосьці цябе ненавідзіць... але я заўсёды да зубоў стаўлюся абыякава, я ўвогуле зубы не шкадую, адчыняю імі піва, грызу цьвёрдыя «кірыешкі». адзін мой зуб ня мой, але зроблены з цэмэнту, другі мой зуб амаль не трымаецца ў дзяснах, і, калі мне сумна, нудна, я языком яго штурхаю – наперад, назад. трэці мой зуб чорны, і даўно прыйшоў час, каб яго вырваць і пахаваць. мой чацьверты зуб – крывы, але крывы прыгожа, я празь яго магу пляваць далёка. мае пяты й шосты зубы як па дамове шчыльна прыціснутыя адзін да аднаго, а сёмы зуб залёг глыбока ў дзясьне й не жадае вылазіць.

з такою кампаніяй у роце, вядома, я бачу дзіўныя зубныя сьненьні, але што паробіш, да стаматоляга я ніколі не пайду і суцяшаю сябе тым, што мне сьняцца зубы, бо мяне чакаюць каханьні, стаяць у чарзе і грукаюцца ў дзьверы сэрца.

што датычна камунікацыі зь людзьмі, бо ў прыродзе, дакладней, народзе прынята часта паказваць свае разцы й клыкі праз усьмешкі, выстаўляючы свае каштоўнасьці, у добрым яны стане ці благім, каб паказаць, што гэта шчыра сьмешна і нам прыемна. але я даўно навучыўся ўсьміхацца такім чынам, што расьцягваюцца ў белыя стрункі толькі вусны.

## прастора

у сьвеце засталося вельмі мала прасторы, людзі множацца – і лягчэй нікому не становіцца, мы запаўняем кожны сантымэтар зямлі сваёй наяўнасьцю. і гэта адчуваецца паўсюль: маленькія кватэры, двары ў раёнах мізэрныя, людзі ўсюды кідаюць свае машыны, паркуюць іх на кустах, паркуюць іх на дзіцячых пляцоўках і пакідаюць пасьля сябе мазутныя й алейныя лужыны, і адначасова кожны патрабуе зьбіраць за сваім сабачкам лайно, калі кожны завод вылівае выпрацаванага сьмецьця мільярды тонаў. кожны хоча жыць як мага вальней, і адначасова скаваны ланцугамі вячэрніх ток-шоў і сэрыялаў. кожны настойвае на роўных правах і адначасова гадзіць свайму суседу – выкідае сьмецьце мінаючы сьметніцу. кожнаму патрэбны спакой, але кожны слухае ў сваёй кватэры музыку так, быццам бы ён жыве на сялібе і бліжэйшыя кілямэтры нікога, акрамя ваўкоў і прыблуднага мядзьведзя. у мэгаполісах будуюць жытло адно на адным, пакоі памяншаюць, каб як мага болей людзей засяліць. паўсюль у невялікіх краінах падтрымліваюць шматдзетныя сем’і, а ў вялікіх краінах падтрымліваюць шматдзетныя Нацыянальныя сем’і, і толькі кітай адразае яйцы тым свавольнікам, якія дадумваюцца ў і так перанаселенай краіне рабіць другога дзіцёнка. нас цяпер столькі, што якасьць даўно згубілася, бо раней на тысячу чалавек прыходзіўся свой дзясятак князёў, музыкаў, паэтаў і мастакоў, цяпер на мільён

жыхароў – палова творчага гуманітарыя, якая нічога ня здольная вынайсьці, акрамя як заняцца канцэптуальнасьцю, ня ведаючы нават, што гэта, дык няхай займаюцца, ім нічога не пагражае, толькі тупое мычаньне. я не разумею, адкуль у чалавецтва столькі імпэту множыцца й брудзіць наваколье, зьнішчаць прыроду, калі было б нашмат лягічней агледзецца і пачаць вучыцца жыць, як астатнія стварэньні, – у гармоніі і ў нармальных стасунках з кожным, і можа нават замест таго, каб валіць старыя лясы, пасадзіць іх яшчэ болей і жыць сярод неверагодна прыгожых паркаў і алеяў і займацца бегам, плаваньнем, паставіць свае аўтамабілі на вадарод, а лепей у гараж, сесьці на электрычны ровар і гнаць сабе на працу, альбо на спатканьне. разгрузіць і так непатрэбныя аўтабаны, застаўленыя фурамі, якія займаюцца дастаўкаю чарговай жратвы, мэблі, будматэр'ялаў у бістро, салёны й гіпэрмаркеты, якія збольшага вельмі неадназначна й сумна завуцца «прасторамі».

## жахі

у дзяцінстве я быў вельмі ўражлівым дзіцёнкам, настолькі, што гатовы быў трываць да раніцы, але ў прыбіральню адзін ніколі не хадзіў, звычайна прачынаўся а трэцяй гадзіне, мачавы пухір вось-вось лопне, ляжу, трываю, бо пакуль яшчэ ня надта хочацца клікаць маму. такія хвіліны для мяне былі сапраўды перапоўненымі ня толькі вадкасьцю, але й жахамі. гляджу на вакно, якое хаваецца за шторамі, – жах несусьветны, блакітнае сьвятло, цені носяцца, а калі фортка расчыненая – варожыя гукі паўсюль. я сабе кажу: «ты дарослы, ня будзь нюняй, гэта ўсяго толькі цені ад дрэваў, напрыклад, як ты зможаш спадабацца аднаклясьніцы Вераніцы, калі сам ня здольны сябе абараніць і палюбіць». сорамна было, але мозг ужо ўключыўся ў гульню жахалак і я апантана пачынаў уяўляць істотаў, якія жывуць пад маім ложкам, і што калі я зараз апушчу ногі долу, жудасныя рукі з кіпцюрамі схопяць мяне за ногі і павалакуць у самую чорную цемру. я пачынаў енчыць, сьвятло ўключалася на адлегласьці ад ложку ў тры крокі пешшу, бацькі вырашылі паставіць таршэр у тым куце, дзе прыгажэй і дзе стаіць мой пісьмовы стол. я пачынаў крычаць: «мама! ма-а-а-а-а-а-а-ма!»

прыходзіла мама, палохаючы мяне, бо адчыняла дзверы ў пакой, апранутая ў доўгую, у самую падлогу, белую піжаму, мама-прывід уключала сьвятло, і я куляй нёсься ў прыбіральню. журчэў там зь вялікай палёгкай добрыя дзесяць хвілін.

цяпер мне трыццаць тры, і амаль нічога не зьмянілася. калі я прачынаюся пасьля вячэрняга піва альбо сідра а чацьвёртай ночы і побач са мною Люба, я прашу яе ўключыць сьвятло і мы разам ідзем у прыбіральню, а калі я сплю адзін, я сьвятло ўвогуле не выключаю.

былі і такія выпадкі, калі сьвятло вырубалася па ўсім доме, і гэта была вусьціш, я сапраўды панікаваў. і самае жахлівае, што магу ўзгадаць, гэта калі я два гады таму, ноччу, разам зь сябрам глядзеў японскі фільм «Праклён»: жанчына зь перавернутаю галавою ходзіць, як павук, па лесьвіцы, белы дзіцёнак стаіць у цемры і гук «ээээээээээээыыыыы» чуецца ўжо не ў тэлевізары, а паўсюль… і хлоп – вырубіла сьвятло! я крычаў, мой сябра – таксама! уявіце: сяліба, навокал бліжэйшыя некалькі кілямэтраў нікога, праз суседняе поле – лес… як мы панікавалі, як крычалі…

сёньня вельмі дурное сьвята – дзень усіх сьвятых, мерцьвякоў і бла-бла-бла… усім сьмешна, але сьмешна толькі тым, хто ніколі не сутыкаўся з сапраўдным, невядомым, містычным і ўсюдыісным жахам і вусьцішшу падсьвядомага.

і пакуль што магчыма гуляцца ўва ўсе гэтыя паганскія сьвяты, апранаць касьцюмы ваўкалакаў, вампіраў і злыдняў, спрабаваць лётаць на мётлах, але калі аднойчы, раптам, ноччу, вы прачнецеся самотным, і навокал густая, плотная цемра, а з вакна ліецца халоднае сьвятло, і на падваконьні сядзіць

шалёны хатнік, і вочы яго блішчаць зялёным, і ён вам усьміхаецца чырвонаю ўсьмешкаю, будзе ўжо не да прыбіральні і думак, як уключыць сьвятло, вы будзеце проста ляжаць у ложку, нацягнуўшы коўдру па самае падбародзьдзе, і крычаць як ніколі ў сваім жыцьці.

цудоўнага ўсім сну ў гэтую ноч, калі нашыя далёкія продкі распальвалі вогнішчы й кідалі ў языкі полымяў вядзьмарак, і калі тыя паміралі, на іхных вуснах былі ўсьмешкі шчасьця, бо яны ведалі, што праз вагонь вернуцца зваротна, каб зжэрці ўвесь наш род.

## форма

форма – гэта зло, любая форма, пачынаючы ад гарнітура й заканчваючы прыкідам мэталіста, – гэта прыналежнасьць да той ці іншай субкультуры й сацыяльнага стану. у гэтым ёсьць сэнс толькі дзеля таго, каб па зьнешнасьці даведвацца пра чалавека, але гэта можа засмуціць, напрыклад, чалавека беднага, бо ён лёгка апазнаецца. зь іншага боку, у Эўропе альбо ЗША даведацца пра сацыяльны стан чалавека складаней за кошт таннай адзежы й моды апранацца як хочаш, сэканд-хэнду й магчымасьці карыстацца сучаснай тэхнікай. зьяўляецца іншы сэнс выглядаць так ці інакш, падкрэсьліваючы, да якой суб- альбо контркультуры ты далучаны. я заўсёды цаніў людзей, якія зусім не імкнуцца быць падобнымі альбо далучанымі да чагосьці.

часам прыяжджае ў Менск мужчына, ён француз, сам выглядае як... нават ня ведаю, з чым ці кім параўнаць, выглядае ён такім чынам: старая байкавая кашуля, паламаныя акуляры, джынсы зьвісаюць і на самых ботах ззаду стаптаныя падэшвамі. неахайны, нястрыжаны, часта няголены, на такога глядзіш – і сам у сябе пытаесься: «як гэты замежнік трапіў у Беларусь, як грошай хапіла? што, за мяжой жывуць бедныя людзі, але ім хапае грошай падарожнічаць?!» насамрэч гэты француз вельмі і вельмі багаты, я зь ім пазнаёміўся чатыры гады таму, выпадкова, у бары, і потым паўночы зь ім гуляў па горадзе, паказваў

мясцовасьці і цікавосткі, хадзіў зь ім побач і думаў, што мне давядзецца везьці яго на таксоўцы і ці ёсьць у яго грошы хаця б палову дарогі аплаціць? але француз сам прапанаваў паехаць да яго на здымную кватэру, адпачнуць, а на наступны дзень, у нядзелю, – апахмяліцца ў суседнім з домам бары. я пагадзіўся, ён пазваніў камусьці, дастаўшы самы старажытны тэлефон з тэлефонаў, якія я бачыў за сваё жыцьцё. і празь пяць хвілін да нас пад'ехаў ламбарджыні д'ябла залатога колеру, з машыны выйшаў мужчына, перадаў французу ключы, а сам сеў у джып, які спыніўся побач з ламбарджыні. я быў шакаваны, адняло мову. француз сказаў, што ня хоча, каб хтосьці ведаў, што ён багаты, гэта небясьпечна, тым болей у Менску, дзе ён любіць тусавацца і знаёміцца з прыгожымі дзяўчынамі, якія, дарэчы, могуць лёгка прыехаць, ён толькі набярэ колькі нумароў. і я сказаў, каб званіў...

ёсьць у мяне былы аднаклясьнік – хлопец з маладосьці старанна дагледжаны, выкшталцоны, манікюр, пэдыкюр, сьвежая фрызура, гарнітур чорны, кашуля белая, гальштук, заколкі на гальштуку, паліто... лякаваныя чаравікі. хлопец, а цяпер ужо малады мужчына, выглядае на першы погляд як пасьпяховы прадпрымальнік, але толькі на першы погляд. прыглядаесься і разумееш: гарнітур з гуму, кашуля з цуму, чаравікі – белвест... а калі ўжо ён пачне з табою гутарыць, не адвяжасься і далучысься да яго фінансавай піраміды, запоўніш анкеты й заплоціш

грошы, абы толькі... вось так ён працуе ўжо шмат год, з мозгам, які быў старанна й вельмі акуратна згвалтаваны: вам патрэбна выглядаць багата, і вы будзеце багатымі, прайдзіцеся па крамах і запішыце кошты ўсяго, што вас прываблівае і чым вы хочаце валодаць, пастаўце сабе гэта за мэту й пачніце зьбіраць чальцоў сваёй пірамiды, і вы будзеце шчасьлівы і багаты... шмат чаго хлопцу наабяцалі, але ён і па гэты час нейкі нешчасьлівы й небагаты, але сярод мясцовых – знакамітасьць, прабіўся ў горадзе – апранаецца вунь як!

## ВЫХОДНЫЯ

выходныя – гэта суцэльнае вар'яцтва. выходныя прыдумалі, каб стамляцца ад адпачынку... у мяне такі лад жыцьця – калі статычных і пэрманэнтных выходных няма, але праз стасункі зь сябрамі я часам адчуваю, што субота і пятніца надыходзяць, як адзін шалёны, вольны ад усялякіх межаў час, які прымушае цябе быць адначасова рахманым, п'яным і бязмозглым. я памятаю, была лагодная пятніца... і цяпер вось я сяджу ў адных майтках на зэдліку на кухні, чакаю каву ў турцы і разумею, што ўжо раніца нядзелі. Гамлет сядзіць у куце і глядзіць на мяне такімі асуджальнымі вачыма, быццам бы я яму на п'яную галаву наабяцаў «карыбаў», а сам прачнуўся і толькі лістом капусным яго ўшанаваў.

ну што ж, я ведаю, жыцьцё ня мусіць мінаць праз мяне, інакш я не пасьпею адчуць яго, але адначасова я ведаю, што ўчора я пажыў, і пра гэта сьведчаць дзясятак фатаздымкаў на мабільным і два відэазапісы на вэб камэры на кампутары. і, што прыкметна, я прачнуўся ў сваёй хаце, і гэтаму факту вельмі рады, і кранула сэрца тое, што я прачнуўся распрануты, а гэта сьведчыць аб тым, што мае сябры пра мяне паклапаціліся, і толькі ўваходныя дзьверы забыліся зачыніць. і на ганку хтосьці з хлопцаў пакінуў колькі порцый ванітаў.

але чаму я так рана сяджу й пішу? таму што я – клясычны алькаголік, які прачынаецца вельмі рана і гатовы ізноў «папраўляць» здароўе, але я гэтага

ня буду рабіць, я буду піць каву, сядзець разам з Карнэлем на дажджлівым двары, мокнуць і разважаць пра тое, што было б някепска пачаць рыхтаваць дошкі для новай альтанкі, якую я пастаўлю акурат пад дубам вясною.

## пах

няма нічога больш дзіўнага і шматцытатнага для нас, як пахі... напрыклад, у мяне бывае канцэнтравана пахнуць ногі, і гэты пах самому сабе я магу прабачыць, ён не падаецца мне невыносным, але я ненавіджу, калі ў маіх сяброў пахнуць ногі, я іх за гэта гатовы выгнаць з дому адразу!

у мяне была дзяўчына, пах якой мяне раздражняў, яна сама па сабе пахла сумесьсю ваніліну й карыцы, але гэта перамешвалася з потам (і ня трэба мне тут казаць, што дзяўчыны не патнеюць). большасьць маіх прыўкрасных каханак заўсёды былі смачнымі, а вось адна зь іх – не. быў такі выпадак, калі мне вельмі не падабаўся пах похвы, і было аднойчы, калі мая каханка пахла далёёёёка ня кветкамі, але я звычайна такія рэчы трываў, асабліва калі быў у стане ўзбуджэньня, і толькі тая мая сяброўка, зь якою я пражыў паўгады, заўсёды была такою далікатнаю, ласкаваю й чыстаю, але пах ад яе мяне зусім не прывабліваў.

год я жыў зь дзяўчынаю, якая была вегетарыянкаю і мела неверагодна прыгожую форму грудзей – казка... але ў яе заўсёды кепска пахла з роту, пахла страўнікам, мне здаецца, у яе быў гастрыт...

ёсьць пахі сыроў, якія я неверагодна люблю, і ёсьць пах тых жа глядыёлусаў, які я не разумею.

мне вельмі падабаецца пах мэтро ў Менску: сьвежы, электрычны.

пах маіх ног падабаецца майму сабаку, але чаму прырода існуе такім чынам, што мне заўсёды даводзіцца мыць ногі дадаткова ўвечары?

## стомленасьць

самая цяжкая стомленасьць надыходзіць ад таго, калі нічога ня робіш. ад самай раніцы я стамляюся да невымоўнага стану. павекі склееныя, галава надзьмутая, як балёнік, у які замест паветра трапіў сьвінец. ногі ватовыя, страўнік не працуе, варушыць ня тое што рукамі, пальцамі немагчыма.

прагрэс рухаецца за кошт чалавечай ляноты. чалавеку лянотна хадзіць у краму, ён звоніць і замаўляе. чалавеку лянотна хадзіць пешшу, ён карыстаецца аўто... але калі ўсе мы такія лянотныя ёлупні – хто тады працуе над тым, каб рабіць у нашым жыцьці паляпшэньні, прасоўвае тэхніку і прагрэс? мне лянотна сёньня нават разважаць і тым болей пісаць пра штосьці, але я раблю гэта праз немагчымае. прадзіраюся праз гушчар зруйнаваных жаданьняў і магчымасьцяў, намагаюся ня чуць думкі ўслых, што яшчэ з васьмі раніцы, калі б я пачаў свой дзень інакш, я б ужо даўно перарабіў бы ўсю заплянаваную працу. але я толькі памяняў стан цела на ложку. гляджу бессэнсоўна ў манітор ноўтбука, павольна пачухваю жывот. я ня ведаю, адкуль гэта, але мне падаецца, што лянота – гэта д’ябальская рэч, яна працуе на тое, каб чалавек закісаў, даходзіў да стану браджэньня, выпадаў у асадак, ператвараўся ў мяккае цеста, зь якога магчыма было б наляпіць пяльменяў. і такім чынам цэлыя гарады й краіны ператвараюцца ў пяльмені, і толькі кітайцы ўсё працуюць, і працуюць, і працуюць, і працуюць, і працуюць, а я да

гэтага часу нічога яшчэ не зрабіў, акрамя прыбіральні й выпітай гарбаты, – я самы непатрэбны на сьвеце элемэнт, калі б існаваў савецкі саюз, мяне асудзілі б за дармаедзтва, бо каго хвалюе, што ў цябе ўнутры, акрамя вантробаў... можа быць, ты і плянуеш сёньня ўвечары сесьці за штосьці вартае і напісаць, напрыклад, п’есу для аднаго актора, але ты не сабраў трактар, не ўзараў поле, ты не пакарміў Карнэля, ты, ты, ты, ты, ты – маленечкая алейная плямка на швэдры тваёй краіны, якая кідаецца ў вочы і яе так проста сольлю не пасыпеш

## узрост

у маім жыцьці ўсё адносна, асабліва адносна ўзросту. я не разумею, навошта чалавек лічыць свае гады, сочыць за тым, як яго скура старэе, і пачынае пакутаваць праз неверагодную колькасьць крызісаў: сярэдняга ўзросту, сталага... падлеткавага, крызіс 45 год, крызіс, крызіс, крызіс. мае знаёмыя і суседзі выглядаюць так, нібыта перажылі ўжо ўсе крызісы і рыхтуюцца да апошніх спадзявана-неспадзяваных удараў: інсульт альбо інфаркт...

ёсьць людзі (іх вельмі мала), якія зусім ня сочаць за сваім узростам, пачынаюць у семдзесят вучыцца плаваць альбо маляваць.

ёсьць людзі, якія ня ведаюць, колькі ім год, і, калі заканчваюць вну, не імкнуцца ствараць сем'і, нараджаць дзяцей. яны імкнуцца да іншага, пачынаюць жыць калярова, і гэтаму спрыяе час, бо разьвівае тэхналёгіі, якія дапамагаюць не зачыняцца ўва ўласнай кватэры, як паводле Бродзкага – не выходзячы з пакою, але наадварот, пакідаюць усе непатрэбныя зямныя дробязі: не працуюць як усе, не ядуць тое, што ўсе, не карыстаюцца грамадзкім транспартам, глядзяць фільмы, якія ніхто не глядзіць, грэбуюць агульнымі правіламі этыкету, не заўважаюць, як мяняецца час і архітэктура, ствараюць свой уласны сьветапогляд і сьветаўспрыманьне і рухаюць зямны шарык у тым накірунку, які ім падаецца цікавым.

і такіх людзей у нас ненавідзяць, праклінаюць і ганьбяць. дастаткова паслухаць дыялёгі мінакоў,

пасажыраў, наведвальнікаў дамоў быту: «а ён жа ж не працуе нідзе!» – «божачкі! як?! нідзе?!» – «а тая вунь, трыццаць год, і без дзяцей, старая ўжо хутка будзе, каб дзяцей рабіць». – «ой, не разумею я гэтую моладзь, мы ў свой час адбудоўвалі гарады пасьля вайны, сьветлую будучыню наладжвалі, а гэтыя байструкі не жадаюць ёю карыстацца»...

я не сачу за сваім часам і ўзростам, і я ведаю, што кожны кінуты грамадзтвам камень – у мой гарод. але гэта часова, бо тэрміны ўсе праходзяць, і з часам чалавек становіцца разумнейшым. надыдзе час, калі беларусы стануць не такімі, як пра іх кажуць, што яны заслугоўваюць такую ўладу, якая ёсьць, але вясёлымі і добрымі летуценьнікамі, якія ня сочаць за сваім узростам, ня лічаць гадзіны ад дэфолту да дэвальвацыі, але ўсьміхаюцца, і ў кожнай вёсцы – свой звараны самагон, і свая культура сьпяваць песьні, і свая культура насіць вопратку... усё сваё.

## шкарпэткі

мае шкарпэткі – гэта выспы сваволься ў мясцовым грамадзтве. усё пачалося ў дзяцінстве, калі я адмаўляўся насіць аднолькавыя шкарпэткі, але на той час дзевяноста адсоткаў вытворчасьці шкарпэтак даводзілся на аднолькава чорны колер, і я, стаўшы падлеткам, пачаў апранаць адну нагу ў сінюю шкарпэтку, а другую – у чорную альбо карычневую...

сказаць, што маіх родных гэта шакавала, – нічога не сказаць.

ты што, ахламон і клоўн? ты што, хочаш, каб цябе ўвесь двор лічыў за ідыёта?!

я выслухоўваў якія заўгодна заўвагі і меркаваньні, але насіў шкарпэткі, якія хацеў, і як хацеў. тым болей, што мне, юнаку, падавалася, быццам бы я руйную вельмі закаранелы савецкі лад грамадзтва.

потым з часам усё зьмянілася, у крамах зьявілася процьма іншых шкарпэтак, і я цяпер апранаю на адну нагу доўгую шкарпэтку ў каляровыя палоскі, на другую – жоўтую кароткую шкарпэтку альбо што іншае па колеры й фактуры.

у мяне часта пытаюцца наконт гэтага, але я адказваю, што мне так утульна, і не зьвяртаю ўвагі.

дзіўна, што ў людзей гэта выклікае заўсёды высокую зацікаўленасьць, абмеркаваньне, часта – непаразуменьне, такая дробязь, як шкарпэткі... і толькі мая маці зьмірылася з гэтым, сказаўшы, што розныя шкарпэткі ахоўваюць ад сурокоў.

## недарэвалюцыя

адразу скажу: для мяне ніякіх «красных дней календара» і чырвоных рэвалюцый, калі зьнішчылі культуру й інтэлігенцыю, не існуе, я лічу ўсе забабоны вакол чырвоных сьвятаў і камуністычных прозьвішчаў на вуліцах – цяжкай хранічнаю хваробаю грамадзтва. хто б што ні казаў, маўляў, гэта наша гісторыя і гэта таксама мае права існаваць – я адмаўляюся слухаць. немцы не адзначаюць сьвяты фашыстоўскіх часоў, палякі не адзначаюць падзелы Рэчы Паспалітай, мы не сьвяткуем дату ўваходжаньня беларускіх земляў у склад расейскай імпэрыі.

і праз гэта я ненавіджу першы беларускі тэлеканал, бо ён па вечарох прамывае мозг дажынкамі, сьвятамі й навінамі, што Амэрыка на мяжы хаоса і Армагедону. я ненавіджу другі тэлеканал за тое, што кожны вечар ён паказвае толькі старыя фільмы пра вайну альбо савецкія мэлядрамы – мая бабуля гэта разумела й кляла на чым сьвет стаіць. ну сур'ёзна – у дупу «Масква сьлязам ня верыць»! колькі магчыма?! якія там 17 імгненьняў?! а?! імгненьні зацягнуліся ў шэрагі дзесяцігодзьдзяў аднаго й таго ж. і я ненавіджу трэці тэлеканал за тое, што ён штовечар трансьлюе безгустоўныя канцэрты з нагодаў дня міліцыі, дня чыгуначніка, дня шахцёра, дня вдв, дня «дружбы брацкіх народаў».

я б зь вялікай радасьцю працаваў бы ўсе савецкія сьвяты запар, я гатовы ўвогуле працаваць

без адпачынкаў, абы толькі ня чуць, ня бачыць і ня ведаць пра існаваньне такой бязглузьдзіцы, як «красны дзень календара»…

я зь вялікай радасьцю вып’ю чарку за што заўгодна, вып’ю за геяў, за дзень сабак, адсьвяткую дзень маці і жанчын, абы толькі безь перажыткаў мінулага, на якое вельмі хочацца забыцца.

## час

я заўсёды быў упэўнены ў сваіх густах, лічыў, што слухаю файную музыку і чытаю выдатныя кнігі, падсьвядома грэбаваў знаёмымі, якія глядзяць сэрыялы альбо слухаюць поп... прыехала Люба і сказала, што яна ўжо стамілася слухаць кожны дзень рок і гранж, і асабліва яе раздражняюць усе гэтыя гурты, якія я вельмі люблю: Оазіс, Колдплэй, Эдытарз, Плэйсіба... Люба сказала, што прыйшоў час пачаць разнастайваць музыку і старое перамешваць з новым. я вельмі пакрыўдзіўся, бо шчыра лічу, што ёсьць гурты, на якія не ўплывае час. але Люба кажа, што мае густы састарэлі.

як так? як гэта можа быць, што тое, што ты любіш, апынаецца старым? гэта ж як на мяне глядзяць падлеткі тады? а Люба сама ў сваю чаргу прапанавала паслухаць Эмі Ўайнхаўз, якая безь пяці хвілін як датычная да мінулай генэрацыі...

## прыемна

добра – гэта калі ў цябе пытаецца пра твой настрой у грамадзкім транспарце незнаёмец, бо ты едзеш і сумна глядзіш у вакно, прадзіраючыся думкамі праз туман.

а яшчэ добра, калі ў цябе не пытаюцца, што з табою, калі табе сумна і ты шукаеш самоты, але вымушаны знаходзіцца сярод людзей.

таксама файна, калі ты бачыш, як бабульцы дапамагаюць перайсьці дарогу.

і зусім ня добра, калі ты бачыш старую, якая каля царквы зьбірае грошы на хлеб.

мне асабіста заўсёды прыемна, калі да мяне зьвяртаюцца праз «калі ласка» і ў дадатак называюць маладым чалавекам.

і мне асабіста зусім не прыемна, калі мне кажуць незнаёмыя дзеці «дзядзя».

я жадаю, каб усім было неверагодна лёгка ўсьміхацца ў мэтро, і нават не абавязкова саступаць месцы ўсім пагалоўна: жанчынам, дзяўчынам, старым і цяжарным, проста хочацца, каб мінакі былі ветлівыя, і ўсё астатняе прыйдзе з добрым настроем.

і мне зусім абыякава, калі ў грамадзкім транспарце будуць ехаць эма, панкі альбо гопнікі...

і мне цалкам не цікава, хто і якога колеру будзе і ў якую вопратку апрануты.

прыемна, калі цябе прапускаюць наперад альбо намагаюцца ня надта моцна на цябе давіць у гадзіну-пік.

выдатна, калі ты стаіш у корку і вельмі хочацца збочыць на суседнюю паласу, якая больш вольная, і іншы кіроўца дае табе магчымасьць «праскачыць», і ты яму ў адказ дзякуеш жоўтымі ліхтарамі «аварыйкі».

таксама выглядае няблага, калі ты на машыне прапускаеш пешаходаў, дакладна спыніўшыся, а не паўзеш як смоўж, чакаючы, калі ўсе пройдуць, – гэта выдае на безкультур’е.

мне вельмі прыемна, калі ў суседнім шапіку прадавачка вітаецца са мною і пытаецца пра справы, памятаючы нават, як завуць майго сабаку...

## чаканьне

гэта як быццам ты доўга клеіў мадэль самалёціка і ў цябе засталася адна дэталь да завяршэньня.

гэта калі ты сядзіш перад экранам кампутара і праз сэкунду пачнецца фільм любімага рэжысэра, які ты чакаў два гады.

гэта калі ты падносіш да вуснаў бутэльку чэскага піва і, яшчэ не адчуўшы смак, чуеш пах.

гэта калі ты бяжыш зь мячом і разумееш, што ня толькі пас быў трапным, але ёсьць усе шанцы забіць вырашальны гол, і яшчэ сэкунда, галкіпер пасьлізнуўся, а наперадзе пустыя брамы…

гэта калі ты атрымліваеш доўгачаканы ліст і пачынаеш ірваць капэрту, ведаючы, што ўнутры цябе чакае прыемнасьць.

так я сяджу аголены ўвечары на ложку і чакаю, калі яна выйдзе з ваннага пакою, бо шуму вады больш не чуваць.

## ногі

у сьвеце ног удвая болей, чым людзей.

у сьвеце існуе цэлы клан ног.

у сьвеце існуе культ ног.

у сьвеце ёсьць мужчыны, якія пакланяюцца нагам.

у сьвеце ёсьць жанчыны, якія пакланяюцца нагам.

у сьвеце ёсьць прыўкрасныя ногі Букоўскі, і гэта, вядома, толькі паводле ягоных слоў.

у сьвеце ёсьць ногі, якія ніколі ня мыліся.

у сьвеце ёсьць ногі, якія лёгка абгоняць гепарда, і гэта каштоўныя ногі.

ёсьць ногі, якія кормяць літаральна, і ёсьць ногі, якія ня здольныя нават з ложка ўстаць.

ёсьць ногі падарожнікі і ёсьць ногі, якія ўдзельнічаюць у сэксуальных гульнях.

у сьвеце шмат дзіцячых ног, пазногці на каторых не падразаюцца.

у сьвеце жывуць вельмі маленькія ногі, якія яшчэ не краналіся падлогі.

у сьвеце ёсьць суполка самотных ног, разьведзеных ног таксама багата.

ёсьць ногі спартсмэна і ёсьць ногі праграміста, якія зусім па-рознаму жывуць і разьвіваюцца.

ёсьць вельміваласатыя ногі і ёсьць ногі, на якіх ніколі не было расьліннасьці.

ёсьць ногі, суцэльна пакрытыя татуіроўкамі, і ёсьць ногі, якія часта ўкленчваюць на малітву.

ёсьць пругкія ногі і ёсьць ногі азызлыя, пасьля доўгага сядзеньня.

і ёсьць ногі, якія заўсёды аднолькава прываб-ныя й усьцешныя, і ёсьць вусны, якія кожны дзень цалуюць іх, пачынаючы зь вялікага пальца, і, лёгка кранаючыся скуры, падарожнічаюць да сьцёгнаў і ўглыб, і зваротна, і ўніз, пакуль без пацалунка не за-станецца толькі юрлівы мезенец.

## to be

быць заўсёды на мяжы звар’яцець
не прымаць чужых меркаваньняў
марыць зруйнаваць усё, што было да цябе
ганьбіць уладу
ганьбіць выкладчыкаў
ганьбіць тых, хто ганьбіць файных выкладчыкаў
ня мець часу, каб выспацца
ня мець дастаткова часу, каб выгуляцца
ня мець дастаткова моцы й трываньня, каб вывучыць
спадзявацца толькі на выпадковасьць і «як пашчасьціць»
піць усё, што гарыць
піць усё, што мае любы мінімальны працэнт алькаголю
піць безалькагольнае толькі дзеля таго, каб запіць
есьці хутка і ніколі не гатаваць
быць залежным ад пазыкаў
сьпісваць, як майстра, які выконвае ёгу дваццатай ступені
займацца сэксам у пад’ездах
займацца сэксам у дварах
займацца сэксам на дахах дамоў
займацца сэксам у парках
займацца сэксам, калі ў пакоі яшчэ шэсьць дзяўчат і шэсьць сяброў дзяўчат

а потым курыць і моўчкі марыць

а потым апранаць старыя джынсы й сыходзіць, бо хутка зачыняць інтэрнат

альбо сыходзіць, таму што ёй трэба прыбрацца, пакуль не вярнуліся бацькі

сыходзіць, бо трэба шукаць у каго пазычыць грошы на піва

сыходзіць у пошуку алькаголю

сыходзіць і марыць, і ехаць кудысьці, слухаючы ў плэеры Плэйсіба

і назіраць, як увесь сьвет раптам сумуе разам з табою

быць, існаваць, быць юнаком, быць шчасьлівым, быць студэнтам другога курса і ні аб чым ня думаць

## разам

яны вырашылі жыць разам
і яна абхапіла яго шыю рукамі
нагамі абахапіла талію
целам як мага шчыльней наблізілася да яго
і яны пачалі жыць разам
спалі разам
разам елі за адным сталом і з адной талеркі
разам глядзелі кіно ў кінатэатры і дзялілі адно месца
яны разам спалі на адной падушцы
разам стаялі пад адным душам
у прыбіральню хадзілі разам, бо былі шчырымі ва ўсім
яны разам сустракаліся з сябрамі
і трымаліся заўсёды за рукі
і калі яна плакала, ён яе суцяшаў, цалуючы кожную сьлязінку асобна
і калі яму было сумна, яна яго гладзіла па галаве
і разам яны жылі, і дыхалі адным паветрам
і рухаліся аднолькава ня толькі ў хвіліны жарсьцяў
і дзяліліся адно з адным таямніцамі
і рознае ў іх было толькі адзеньне, колер скуры й вачэй

## клоўн

Васіль працуе клоўнам, так у яго склалася яшчэ са школы: спачатку ладзіў клаўнады на перапынках за так, потым корчыў рожы ў каледжы, а потым трапіў на курсы ў цырк… і цяпер, пачынаючы ад дваццаці пяці, ён усе выходныя заняты. і ў Васіля звычайна такое ж самае жыцьцё, як і ў любога іншага клоўна… Васіль – мім, Васіль – звычайны клоўн-з-балёнікамі, Васіль – Рональд Макдональд, Васіль у парку раздае цукеркі. і яго нішто не вылучае сярод іншых клоўнаў. ён, як і іншыя, ня любіць людзей, і асабліва дзяцей. і гэта не вылучае яго сярод іншых клоўнаў. ён шмат п’е – і гэта таксама не выключэньне ў вялікім штаце клоўнаў. ён – самотны, і гэта звычайнасьць. дома ў яго жывуць котка й сабачка – ну і што? жыве ён ня тое каб, без раскошы, але неяк шэра й звычайна…

Васіль, як і ўсе клоўны, ня любіць туманныя дні, сьмех, марозіва, дурныя камэдыі, птушак, тэатар і віно… але наш клоўн вылучаецца тым, што мае алергію на кветкі і старых бабуль і зьбірае дома нацыянальную бібліятэку з бабруйскіх запалак, хоча трапіць у кнігу рэкордаў…

## твар

у адной жанчыны быў твар анёла, паўсюль, дзе яна зьяўлялася, людзям станавілася хараша на сэрцы, скрушныя думкі раставалі імгненна, і на гэты твар хацелася маліцца... але жанчына не была анёлам, і, наадварот, нязвыкла для свайго выгляду (а была яна невялічкая, страйнюткая й лёгкая, як дзьмухавец) жанчына мела цяжкі кулак і гостры язык, а вочы, калі пільна ўгледзецца, былі наскрозь прашытымі голкамі. і гэты дуалізм прыроды зусім не пасаваў ейнай пэрсоне. працавала жанчына кухарам і карміла ўвесь трактарны завод. на пачатку ейнай працы ўсе наведвальнікі ласкава звалі яе карміліцай, спадарынькай, вумнічкаю, яна толькі ў адказ пасьміхалася і, трэба сказаць, пасьміхалася вельмі прыемна... але прайшоў першы тыдзень, за ім другі, і на трэці, калі адзін з працаўнікоў ціха адказаў на пытаньне, што яму пакласьці на талерку, кашу ці смажаную бульбу, жанчына вельмі злосна й гучна зашыпела, натуральна зашыпела, і не паклала яму нічога, маўляў, вучыся нармальна размаўляць... і так усё і абрынулася зь ідэальным анёлам, твар якога прамяніўся цеплынёю й пяшчотаю, жанчына з кожным днём пачала шыпець, крычаць, а часам нават гаўкаць, але твар яе не мяняўся, і падавалася, што ўнутры гэтай прыгожай абалонкі жыве іншая істота…

нягледзячы на тое, што на трактарным заводзе працуюць суворыя мужчыны, яе пачалі жахац-

ца, ігнараваць і больш не было чутна «спадарынька, дзякуй». ніхто больш не хацеў глядзець ёй у вочы, ніхто не хацеў уступаць у сувязь з двухтварым Янусам, з мэгэраю, з д’яблам, які, як вядома, быў самым прыўкрасным з анёлаў, якога Бог пакараў і кінуў у пекла...

## пустэча

пра што напісаць? пра што напісаць... няма пра што пісаць, але ёсьць пра што пісаць, і адначасова я ня памятаю, пра што хацеў напісаць, і гэты колазварот жаданьня, якое пераходзіць у патрэбнасьць, пужае мяне, і я бачу толькі белую яскравую сьцяну, суцэльную, без шурпатасьцяў, прыемную на зрок, і для крананьня цёплую, і быццам бы яна перадае мне супакой... за апошнія дні ў мяне столькі справаў, што я не пасьпяваю сачыць за зьменаю лічбаў у нататніку, ня кажучы ўжо пра гадзіны. Люба прыехала на цэлы тыдзень, сёньня я ўжо нэрвуюся, бо немагчыма знаходзіцца разам, не пакідаючы асобна дому ні на хвіліну, і ў краму разам, і паліць на ганак разам, і ў прыбіральню – разам, бо яна мае душавую... я не абвык да такога... шчыльныя стасункі пачынаюць ціснуць на ўсе мае вантробы, і я часта доўга не выходжу з прыбіральні ня толькі праз свае вантробы, але й праз тое, што магу там сядзець і чытаць, напрыклад. Люба – гэта файна, але ўсё файнае калі-небудзь ператвараецца ў адносна файнае. вось адносна мяне файнасьць Любы крыху зьнізілася, але я набыў сабе піва і спрабую штучна павысіць файнасьць. п’ю яго вось цяпер, сачу за тым, як набіраецца тэкст... але калі бяз жартаў, то ў мяне ўсё файна, і надвор’е як трэба, пасадзіў тры маленькія елкі, яны называюцца «Конікі», калі іх не засыпле сьнегам – будзе шчасьце на Новы год. памыў Карнэля й Гамлета, прыбраўся ў хаце, набыў

сьвежага сыру... што яшчэ трэба для шчасьця... але я ведаю, што мне для шчасьця трэба, каб час рухаўся павольна і каб як мага меней зьяўлялася такіх дзён, калі ты глядзіш у прастору, і перад табою нават не пустэча, але суцэльная белая сьцяна, і табе так хочацца яе пералезьці, і так хочацца яе зруйнаваць, але ты разумееш, што гэтая сьцяна на дадзены момант нікуды не падзенецца і будзе цалкам глушыць усе твае думкі, і, калі ты дойдзеш да мяжы і больш ня здолееш працягваць пісаць, яна забярэ апошнюю радасьць у жыцьці, пакінуўшы толькі пабатавыя клопаты, праз якія ты будзеш радавацца, што жывы, усяго толькі... жывы, і больш нічога.

## рэальнасьць

у Борхеса ёсьць тэорыя, што кожны чалавек, калі засынае, адразу прачынаецца ў іншым паралельным сьвеце, дзе ў яго раніца і ён жыве сваё ўласнае жыцьцё... і ёсьць у яго выказваньне наконт таго, што люстэркі – такія ж гнюсныя рэчы, як і савакупленьне, бо абедзьве гэтыя «рэчы» ствараюць на сьвеце копіі...

я кожнай раніцаю прачынаюся стомленым, але стома прыемная, як калі займаўся справаю цяжкаю, але сабе ў радасьць... і сны ў мяне бываюць звышнатуральнымі, быццам я сапраўды быў там, у снах... і люстэркі, усе люстэркі ў маёй хаце кожным разам памнажаюць маё адлюстраваньне, калі я праходжу побач, і аднačасова я ведаю, што гэта не памнажэньне, гэта я з паралельнага сьвету, які толькі што прайшоў такім жа шляхам, як і я, але зь іншага боку, і я, напрыклад, адчыніў дзьверы Любе, якая прыехала з крамы, і пусьціў у хату Карнэля, а іншы я пайшоў у ложак з прыбіральні, бо праз тры гадзіны прачынацца на працу, а ў ложку яго чакае Люба зь іншым колерам валасоў, у той самы час, калі мы зьбіраемся піць віно й глядзець фільм, цалавацца й кахацца, я з паралельнага сьвету буду сьніць жарсьці і прачнуся ўзбуджаным, а я толькі-толькі пасну...

## талерантны

вось жыве тут мужчына... і ўсё жыцьцё ён пражыў роўна, спакойна, як яму падабалася, гадаваў дзяцей, саджаў дрэвы, вырошчваў бульбу... пагрукаліся тут у дзьверы шэсьцьдзясят год, і раптам ён паглядзеў навокал і заўважыў такую дзіўную рэч, што жыцьцё сваё ён жыве толькі аднойчы і нават не заўважыў, што яно вельмі хутка праляцела, і вось ён ізноў самотны, як гэта і было зь ім у юнацтве, калі ён пакінуў бацькоў і перасяліўся ў іншы горад, вучыцца, працаваць і дасьледаваць адзіноту, паступова сталеючы... і вось 60 год... а ён так і не навучыўся танчыць факстрот і так і не даведаўся, што гэта такое – сушы... і процьму ўсяго ён узгадаў, і захацелася яму ў падарожжа, бо што яшчэ рабіць у сталым узросьце, паглядзеў навокал, адзначыў, што адной валізы будзе дастаткова, знайшоў пашпарт, выйшаў на двор, агледзеўся яшчэ раз навокал, гэтым разам ужо вонкі, і тут раптам заўважыў, што ён жа ў Беларусі і ягонай пэнсіі дакладна ня хопіць на падарожжы, нават на адно падарожжа, і засумаваў мужчына, сеў на валізу і пачаў сябе суцяшаць, кажучы, што не ягоная віна, што ён нарадзіўся тут, гэтае выпрабаваньне для чагосьці ёсьць у ягоным жыцьці... што паробіш, трэба змагацца, грошай трэба назьбіраць цяпер хаця б на гарнітур новы і на труну, бо сьмерць сядзіць на ганку, ужо чакае... а з гэтымі грашыма асабліва няма на каго спадзявацца... і мужчына вярнуўся ў хату, супакоены, што ў жыцьці ён зрабіў усё магчымае,

а тое, што засталося нязробленым, залежыць ужо не ад яго, і няхай гараць сінім полымем тыя сушы, а факстрот ён спакойна заменіць на вальс у мясцовым доме культуры...

## СЛОВЫ

Міхасю ў жыцьці не хапала лічбаў і словаў, ён лічыў, што дваццаць тысяч – гэта ня толькі зашмат літар, але й розныя рэчы, калі вядзецца гутарка пра 20 000 кілямэтраў і 20 000 кветак, і таму ён на ўсе лічбы прыдумляў словы, так у яго 10 кілямэтраў у гадзіну – гэта было слова «кубак», а калі ён распавядаў, што зараз надвор'е +10 – гэта азначала «кіт высах»... Міхась усё запамінаў, нічога ніколі не запісваў, і лічбы ў ягонай галаве павялічваліся ў колькасьці, іх станавілася вельмі шмат, таму Міхась стараўся менш разважаць і трымаць як мага меней непатрэбнай інфармацыі ў галаве. фільмы ён глядзеў, як і кнігі, якія чытаў, – праходзячы праз іх і выдаткоўваючы роўна дзесяць хвілін на тое, каб паразважаць, што прачытаў альбо паглядзеў... потым Міхась заўважыў, што ў прыродзе, як і ў горадзе, не стае словаў, якія б цалкам натуральна й дасканала характарызавалі тое ці іншае аблічча, выгляд, краявід, бо гэта як у імпрэсіяністаў, адно і тое ж поле ў розныя часы зусім не аднолькавае, альбо твар чалавека ў профіль і анфас вельмі адрозныя і гэта ўжо розныя людзі... так Міхась пачаў прыдумляць новыя словы для ўсяго, што назіраў і бачыў... і ў рэшце рэшт ён прыйшоў да такога выніку, што ў сваёй галаве ўтрымліваў толькі свой уласны слоўнік і размаўляў такім чынам, што яго разумеў толькі ягоны сабака й хатні хамячок... грамадзтва паставіла яму аўтызм, інваліднасьць і выпісала невялічкую

пэнсію ў той самы час, калі Міхась амаль дакрочыў да мяжы ўласнай гармоніі з асяродзьдзем, бо быў здольным растлумачыць усё на сьвеце – яму хапала словаў.

## хвароба

любая хвароба набліжае нас да сьмерці. гэта сказаў Ёзэф Рот. я гляджу на гэты тэзіс па-іншаму і лічу, што кожная хвароба для нас ёсьць выпрабаваньнем нашай сутнасьці. хвароба альбо ламае чалавека, альбо надае яму моцы й вучыць глядзець на сьвет вачыма, на якія быццам бы надзелі акуляры з патрэбнымі дыёптрыямі: сьвет набліжаецца да нас, і праз кожную павялічаную рэч мы можам бачыць саміх сябе. я шукаю новых мэтадаў дасьледаваньня космасу. праз Кастанэду я ведаю, якая менавіта трава – мая… празь Біблію я вучуся разумець, што сьвет абсурдны, жорсткі й мае ў сабе падмурак бессэнсоўнага існаваньня дзеля Госпада… празь Ніцшэ я вучуся на сьвет глядзець як нігіліст, і мне шмат чаго хацелася б зруйнаваць… праз хваробы, нават праз звычайную прастуду, я набліжаюся да стану анабіёзу, і ў гэтым стане я здольны ўсё бачыць і адчуваць вастрэй… няхай ты кашляеш, і тэмпература павышаная, але ты толькі заплюшчы вочы, і пачынай разглядаць калейдаскоп камунікацый рэчаў і прыроды ў прасторы. я ня буду набліжацца да сьмерці, я лепей патану ўва ўласным сьвядомым, якое, як мёд з водарам рамонкаў, сьцякае па маёй скуры.

## чалавек-павук

чалавек-павук жыў на восьмым паверсе, і не было ў яго сяброў, і не было ў яго сваякоў, і не было бацькоў, бо ён іх зьеў адразу нарадзіўшыся. чалавек-павук баяўся гораду, баяўся дамоў, баяўся сьветлага надор’я, і яму не падабалася сонца.

бацькі нават не пасьпелі пашкадаваць аб нараджэньні сына-павучка, як ён, спрытна аплёўшы іх павуціньнем, закансэрваваў целы і, да паўналецьця, па невялічкіх порцыях высмоктваў зь целаў кансэрвант, летам ловячы мух і матылькоў, зімовымі доўгімі вечарамі ловячы мышанят.

чалавек-павук цалкам супярэчыў усім іншым уяўленьням пра чалавекаў-павукоў: ён ня мог спрытна лётаць за кошт павуціньня, у яго не было гумовага адзеньня і не было маскі. цела ягонае было звычайным, як у людзей, толькі на галаве замест чалавечага твару быў твар павука, зь вялікай колькасьцю вочак і дзіўнай сківіцай.

чалавек-павук быў вялікім аматарам спайдэрмэна і марыў ратаваць сьвет ад небясьпекі, але чалавек-павук вельмі баяўся выходзіць вонкі, і прыйшлі спэцыяльныя органы аховы й улады, каб выгнаць злоснага неплацельшчыка з кватэры, яго схапілі й адвезьлі ў інстытут дасьледаваньняў біялягічных формаў, але чалавек-павук здолеў зьбегчы акурат перад дзьвярыма інстытута… і больш яго ня бачылі…

## вусьціш

Гэня баяўся вады й захлынуўся на возеры, яго доўга ўгаворвалі даплысьці да буйкоў, Ёдзя баялася бегаць, і, калі пераходзіла праз дарогу, на яе наехала машына, якая кляксоніла, той каб хутчэй перабегла, бо тармазны шлях перавышаў усе магчымыя мэтры, Вэня баяўся холаду і памёр ад перагрэву на сонцы, Коля заўсёды з вусьцішу глядзеў у цемру і, аднойчы ўключыўшы сьвятло, згарэў у старым доме – праводка заіскрыла хутка, бліскуча й няўмольна, Воля баялася, калі яе казыталі за пяткі, і аднойчы яна гульліва сьмяялася, яе казыталі, яна сьмяялася, пакуль ня ўпала з ложка.

але трэба дадаць, што ўсе яны пакінулі гэты сьвет праз тое, што не баяліся злоўжываць магічнай вадкасьцю.

## скакалка

я ў жыцьці ніколі ня скокаў праз скакалку, але з маленства быў шчыльна зь ёю зьвязаны, бо мая бабуля вельмі любіла карыстацца гэтым гумова-плястыкавым матузком з любой нагоды.

па маёй жопцы скакалка пляскала па-заліхвацку, напрыклад, за тое, што выйшаў на двор бяз коўдры ўзімку, калі прыяжджала маці й пакідала мяне на канікулы, альбо скакалка пякла пятую кропку ўлетку, за тое, што зьеў маліну на варэньне...

дзеда скакалка перацінала па сьпіне, кранаючы кожны пазванок, за тое, што прыходзіў п’яны, за тое, што камусьці там печ паставіў, а грошы данёс толькі на два боханы хлебу, за тое, што гутарыў з суседкаю й усьміхаўся, за тое, што, замест таго каб ісьці ўвечары зачыняць козачак, сядзеў на ганку й люльку курыў. і я шкадаваў дзеда болей, ніж сябе, бо яму даставалася кожны дзень, і нават не аднойчы на дзень.

скакалка весела скокала па кожнай істоце, якая жыла ў доме і ў двары, нават аднойчы трапіла па плячох паштальёну, за тое, што прынёс ліст ад гарвыканкаму толькі праз два дні.

скакалка добра адлупцавала Тузіка, які пайшоў па грыбы разам з гаспадыняю й зьбег на цэлы дзень. і па вяртаньні яго лупцавалі, а потым Тузік сядзеў на ланцугу месяц, і, калі нарэшце атрымаў свабоду, бо бабці трэба было ісьці ў лес, ён зьбег.

скакалка ніколі не была для мяне прадметам гульні, альбо сымбалем шчасьця, таму, напэўна,

я й фізычна ў дзяцінстве разьвіваўся па-іншаму: усе сябры мужнелі, а я заставаўся дохлым, не любіў скокаць, бегаць і гуляцца ў мяч, бо пятая кропка балела, і я ўвогуле знаходзіў шчасьце ў назіраньні за кузюркамі і ўва ўласных марах, чытаў «Палескіх рабінзонаў» і «Тарзана»...

скакалка й па гэты час вісіць у закінутай частцы хлява, акурат на цьвіку, на якім раней вісела старое кола ад ровара, і я на яе гляджу з далёкага дзяцінства і разумею, што ніколі ня буду скокаць праз яе, нават калі стану старым і забудуся на ўсе ўспаміны.

## торба

у майго дзеда ніколі не было прыстойнай торбы, бо альбо ён хадзіў у краму з сеткай, альбо з пакетам ручнога вырабу, хэнд-мэйд ад бабулі: торба, сшытая з пакетаў з-пад малака.

сказаць, што я саромеўся хадзіць зь дзедам у краму, гэта значыцца ніяк не адлюстраваць усяго таго жаху, у які я часам трапляў.

мне ўвогуле было сорамна за дзеда... ён прыяжджаў да нас у горад, сядзеў каля пад’езда, курыў астру альбо люльку, пах стаяў непрыемны... дый размаўляў ён неяк шчарбата й гэкаў і ўсьміхаўся адным пярэднім зубам!

калі яго ня стала, я захаваў усе рэчы, якія адлюстроўвалі мне яго: наручныя гадзіньнікі з часоў нейкай заімшэлай вайны, чырвоная расчоска, якой ён любіў зачэсваць валасы назад, асабліва калі куды зьбіраўся, ванючы мунштук, люлька і недакураны пачак астры, і тая самая торба, сшытая з пакетаў ад малака... і гляджу я на гэтую торбу, якая часта трапляецца мне на вочы ў тэчцы пісьмовага стала, і плакаць хочацца, бо гэтая рэч для мяне цяпер – самая каштоўная.

## люстэркі

у адным далёкім мястэчку жыхары перасталі хадзіць у царкву, закінулі гэтую справу, бо начыталіся стоікаў. іншага ў бібліятэцы не было, і аўталаўка толькі па выходных прыяжджала, ды паштарка прыносіла падпіску на грэбаную «сб» толькі самай заможнай сям'і, карацей – ізаляцыя. і ўсё жыхарам цяпер падавалася штучным, і нішто іх ня радавала, і верылі цяпер яны, што жыцьцё доўжыцца й вяртаецца зваротна, і ўсё можа адбывацца шматкроць. і сэнс існаваньня згубіўся, і ніхто не трываў болей ніякіх смі, ніякіх укладаў жыцьця...

ня ведаў, што рабіць з прыхаджанамі, сьвятар, ажно пакуль аднойчы не надарылася выпадковасьць, якая перакуліла ўвесь сьвет.

у царкве каля іконы хтосьці паставіў люстэрка... завітала адна самотная прыхаджанка і памалілася перад люстэркам. потым завіталі яе сяброўкі, бо тая распавяла пра цуд, што быццам бы пасьля малітвы перад люстэркам як наноў нараджаесься.

і ўсе мясцовыя жыхары ўбачылі ў гэтым сэнс колазваротнага перараджэньня...

мінула колькі часу, у царкве цяпер месца ўсім не хапае, будуюць побач новую... усе цяпер моляцца на люстэркі, і зь люстэркаў на сьвет выходзяць новыя людзі.

## мары

вось для мяне слова мары асацыюецца са словам шмат, бо ангельская мова вымушае да параўнаньняў, і адначасова мары сугучныя для мяне са словам марнаваць, бо няма нічога на сьвеце, што б так зацягвала нас у жаданьні, памкненьні і спадзяваньні як мары, і таксама адначасова нічога на сьвеце няма іншага, ніж мараў, якія б так марнавалі з надыходам. у мяне ёсьць мара, не такая, вядома, як у Кінга, мая мара суб'ектыўная, эгаістычная, неверагодна дзёрзкая для нашай краіны – набыць альбо пабудаваць вялікі дом, не такі, што ў мяне тут... іншы... альбо ў скрайнім выпадку ўзяць і цалкам перабудаваць тое, што ў мяне ёсьць... і, вядома, я адразу трапляю ў такую дылему – калі я вырашыў жыць мастацтвам, то я ня маю ніякай магчымасьці зарабіць грошай. напрыклад, за друк у газэце альбо часопісе плоцяць такія сьлёзы, што нават няёмка ехаць па такі ганарар, у нашым беларускім стабільным Парадызе няма месца культуры і творчасьці, няма ніякай магчымасьці выдаткаваць месяц працы над апавяданьнем альбо ў скрайнім выпадку над артыкулам пра куртуазных ман'ерыстаў ці дэкадэнтаў, як спачатку табе адмаўляюць у пяці часопісах і толькі шосты бярэ тэкст у друк, але прапануе роўна 20 даляраў ганарару... параўнаем: пакунак туалетнай паперы – роўна 2 даляры коштам... у нас ёсьць Дзеяслоў, які можа плаціць грошы, і ў гэты часопіс адразу карціць даслаць раман,

бо плацяць па аб’ёме тэксту... у нас ёсьць pARTisan, які нічога ня плаціць, калі атрымлівае тэкст без замовы... у нас ёсьць Макулатура, часопіс, які сам па сабе нічога нікому ня аплачвае, але ён хаця б агаворвае гэта загадзя... ёсьць у нас Маладосць, часопіс, які празь дзяржаву заплаціць такія грошыкі, якія ў параўнаньні зь ЛіМаўскімі грашыма нават будуць выглядаць прыстойна, але, здаецца, шмат хто ад Маладосці таксама нічога не атрымлівае – але маладосьць нам нічога і не абяцае... плаціць Новы час, плацяць розныя папулярныя інтэрнэт-часопісы кшталту гэтых, магнэтаў і куку-каў... але тое, што ім трэба па зьмесьце, я не напішу ніколі... што рабіць? нічога... марыць пра дом, пра грошы, пра жыцьцё і працаваць на іншай працы, каб яна цалкам выцягвала зь цябе ўсе сілы й мазгі і каб не заставалася больш ніякіх дурных памкненьняў пра штосьці марыць і пісаць... працаваць, працаваць... і нават не імкнуцца, як Эзра Паўнд, запачаткоўваць грашовую фундацыю для сябра паэта, каб той мог не працаваць і толькі пісаць і марыць, марыць і пісаць...

## пекла

любая рэч можа апынуцца для чалавека пеклам. такім чынам, пеклам для Гітлера была мапа Эўропы. пеклам Сіда Вішэса была Нэнсі, якая стаяла перад ягонымі вачыма і дзень і ноч, як нязьменная выява шпрыца з наркотыкам для Бэроўза. пеклам для Хью Хэфнэра й па гэты час ёсьць жаночыя грудзі розных памераў, але пажадана каб ня меншых за другі. пекла Арцюра Рэмбо – опіюм і аркушы паперы. пекла Рамэна Гары – дарагі гарнітур. пекла Хэма – шклянка з вадкасьцю, якая дакладна ёсьць кактэйлем. пекла Ван Гога – гэта процьма пастозных мазкоў, падпарадкаваных адным накірункам, зададзеным уласным успрыманьнем асяродзьдзя. рэч, якая ніколі не зьнікае і толькі вастрэй праглядаецца ажно да самых немагчымых дробязей, і гэтая рэч адначасова пужае і прываблівае Генры Мілера, – похва. у кожнага ёсьць сваё пекла, якое перад вачыма, нават калі мы заплюшчваем іх і сьпім, гэтая рэч нікуды не зьнікае і толькі глыбей чапляецца за нашыя мары, памкненьні й жаданьні, робячы нас рабамі.

## хлусьня

Андрэйка зь дзяцінства хлусіў, скажаў праўду, і не было істотна, якую праўду ён скажаў, называючы яблык грушаю, альбо падманваў родную маці, кажучы ёй, што еў суп, а сам выліваў яго ў мыйніцу. гэта ў яго пачалося выпадкова і незалежна, як і любая хвароба альбо перайманьне на ўзроўні генаў. Андрэйка абвык хлусіць, бо такім чынам яму было прасьцей у камунікацыі і адначасова ён шчыра верыў у сваю хлусьню. ён сталеў і ў старэшых клясах так заманаў усіх сваімі прыдумкамі, басьнямі, плёткамі й хлусьнёю, што яго нават перасталі выклікаць да дошкі й аднаклясьнікі адвярнуліся ад яго, бо той ня быў здольным стрымацца, каб ня схлусіць па любым чыньніку. так Андрэйка самотным паступіў у вну на журналіста, адвучыўся, зарабляў грошы, рыхтуючы матэрыял для бсмр і ў рэшце рэшт паступіў на працу на першы тэлеканал, дзе для яго была свабода выбару хлусьні й скажэньня інфармацыі. яго кар’ера панеслася стрымгалоў да алімпійскіх вяршыняў: прэміі й граматы ад прэзіка, пасада галоўнага журналіста, а пазьней – дырэктара цэнтру інфармацыі і ідэалёгіі… потым, калі ў суседняй Расеі ніяк не маглі стрымаць буйны паток інфармацыі, Андрэйку запрасілі ў Маскву, каб там навучыць смі працаваць як мае быць, але ўсё кепска скончылася праз Украіну, калі некалькі ўкраінцаў адсачылі Андрэйку й запхнулі яму ў рот яго ўласныя ногі, так яго й знайшлі, памерлага, з нагамі ў роце. бо што ж яшчэ там мусіла апынуцца?

## адноснасьць

адзін чалавек зачыніўся ў сваім пакоі на ўсё жыцьцё, забыўся на тое, што звонку існуе іншы сьвет, абвык і паверыў, што ўвесь сьвет – гэта яго маёмасьць. валадарыць ён пачаў па-над шклянкамі, збанкамі, талеркамі, імбрыкамі, сталамі, ложкам, дываном, канапаю, адной шафаю і пішучай машынкаю, на якой адгрукваў кожны дзень новыя ўказы.

таксама ў кватэры жылі котка, тры мышаняты, сотня прусакоў і каля пяці соцень пладовых мушак дразафіл, якія, перамяшчаючыся ад аднаго сьмецьця на другое, падарожнічалі, як па пустэльні з Ноем, і прадстаўлялі сабою ворагаў, якіх чалавек штодзень зьнішчаў.

найбліжэйшым памагатым чалавека была котка, якая трымала ўладу па-над мышанятамі, якія вельмі рэдка куды высоўваліся і, перамяшчаючыся збольшага пад шпалерамі, час ад часу рабілі маршкідкі на лядоўню, якая сабою ўвасабляла харчавыя назапашваньні.

чалавек валадарыў жорстка і часта караў стол, бо ў таго падгіналіся ножкі, ажно пакуль не зламаў небараку.

пасьля доўгага кіраваньня ацалелай засталася толькі котка, і сьвет кватэры для чалавека больш не атаясамліваўся з сусьветным космасам і нават далёка не паходзіў на той, былы сьвет, у якім нарадзіўся чалавек. і ён засумаваў, і захацелася яму чагосьці новага...

і захацелася чалавеку даследаваць тое, што ў глыбіні, куды сьцякае вада з рукамыйніцы й ваннай, і захацелася яму дасьледаваць сьвятло, якое ліецца з вокнаў, і скокнуў чалавек з падваконьня, і прызямліўся на траву, і пабачыў, што ягоны космас – гэта нішто ў параўнаньні з тымі прасторамі, якія яму адкрыліся. і гэта глыбока шакавала чалавека, і ён праглынуў свой язык, і больш ня здолеў вымавіць ніводнага слова, і пайшоў жабраваць па сьвеце, адчуваючы сваю нікчэмнасьць і дарэмнасьць існаваньня, згубіўшы назаўжды сваю кватэрную краіну.

## дзеці

Борхес у дзяцінстве цікавіўся, якім чынам так адбываецца, што, калі закрываеш кнігу, літары ўнутры не перамешваюцца між сабою.

я ў дзяцінстве цікавіўся, якім чынам так атрымліваецца, што вось чалавек піша сабе на аркушах паперы літары, якія скаладаюцца ў словы й далей у сказы, абзацы, апавяданьні, а потым гэта друкуюць асобнай кнігай, і там усё зусім іншымі літарамі, і гэта ўсё памножанае... я ня мог уявіць, мне здавалася, што ў працэсе стварэньня кнігі ўдзельнічаюць нейкія таемныя сілы, містыка!

у мяне й па гэты час па любой зьяве альбо рэчы процьма пытаньняў, такое адчуваньне, што няма нічога на сьвеце, што б я ведаў дасканала. паўсюль прабелы, недаказанасьці, няведаньне. і аднначасова гэта падштурхоўвае да дзеяньняў, стымулюе цікавіцца. і ты пачынаеш чытаць процьму кніг, энцыкляпэдый, суцішаеш свой сум, пачынаеш паважаць сябе любімага.

і тут раптам які-небудзь дзіцёнак, не істотна які і дзе, як запытаецца пра штосьці вельмі, здавалася б, простае, і ты разумееш, што нічога не разумееш і нават ня ведаеш, як патлумачыць.

дзеці мяне заўсёды даводзяць да вар’яцтва, я адчуваю сябе не старэйшым і дарослым, але тупым немаўлём-перарosткам, бо як магчыма патлумачыць дзіцёнку, навошта вецер дзьме і адкуль ён бярэцца... альбо чаму гэта ў сабачкі хвост ходзіць

у розныя бакі, і што такое хвост, бо калі ты адкажаш яму, што сабачка такім сынам радуецца, ты проста не прабачыш гэтага сабе, энцыклапэдысту грэбанаму...

## сьветаўспрыманьне

творчасьць – рэч адносная і мае процьму тлумачэньняў, бо для кожнага займацца творчасьцю – гэта па-рознаму, і на зямлі не існуе двух творцаў, якія б аднолькава падыходзілі да сваёй справы. так, мачыма займацца эпігонствам, магчыма адкрыта й нахабна красьці, магчыма самому ствараць ад пачатку новае, але ўсё гэта ёсьць адзіны мэтатэкст (калі гэта датычна літаратуры) альбо адзіная карціна, да якой кожны мастак малюе сваё і дадае да агульнага палатна. я лічу, што ў сьвеце, у сусьвеце, як зьяве цэласнай, непадзеленай й цэнтраванай паўсюль і адначасова бяз межаў і краёў, у сусьвеце, дзе Бог – гэта сфэра космасу, існуе адна вялікая паэма, адзін вялікі раман, адна вялікая карціна, і кожны творца, па-рознаму ўспрымаючы сусьвет, падыходзячы да яго адкрыцьця з розных бакоў: хто карыстаецца наркотыкамі, хто натхняецца каханьнем і прыгажосьцю, хто атрымлівае сваю музу праз сэкс, але ўсе паўсюль і ва ўсе часы, кожны творца стварае тое, што ўжо было прапісаным ад стварэньня космасу. проста творцы маюць жаданьне й часам магчымасьць зазірнуць у нэтры й адтуль на паверхню дастаць колькі радкоў, колькі кніг, якія яны прапускаюць праз сваё сьветаўспрыманьне й адчуваньне і пераносяць на паперу альбо палатно. і, такім чынам, мы лёгка можам сьцьвярджаць, што сапраўдны мастак, пісьменьнік – звышчуйны да асяродзьдзя, і ён праз гэта пакутуе, і яго аба-

вязкова трэба падтрымліваць, бо гэта ня шахты даўбіць і не машыны зьбіраць, гэта неверагодна й невыносна і часта можа давесьці да вар’яцтва, але мне здаецца, што вар’яцтва – гэта ня самае кепскае выйсьце.

## граблі

няма нічога больш нязграбнага й недарэчнага, ніж мянушка ў беларусаў, я ненавіджу слова бульбаш, мяне ад яго калоціць, гэта нейкая лухта! хто яшчэ прыдумаў нашую краіну называць бульбашляндыя, у нас ня так шмат бульбы расьце, і мы не ўжываем яе паўсюль і ў вялікай колькасьці, і нават дранікі першымі пачалі гатаваць немцы, і ўвогуле, нашая краіна мне бачыцца хлебнаю, самай сапраўднай хлебнай краінаю… а вось гэтая бульбяная тэма, навязаная нам ад самага пачатку… і нават напружвацца ня трэба, бо яшчэ мая прабабуля казала, што беларус – пшанічны вус, толькі такі беларус самы сапраўдны!

а што яшчэ за шалёная характарыстыка для нацыі – талерантная… мы што, тут у кожнай сям'і песьцім дзяцей з Этыёпіі? наладжваем місыянэрскую дапамогу? даём правы геям і лесбіянкам? абараняем хатніх жывёл ад вар'ятаў? падтрымліваем дзіцячыя дамы? талерантна ставімся да сусьветных рэлігій?

здаецца мне, што мы ні на адно з гэтых пытаньняў ня зможам адказаць, бо мы бульбашы, зь цьвёрдым знакам на канцы!

## электрамагніт

у Ляксея было дзіўнае электрамагнітнае поле... ён ня мог хадзіць у крамы, бо паўсюль на ўваходах яго пераправяралі, прымушалі здымаць усё, што можа даваць сыгнал, і прасілі паказаць торбу й заплечнік, бо ўсе ўстаноўкі супраць крадзяжоў пікалі й зьвінелі адразу, як толькі Ляксей праходзіў празь іх!

спачатку Ляксей крыўдаваў і яму было заўсёды сорамна, што яго штораз турбуюць, падазраюць, а гэтыя турнікеты пішчаць. у яго не было ніякага мэталу ў арганізьме, яго аўра была выкшталцонаю, бо гадалка так сказала... але аднойчы, калі ён нарэшце пагугліў сістэму па абароне спажывецкага тавару ў крамах і гіпрмаркетах, ён зразумеў, што ён электранамагнічаны, незвычайны і, калі б жыў раней, працаваў бы ў цырку, калі б тады ведалі пра электрамагнітныя палі... але цяпер гэта ўжо нікому не цікава, нават не запосьціш на ютуб, не супадаюць інтарэсы карыстальнікаў...

і Ляксей, як звычайны чалавек, працуе сабе, ходзіць як мага радзей у гіпэрмаркет, і часьцей завітвае ў шапік па піва й чыпсы, і нават не здагадваецца, што антэну, якую ўсталявала, нават не запытаўшыся, на ягоным доме «мтс», ён сваёй незвычайнасьцю зь вялікім посьпехам глушыць і гэтым абараняе ад хваробы адну суседку й трох суседаў.

*Жнівень – сьнежань 2013*

